**ББК 83.3Бел1**
**С75**

Со времени рождения Франтишка Богушевича минуло 150 лет. Его наследие, известное читателю, широко исследовано современным литературоведением, архивы поэта, к сожалению, не уцелели. Автору книги удалось воссоздать многие страницы жизненного пути поэта, его окружение, показать Ф. Богушевича в Петербурге, Дотишках, Нежине, Вологде... Впервые печатаются очерки о родных и близких Богушевичу людях.

**С $\frac{4603020102 - 176}{М302(03) - 91}$ 86 – 90**

**ISBN 5-340-00-495-3**

## СВІРАНЫ

Колькі разоў даводзілася ехаць паўз іх па шляху на Вільнюс! І кожнага разу, калі перад вачыма мільгаў дарожны слуп з лічбаю 159, ёкала сэрца: «Тут нарадзіўся Францішак Багушэвіч». Вока імгненна акідвае, нібы фатаграфуе, мясцовасць. З пагорка, што пачынаецца адразу за шашой, адкрываюцца велічныя краявіды. Усюды вёскі. Параскіданыя па грудах, атуленыя зелянінай садоў і абсадаў, сярод жытнёвых палёў, яны ствараюць малюнак даўно абжытай зямлі. А на самым блізкім плане — Свіраны, тыя самыя Свіраны, дзе ў 1840 годзе 9 сакавіка нарадзіўся будучы славуты паэт і адвакат.

Размясціліся Свіраны ў лагчыне, сярод пагоркаў. Адзін з іх, паўднёвы, самы вялікі і пакаты, дык, можна сказаць, такі добра атуліў свіранскія падворкі ад усіх вятроў.

Лагчына ў кустах вербалозу, алешніку. Шмат і арэшніку. А пасярэдзіне — лужок, увесь у жоўтых і белых красках, між якіх павытыркаліся з зямлі, нібы грыбы, замшэлыя, васпаватыя, абгладжаныя дажджамі і вятрамі камяні.

Свіраны займаюць невялікі лапік зямлі, але жыццёвых выгод тут для чалавека шмат. Побач, паўз самыя пляцы і агароды, бяжыць-вывіваецца нешырокая, з чыстай сцюдзёнай вадою рачулка.
Назвы яе ніхто не памятае. Расказваюць, што некалі тут стаяў і млынок. А каля самай вёскі, абапал дарогі, абрысы колішніх, ужо зацягнутых рознымі наплывамі і ілам, сажалак. Мабыць, некалі яны не толькі аздаблялі фальварак, але мелі і пэўную практычную выгоду. Цяпер яны спрэс параслі чаротам. Зямля тут добрая, урадлівая. Але самае першае, што кідаецца ў вочы пры сустрэчы з Свіранамі, гэта шнурок векавых ліпаў. Гэтыя ліпы — рэшткі прысадаў, якія калісь вялі да свіранскага двара.

Свіраны не маюць звыклай вясковай вуліцы. Кожная сядзіба сама па сабе. Разам з тым яны з'яднаныя. І яднае іх усё той шнурок старых ліп.

З часу нараджэння Багушэвіча не нашмат пабольшалі Свіраны. Быў некалі тут адзін двор, а цяпер тры.

Калі ехалі ў Свіраны, нам усю дарогу карцела: «А ці ведаюць свіранцы, чым славутая іх зямля? Ці чулі яны што-небудзь пра нашага паэта?»

Пытанне мае сваё вытлумачэнне: Свіраны належаць Літве.

Першы напаткаўся нам у Свіранах невысокі, прысадзісты селянін, апрануты ў выцвілую кепку заходняй, яшчэ даваеннай мадэлі — з падоўжаным, выцягнутым брыльком, з адметнымі закладкамі на

вушах, з пэўнай металёвай аздобай. Сустрэў ён нас крыху насцярожана. Мы з усёй шчырасцю (думалі зрабіць прыемнае) далі яму: «Laba diena!» — ведалі колькі слоў па-літоўску. А пачулі нашае, звыклае: «Дабрыдзень!» Наш стрэчны родам з-пад Паставаў. У Свіранах жыве не гэтак даўно. Завуць яго Станіслаў Субач. Ён расказаў нам пра Свіраны ўсё, што паспеў сам даведацца ад тубыльцаў. Ад яго мы пачулі, што даўней Свіраны называлі яшчэ і Папоўкай. Нават цяпер іншы раз хто-ніхто возьме дый назаве Свіраны гэтай назваю. А чаго? Нібыта свіранскія землі некалі належалі царкве і стаяла тут каплічка. «Я сёлета араў,— расказваў Субач,— узяў і разагнаў дзірван, дык плугам павыворваў шмат чарапіцы і цэглы... Ці не з той каплічкі?.. Але, выбачайце,— раптам схамянуўся дзядзька Субач,— чаму гэта вас цікавіць?»

Мы растлумачылі, што нас цікавіць у Свіранах, крыху расказалі пра Багушэвіча, прачыталі колькі ягоных вершаў — «Бог не роўна дзеле», «Праўда»...

Слухаў нас дзядзька Субач уважна, сур'ёзна. Па вачах відаць было: цяжкія думкі перажывае ён, успамінае штосьці сваё, глыбока сялянскае. Нарэшце, счакаўшы, сказаў: «Відаць, смелы быў чалавек, калі так пісаў». Ён пастаяў яшчэ якую хвіліну з намі і неяк непрыкметна патупаў на падворак свае хаты. Але праз нейкі час вярнуўся з шматком паперы:

— Калі можна, запішыце мне імя таго чалавека, пра якога вы расказвалі,— папрасіў ён.— Мая дачка хадзіла ў школу, і яна павінна ведаць пра яго.

Што і казаць! Кранальная хвіліна! А момант нечаканы, незабыўны! Мы бралі з сабою колькі паэтавых фотаздымкаў. Адзін з іх — на ім паэт у сярмязе, з раскідзістай барадою і доўгімі вусамі, з тужлівым поглядам вачэй — мы і падаравалі дзядзьку Субачу. Ён доўга глядзеў на паэтава аблічча, а пасля сказаў: «Пастаўлю на століку, пры люстэрку, хай унукі глядзяць... Дый і суседзям будзе цікава».

Калі мы перадавалі дзядзьку Субачу Багушэвічаў партрэцік, то напачатку і не падумалі, і ў галаву не прыйшло, што ў гэтым ёсць штосьці сімвалічнае. І толькі ўжо ў Мінску як след усвядомілі высакародства дзядзькі Субача. Было прыемна, што Багушэвічаў партрэцік цяпер будзе і на той зямлі, на якой нарадзіўся наш славуты пясняр.

У Свіранах паэт пражыў першыя свае шэсць гадоў маленства. Менавіта адсюль пачалося яго пазнанне свету. І ішло яно праз самае блізкае: праз куванне зязюль, праз гаману ручаінак, праз спевы жаўрука ў небе. Праз навакольныя гаі і жытнёвыя сцяжынкі. Як і

даўней, тут у прырэчных кустах цохкаюць салаўі, цінькаюць сініцы. На старадрэвінах клякочуць буслы. Дарэчы, старыя ліпавыя прысады ў Свіранах пад аховай закона. Дзядзька Субач расказаў нам цікавую гісторыю.

Аднаго разу аштрафавалі суседа. І за што? Бураю паваліла на яго грады ліпу, а ён паспяшаўся парэзаць яе на дровы.

«Віна яго была ў тым,— растлумачыў дзядзька Субач,— што сусед мой не заявіў у сельсавет пра паваленае дрэва. Але я цяпер разумею, што тут і да чаго».

Дзядзька Субач звязаў гэтую пільную ўвагу да старых свіранскіх ліпавых прысад з памяццю да беларускага паэта.

Францішак Багушэвіч усё сваё жыццё цікавіўся мясцінамі свайго нараджэння. Яшчэ хлапчуком ён пачуў, што праз Свіраны праходзілі французы, што многія з іх тут склалі свае галовы. Пазней яму паказвалі іхнія магілы. Сёе-тое Францішку ўдалося вычытаць пра Свіраны і з кніг. Вельмі цікавы, напрыклад, артыкул надрукавалі ў 1885 годзе «Литовские епархиальные ведомости».

Розныя згадкі пра Свіраны неаднойчы абуджалі ў Францішка жаданне наведаць іх. І ў яго такая мажлівасць была. Жывучы ў Вільні, ён часта ездзіў у Кушляны, і кожнага разу яму даводзілася па дарозе праязджаць праз любы яго сэрцу кут. Ён пільна ўглядаўся ў яго абрысы, і заўсёды яго прыветна сустракалі і праводзілі ўсё тыя ж ліпавыя прысады. Ён глядзеў на іх задуменна, згадваў сонечныя дні свайго маленства, бацькавы апавяданні, і ў душы яго варушылася штосьці радаснае і бесклапотнае.

Памятаў ён і пра тое, што ў Свіранах нарадзіліся яго браты Уладзіслаў, Валяр'ян і сястра Ганна. Пра гэта часта гаварылася ў сям'і. Дый сам Францішак пры нагодзе любіў расказаць сябрам пра той куточак зямлі, дзе нарадзіўся.

## РУКОЙНЫ

Свіраны былі першай у біяграфіі будучага паэта геаграфічнай назвай, засведчанай у дакументах. Адначасова ў яго жыццяпіс было ўпісана і мястэчка Рукойны. Менавіта ў гэтым мястэчку хрысцілі малога Француся. Тут жа было вызначана яму і імя. Пра гэты ўрачысты момант у жыцці Багушэвіча ў кнізе хросных метрыкаў Рукойненскага касцёла запісана так:

«Года Божага тысяча восемсот саракавога месяца сакавіка дзевятага дня ў Рукойненскім парафіяльным рымска-каталіцкім

касцёле ахрышчана вадой і святым алеем дзіця па імені Францішак-Бенядзікт».

Такі быў пачатак жыццёвага шляху нашага песняра.

Рукойны ад Свіранаў недалёка, усяго якія-небудзь шэсць вёрстаў, і коні давезлі малога да касцёла меней як за гадзіну. Гэта было яго першае, яшчэ несвядомае падарожжа. Маці, дый не толькі маці, але і хросныя не раз расказвалі яму пра тую, у пялёнках, вандроўку ў Рукойны да хросту, і яму заўсёды выразна, паводле іх апавяданняў, бачыўся той дзень.

Была субота. Бацька з'ездзіў да ксяндза ў Рукойны і дамовіўся, што прывязе сваё немаўлятка.

Ксёндз Юзаф Мікуцкі добра ведаў Казіміра Багушэвіча. Ён ужо ахрысціў не адно яго дзіця — Уладзіслава, Ганну, блізнят Анастаса і Нарцыса, якім, праўда, бог не даў доўга жыць, і нічога не меў супраць, каб ахрысціць і яшчэ аднаго сына, тым больш што ў суботу мелася быць служба.

Павезлі малога Фрайцуся ў Рукойны Багушэвічавы сваякі і суседзі — Фелікс Галаўня і Петранеля Пастаевіч. Яны ўзяліся куміць хлопчыка. Разам з імі ехала таксама другая пара кумоў — дзядзька Ігнат Пастаевіч і Тэкля Галаўня, за сведак. Француся трымала на руках цётка Петранеля. У дарозе ў яе была адна турбота: каб часам не застудзіць малога. Яна ўвесь час то атуляла тварык немаўлятка каўняром, то адкідала яго, каб паглядзець, што робіць там малое. Але той не надта зважаў на клопаты дарослых, адно толькі нешта зрэдку мыляў салодка губкамі ды пасопваў ружовым носікам.

Дзень дзевятага сакавіка выдаўся сонечны. Якраз у гэтую пару сонца пераходзіла пад знак Барана. Дый па календары дзевятага сакавіка лічылася пачаткам вясны. Праўда, паўсюль яшчэ ляжаў снег. Але скрозь у паветры дыхала блізкай вясной. Неба было чыстае, паркалёвае, нібы кім крыху падсіненае. Дзьмуў з паўночнага захаду нямоцны ветрык. Верхні шарпачок снегу станавіўся наздраваты, свяціўся якойсьці казачнай мярэжаю. Зранку быў невялікі марозік, але апоўдні спаў. Санная каляя пад палазамі нібы плавілася. Малы ў дарозе асабліва нікога не турбаваў, толькі ў касцёле, калі акраплялі вадой, увесь здрыгануўся, яўкнуў разы два і змоўк, водзячы вочкамі па храме божым. «Спакойнае дзіцятка будзе,— сказала кума.— І цярплівае».

Гэтыя словы яна паўтарыла і ў Свіранах, калі перадавала Француся ў матчыны рукі. Тая была радасная ад такой пахвалы, толькі бацька нешта хадзіў па хаце крыху змрочны, нібыта нечым незадаволены. Яго вельмі турбавала, што хлопчык нарадзіўся ў марцы, ды яшчэ ў

высакосны год. «Кепская гэтая прыкмета,— бедаваў Казімір Багушэвіч.— Вельмі кепская... Нейкі няўдачнік з яго будзе. А тут халера разгулялася, косіць людзей...» У адным толькі ён знаходзіў суцяшэнне — сына хрысцілі ў дзень вясновага раўнадзенства, калі сонца паварочвае на вясну. «Мо хоць гэты рок у чым-небудзь дапаможа яму ў жыцці?»

Аднак, нягледзячы на ўсе трывогі, згулялі як мае быць хрысціны, госці назычылі бацькам і немаўлятку добрай долі, каб яно ў іх расло вялікае, разумнае, багатае, шчаслівае, здаровенькае, галасістае,— на радасць людзям, на ўцеху бацькам, каб карміцелем іх стаў на старасці.

А тым часам праз нейкі год у Казіміра Багушэвіча нарадзіўся яшчэ адзін сын, і ўвесь клопат бацькоў быў скіраваны на меншанькага, хоць і Францусь быў яшчэ не вельмі каб вялікі.

Неўзабаве Багушэвічы перавязуць дзяцей у Кушляны. Пра Рукойны ў іх сям'і будуць толькі згадкі. Праўда, даволі частыя. Паблізу Рукойнаў жылі сваякі з матчынага роду — Галаўні — Францішкавы дзед і бабка, а таксама цёткі і дзядзькі. Яны зрэдку прыязджалі ў Кушляны, і ў іх гаворцы часта гучала назва гэтага мястэчка.

У 1852 годзе Францішак Багушэвіч убачыў на свае вочы тое мястэчка, дзе ксёндз калісьці ахрысціў яго святой вадой і алеем і даў яму імя. Было гэта якраз у той год, калі Казімір Багушэвіч вёз Францa ў Вільню на вучобу. Калі праязджалі Рукойны, бацька махнуў пугай на рукойненскі касцёл: «Вось тут цябе, сынку, хрысцілі, за царскія вароты насілі...»

Франц не надаў асаблівага значэння гэтай падзеі: «Хрысцілі дык хрысцілі». Але да мястэчка пільна прыгледзеўся. Было яно тады не вельмі вялікае, акурат такое, як Жупраны. Двароў мо дваццаць пяць і набіралася ў ім у тую пару. Местачковыя хаціны былі падобныя адна да аднае, нізкія, прысадзістыя, з счарнелымі, парослымі зялёным мохам стрэхамі. Было такое ўражанне, што гаспадары іх мала дбалі пра жытло. Жылі — абы страха была над галавою. Усе хаты збіліся, нібы чорныя авечкі, у кучу, ціснуліся бліжэй да касцёла, які сярод усёй гэтай шэрай, прыземістай, аднастайнай забудовы выглядаў больш урачыста і велічна.

Касцёл, у якім хрысцілі Францішка, быў пабудаваны адносна нядаўна. Даўнейшы, драўляны, спалілі французы ў 1812 годзе, а гэты пабудавалі ў чатырнаццатым.

Была некалі ў Рукойнах і паштовая станцыя, людная, шумная. На гэтай станцыі Францішак пачуў, што мястэчка розныя людзі па-рознаму называюць. Чыноўнікі і франты-шляхцюкі Рукойнікамі, а

звычайныя сяляне-мужыкі — Рукойнамі, а то і проста Рыконямі. Багушэвіч запомніў гэтую назву. Яна падалася яму больш зручная для маўлення. Пасля ён даведаецца, што літоўскае слова «rukas» азначае туман, што ад гэтага слова паходзіць і назва мястэчка.

Цяпер цяжка сказаць, якія здарэнні, эпізоды, народныя паданні, пачутыя ў наваколлі Рукойнаў, паэт скарыстаў у сваіх творах. Але ў адным з іх, у вершы «Як праўды шукаюць»,— вельмі выразныя прыкметы тагачаснага рукойненскага наваколля. Вось толькі адзін такі абразок:

Раз еду я ў Вільню адведаць сынка,
Ажно пры дарозе пасецца кабыла,
Стаіць чалавек якісь ля млынка,
За млынам сука там брахала ці выла,
І гдзесьці «ратуйце» крычала кабета,
А мостам ляцела якаясь карэта...

Так, быў паблізу Рукойнаў некалі і млын, быў і фальварак, была бліжэй да Вільні, на семнаццатай вярсце, рукойненская карчма і масток праз рачулку Рукойну. Дарэчы, аднаго разу паэт згадвае ў вершы і саму назву мястэчка:

Пытаецца ратнік мяне ды за сведка:
Ці мельнік цкаваў, ці крычала кабетка?
Ці сучка парвала? А сучку ці білі?
Ці відзеў, што ў мосце масціны пагнілі?
Ці відзеў, як мельнік смяяўся?
Як пан з фурманом у карэце купаўся?
Як фурман ўтануў, а як пан ратаваўся?
Як злодзей цікаўся з-пад млыну да коні?
Як свіснуў кабылу й ляцеў на Рыконі?

Безумоўна, згаданыя ў вершы Рыконі — гэта тыя самыя Рукойны, з якімі ў Багушэвіча звязаны пачатак усіх яго жыццёвых дарог. Дарэчы, паблізу Рукойнаў ёсць і яшчэ адна вёсачка, якую Багушэвіч называе ў вершы «Здарэнне». Гэта — Кіяны. Цытуем: «Ехаў я раз ад Кіяны ды ў Смургоні, і не п'яны...» Відаць, Багушэвіч добра ведаў рукоўненска-свіранскі кут, геаграфічнымі назвамі якога ўвесь час карыстаўся як сваімі роднымі, з маленства яму вядомымі.

Цяпер Рукойны, гэтак жа, як і Свіраны, належаць Літве, і назва іх адпаведна падпарадкавалася законам літоўскай мовы. Па-літоўску

Рукойны гучаць як Рукайняй. Корань слова застаўся ўсё той жа. І ўсё ж не адразу здагадаешся, што Рыконі — Рыконы — Рукойны і Рукайняй — гэта ўсё тое самае. Але цяпер мы ўжо дакладна ведаем, што літоўская вёсачка Рукайняй — гэта яшчэ адна мясціна на нашай зямлі, якая звязана з імем беларускага песняра. І ляжыць тая вёска пры бойкай дарозе на Вільнюс: з боку Мінска — на 165-м кіламетры; з боку літоўскай сталіцы яшчэ бліжэй — усяго паўгадзіны якой язды. Запомнім гэтыя арыснціры, і калі каму-небудзь давядзецца вандраваць ці ехаць у тых мясцінах, хай згадае: у гэтым старажытным мястэчку (у летапісе яно згадваецца з 1435 года) быў ахрышчаны да жыцця старым рукойнснскім вікарыем Юзафам Мікуцкім вялікі паэт беларускага народа Фрапцішак Багушэвіч. Пра гэтую падзею заўсёды можа нагадаць і культавая будыніна, што ацалела ў Рукойнах і сёння.

## У КУШЛЯНАХ

З 1846 года, а можа, нават і крышку раней, сям'я Казіміра Багушэвіча пачала стала жыць у Кушлянах. Падкрэсліваем — сям'я Казіміра. Падкрэсліваем невыпадкова, не так сабе. Некаторыя літаратуразнаўцы згаданую дату — 1846 — час нараджэння малодшага Францішкавага брата Апалінара ў Кушлянах (усе іншыя Казіміравы дзеці нарадзіліся ў Свіранах) — палічылі за час набыцця Багушэвічамі Кушлянаў. На самой жа справе, як сведчаць найноўшыя архіўныя адкрыцці, Кушляны — другая іх назва Мігуцяны — належалі Багушэвічам з 1749 года. Іх купіў за 450 польскіх злотых Францішкаў прапрадзед Антон. З таго часу ў Кушлянах змянілася не адно пакаленне Багушэвічаў. Нам сёння вядомыя і іхнія імёны. Францішкавымі прадзедамі былі Бенядзікт і Казімір, а дзеда звалі Восіп.

У пару Францішкавага маленства Кушляны нагадвалі маленькі феадальны кут з усімі яго атрыбутамі — старасвецкімі гаспадарчымі забудовамі, нізкімі прысадзістымі пунямі, аборамі, свірнамі, стадоламі, з вялікім мноствам прыдарожных каплічак і крыжоў; з доўгай, выцягнутай да балоцістага поплаву, што зваўся Ваўкелы, афіцынай; у ёй жыла з 1846 года сям'я Казіміра Багушэвіча. Была тут і сажалка, паблізу рыпеў над студняй журавель, па-кушлянску свірчня. Наваколле Кушлянаў абступалі ў сваёй першабытай красе лясы і пушчы. Іх сумны гоман, а таксама нялёгкае паднявольнае жыццё сялян рана абудзілі ў душы хлапчука спагаду да простага люду. Яму яшчэ выпала прыхапіць ладны кавалак таго жыцця, калі над прыгоннымі свістаў бізун, калі з вуснаў людзей не сыходзілі словы

«аканом», «ахмістрыня», «прыганяты», «цівун», калі пан патрабаваў, каб пры яго з'яўленні спявалі песні. «Сляза з вока коціцца, спіна ныегудзе ад цяжкай, праз сілу, працы, а ты яму спявай «Дубочак зялёненькі»...» Расказваюць і пра такія панскія ўцехі ў гэтых мясцінах... Сумна стане якому цівуну, дык ён загадае ахвярыхлапчуку на дрэва залезці і адтуль зязюлькай куваць. А пан складзецца і стрэліць у той бок. Стрэліць і з смеху зойдзецца. Гэтыя суровыя ўражанні з кушлянскага маленства пасля адгукнуцца ў такіх вось радках:

Там быў аконам, камісар і цівун,
Намеснік, ляснічы, хмістрыня, паны.
І кожны меў права ўзяць за бізун,
І кожны меў права да нашай спіны...

У Кушлянах і іх наваколлі ў пару Францішкавага маленства мо як нідзе на не вельмі вялікім абшары скучылася даволі шмат маёнткаў і фальваркаў. А некаторыя панскія двары дык і зусім мясціліся ўпрытык адзін да аднаго. На кушлянскіх абшарах гаспадарылі Сулістроўскія, Тымоўскія, Заблоцкія, Ясевічы, Маркоўскія. Так што было дзе Францішку нагледзецца на людское прыніжэнне і гора. Пэўна, таму яго творчасць сацыяльна завостраная, у ёй мала лірыкі. Больш слёз, поту, сялянскай гаротнасці. І ўсё ж дзе-нідзе праб'ецца радок пра сябе, пра сваё маленства. Вось хоць бы гэты, пра бярозку:

Вун стаіць бярозка тут ля самай хаткі,
Косы папусціла... плача, кажуць людзе,
А мне так здаецца, што ёй ані гадкі:
Што было — не помне, не узнае, што будзе.
А можа ж і помне, як то я калісьці,
Быўшы малым хлопцам, лазіў, калыхаўся.

Бавіў свой час Францішак з братамі Уладзіславам, Валяр'янам, Апалінарам, сястрой Ганнай, з дзецьмі навакольных вёсак і шляхецкіх засценкаў. Разам з вясковымі дзецьмі Францішак правядзе не адну таямніча-загадкавую ноч на начлезе, удосталь наслухаецца там пры зыркім вогнішчы розных дзівосаў, напаткае не адзін усход сонца. На ўсё жыццё заваружаць яго сэрца самотна-працяжныя спевы пастушковых дудак. Усё гэта, мабыць, і будзе першай позвай да чароўнага. Ад вясковых дзяцей Францішак вывучыцца таксама жывому беларускаму слову. Таямнічы свет кушлянскага наваколля

Францішак спазнаваў праз легенды і паданні. Кушляны сфармавалі ў юным Багушэвічу паэта. Але каб гэты прыродны талент абудзіўся, прарэзаўся, давялося шмат чаго яшчэ пабачыць, шмат чаго перажыць. Вучыўся Францішак спачатку дома, у так званых хатніх настаўнікаў, затым працягваў вучобу ў чатырохкласным аддзяленні Віленскай гімназіі, якую закончыў у 1861 годзе. Лета 1861 года ён пражыў у Кушлянах, а затым выправіўся на вучобу ў Пецярбург.

## У ПЕЦЯРБУРГУ

Заняткі ў Пецярбургскім універсітэце прызначаліся на шаснаццатага верасня. Францішак Багушэвіч прыехаў у Пецярбург больш чым за тыдзень да іх пачатку. Трэба было трохі агледзецца, абвыкнуцца з сталіцаю, кут які знайсці. Ды і з лацінскай моваю яму не ўсё было зразумела. Яшчэ адзінаццатага жніўня ён павінен быў здаваць экзамен па лаціне. Аднак даведаўся пра гэта Францішак вельмі позна. Позва на экзамен прыйшла на Вільню. А ён той парою бавіў час у бацькоўскім фальварку. Віленскі ж паліцмайстар, на імя якога прыйшла позва, шукаў Францішка ў Вільні. Шукаў, відаць, доўга, бо адказ ва універсітэцкую канцылярыю паслаў толькі дваццаць трэцяга жніўня, калі ўсе экзамены ва універсітэце даўно ўжо скончыліся,— што «азначанага Багушэвіча» ён нідзе не знайшоў. Так што Францішку трэба было ўладкаваць неяк і гэты свой клопат.
Пятага верасня ён заходзіў ва універсітэт, высветліў, што яго цікавіла, хвалявала; удакладніў сваё прозвішча: тут чамусьці яго перахрысцілі з Багушэвіча ў Багушэўскага. У той жа дзень забраў з канцылярыі пасведчанне аб нараджэнні і даведку аб сваім шляхецкім паходжанні з абяцаннем вярнуць іх да пачатку заняткаў. Ці не спатрэбіліся яны Францішку для ўладкавання на кватэру, для афармлення так званага віду на жыхарства? Пэўна што так.

Пасяліўся юнак на Васілеўскім востраве, на 2-й лініі. Гэта было не вельмі далёка ад універсітэта. Францішак ужо разведаў і самую блізкую дарогу да свае вучобы. Яна ішла спачатку паўз самую Няву, палац Меншыкава, каля Акадэміі мастацтваў паварочвала на другую лінію. На дарогу трэба было не больш як хвілін дзесяць няспешнай хады. Няблага ўжо ён арыентаваўся і на ўсім Васілеўскім востраве, ведаў, дзе і што месціцца, знаходзіцца, куды зайсці, дзе павярнуць і дзе выйсці. Горад яму падабаўся. Шмат якія будынкі, помнікі, палацы ён пазнаваў па малюнках з кніжак і часопісаў... Медны коннік... Ісакаўскі сабор. Цяпер паўз яго штодня даводзілася хадзіць Францішку. Адміралцейства. Суровыя муры Петрапаўлаўскай

крэпасці, пецярбургскія масты... Усё было цікава Францішку ў стольным Піцеры. Адно толькі яго тут засмучала: надвор'е. Як прыехаў у пачатку месяца, то амаль і не было ніводнага сонечнага ці хоць проста сухога дня. То халодны дождж бесперастанку сыпаў, то імжа якаясь вісела над горадам, то пранізлівы, уедлівы вецер з Нявы цягнуў і працінаў да касцей. Холад і золь вельмі надакучалі Францішку. Ен нават пачаў адчуваць, што горшае здароўе, сціскае яму горла і грудзі. Схадзіў да доктара. У вельмі халодныя дні стараўся зусім не выходзіць з дому. Што-кольвек чытаў ці спакваля рыхтаваўся да заняткаў — пятнаццатага верасня яго залічылі ў студэнты,— пісаў лісты сваім родным і згадваў, якая прыгожая цяпер пара ў яго Кушлянах.

Аднак доўга заседжвацца дома не даводзілася. З'язджаліся з летніх канікулаў старшакурснікі. Яны знаёміліся з навічкамі, распытвалі, хто і адкуль прыехаў, а самае галоўнае — тлумачылі ім нейкія новыя правілы, якія яшчэ ў маі прыняло кіраўніцтва універсітэта і хоча ўвесці ў практыку. То крый божа, каб тыя правілы ні ў якім разе і ніза-што, ні за якія абяцанкі не прымалі, бо яны, гэтыя правілы, нібыта прыніжаюць іх студэнцкую годнасць, абмяжоўваюць іх правы. Шмат і іншых розных было гаворак. Першакурснікі з затоенай цікавасцю слухалі студэнцкіх агітатараў і з трывогаю чакалі пачатку заняткаў. А пачаліся яны, як і належала, у прызначаны дзень. Але заняткамі гэта было цяжка назваць. Універсітэт у тыя дні хутчэй нагадваў растрывожаны вулей, чым навучальную ўстанову. Паміж лекцыямі студэнты хадзілі парывістым цугам па вузкіх скляпеністых універсітэцкіх калідорах, збіраліся ў аўдыторыях вялікімі гуртамі, шумна гаварылі, спрачаліся. Да іх іншы раз пачціва падыходзілі ў форменных гарнітурах выкладчыкі, спрабавалі ў нечым іх пераконваць, але дарэмна. Моладзь была непадкупная, ні на якія ўгаворы не паддавалася. «Не трэба нам вашыя матрыкулы! — казалі разгарачаныя дзецюкі.— Не прызнаём вашых ганебных правілаў!» Першакурснікі вельмі хутка скемілі, чым абураны іх старэйшыя сябрукі, і многія, без асаблівых разваг, далучыліся да агульнага віру. Дый цяжка было не далучыцца. На кожным кроку, куды ні ступіш,— мітынгі, сходы. Хочаш не хочаш, а спынішся, станеш, паслухаеш, увальешся ў гэтую хвалю.

Слухаў гэтыя спрэчкі і Францішак. Гарачай хваляй абдавалі яго істоту вельмі смелыя прамовы студэнцкіх важакоў. Неўзабаве ва універсітэце пачалі з'яўляцца пракламацыі. Яны былі такія ж палымяныя, як словы жывых прамоўцаў. У адной з іх, за 23 верасня, гаварылася: «Зараз мы стаім напярэдадні раздачы новых правілаў,

якімі хочуць нас спавіць... Ніякіх правілаў зноў не прымайце і кончана; прымусіць вас не могуць, калі вы раз усе рашыліся на гэта; а тыя, што іх прымуць пасля агульнай адмовы, пакажуць сябе здраднікамі, канібаламі, імёны якіх можна будзе выставіць на агульную ганьбу, і слава іх подлай баязлівасці пойдзе далёка-далёка! Памятайце ж: аднадушнасць, аднадумнасць, аднагалоснасць і энергія».

Апошнія словы гэтай адозвы глыбока ўзрушалі кожнага. Нікому не хацелася быць ні канібалам, ні здраднікам, ані тым больш баязліўцам. Подлая слава, як абяцала адозва, пойдзе далёка.

У гэты ж дзень ва універсітэце ў актавай зале адбыўся і студэнцкі мітынг. Ён нагадваў разбушаванае мора. Не паспяваў скончыць адзін прамоўца, як яго месца займаў другі. Дый распачаўся мітынг не зусім звычайна. Дзверы ў актавай зале былі на замку. Узрушаны юнацкі натоўп адным парывам вынес іх і імгненна запоўніў залу. Было зразумела: ніякіх заняткаў ва універсітэце пакуль не будзе. Было таксама зразумела і другое: урад і кіраўніцтва універсітэта не даруе студэнтам усяго гэтага. Хто так думаў — не памыліўся. Ужо дваццаць пятага верасня пачаліся арышты. Вязняў, пасля кароткіх допытаў, а то і без допытаў, цэлымі партыямі кіравалі проста ў Петрапаўлаўскую крэпасць. За некалькі дзён яна была перапоўнена студэнтамі. Хтосьці дасціпны падлаўчыўся і цёмнай кастрычніцкай ноччу выпісаў на яе мурах фарбаю: «Петербургский университет». Начальства шалела, лютавала. За студэнцтва ўзялася не толькі паліцыя, але і розныя міністэрствы: асветы, унутраных спраў, ваенны губернатар і нават сам цар. Яны ўсе разам не ведалі, як уціхамірыць моладзь, як даць ёй рады. Нарэшце, пасля доўгіх разваг, было вырашана пачатак заняткаў перанесці на 11 кастрычніка. Але і адзінаццатага кастрычніка яны не пачаліся. Адбылося тое, чаго найбольш баялася кіраўніцтва універсітэта: дванаццатага кастрычніка студэнты з аўдыторый выйшлі на вуліцу. Яны прайшлі праз увесь горад, а затым распачалі вірлівы сход перад домам куратара вучэбнай акругі. Патрабаванні былі тыя самыя: свабода студэнцкіх сходаў, зніжэнне платы за навуку, допуск моладзі да грамадскага і палітычнага жыцця краіны. У той самы дзень адбылася крывавая сутычка студэнтаў з паліцыяй і салдатамі на універсітэцкім падворку, ля ўвахода ва універсітэт. Пачаліся новыя арышты. «Можа, і яго кроў была на пецярбургскім бруку 12 кастрычніка, калі студэнтаў білі паліцыя і войскі?» — выказвае сваё меркаванне пра Багушэвіча вядомы даследчык яго жыцця і творчасці Генадзь Кісялёў (Сейбіты вечнага. Мн., 1963. С. 285). 17 кастрычніка імя Францішка Багушэвіча трапляе ў спіс

студэнтаў, выключаных з універсітэта за непрыняцце славутых матрыкулаў.

Пасля гэтай падзеі амаль на цэлы месяц выпадае з-пад нашай увагі імя Францішка. Што ён рабіў, пра што думаў у гэты час, як жыў — мы можам толькі здагадвацца. Але дзесьці ў сярэдзіне лістапада ён зноў з'явіўся ва універсітэце. Чатырнаццатага чысла піша заяву, у якой тлумачыць, чаму ён не мог атрымаць матрыкулу, і, спасылаючыся на неспрыяльны пецярбургскі клімат, падае паперы на звальненне з універсітэта. Да заявы дадае і даведку пецярбургскага лекара. 16 лістапада просьбу яго задаволілі і закрылі студэнцкую справу. На другі дзень ён атрымаў адпаведныя дакументы, а сярод іх і вельмі важнае для яго і для ўсёй яго будучыні — пасведчанне аб вельмі добрых паводзінах.

На Францішкавай заяве-прашэнні так і пазначана: «Поведения очень хорошего». Такую характарыстыку падпісаў Францішку сам выконваючы абавязкі прарэктара Азярыцкі. З універсітэцкай канцылярыяй Багушэвіч разлічыўся 17 лістапада, і можна было спакваля, паціху вяртацца ў свае родныя Кушляны. Аднак Францішак чамусьці не вельмі спяшаўся гэта рабіць. Ён застаецца ў Пецярбургу яшчэ на даволі працяглы час. Што ж змусіла юнака затрымацца ў горадзе, дзе ўсё, паводле яго ж слоў, не спрыяла яго здароўю? Гэта тым больш цікава, што Францішак прыспешваў кіраўніцтва універсітэта, дый яно і само спяшалася як мага хутчэй выдаць яму на рукі ўсе дакумепты. Менавіта на яго заяве чытаем: «Свидетельство выдать скорее». Прыспешваў і тут жа ўсё замарудзіў. Што ж магло адбыцца? Якая падзея магла адкласці яго ад'езд у бацькоўскі кут?

...Уначы з 16 на 17 лістапада, якраз той парою, калі Францішак канчаткова наважыўся расквітацца з універсітэтам, у Пецярбургу памёр малады, але вельмі слынны крытык і публіцыст Мікалай Дабралюбаў. Смерць яго шчымлівым болем адгукнулася ў развіраваных юначых сэрцах. Глыбока адчула яго страту і пецярбургскае студэнцтва з Белай Русі. Ва ўсіх яшчэ былі свежыя на памяці яго словы заступніцтва за нашу занядбаную старонку — Беларусь. То як было не адгукнуцца на гэтую падзею, не правесці ў апошні шлях такога чалавека?! Хавалі Дабралюбава дваццатага лістапада. Магчыма, у жалобнай працэсіі ішоў па пецярбургскіх вуліцах і Францішак. Ва ўсякім разе ён чуў, ведаў пра яго смерць, думаў пра яго ў тыя дні, не адзін раз, мабыць, паўтараў яго словы пра Беларусь і беларусаў: «Цэлы край так вось узялі і забілі — каб жа не так! Гэтаксама, як і італьянцаў, забілі, расслабілі, пазбавілі любові да Радзімы і свабоды».

Разам з Францішкам у Пецярбургскі універсітэт паступала і яшчэ колькі выпускнікоў віленскай гімназіі, яго знаёмых і аднакласнікаў — Адольф Якавіцкі, Вінцэнт Гедройц. Вучыліся ў гэтым жа універсітэце і ранейшыя выпускнікі віленскай гімназіі. Сярод іх — матэматык Ігнацы Здановіч, вельмі здольны і таленавіты юнак. Хлопцы ўсе гэтыя былі ўніклівыя, неспакойныя, парывістыя. Іх ужо ў Вільні прыкмецілі як не вельмі надзейных. То і ў Пецярбургу яны, мусіць, не сядзелі склаўшы рукі. Тут для іхняй маладой энергіі быў вялікі абсяг. Ці не чакаў Францішак, як вырашыцца лёс яго сябрукоў, іх доля? Ва ўсякім разе трыццатага лістапада ён быў яшчэ ў Пецярбургу. Пра гэта даведваемся з Францішкавага бібліятэчнага пасведчання, на якім значыцца, што універсітэцкая бібліятэка ніякіх прэтэнзій да Багушэвіча не мае. Паперу гэтую падпісаў выконваючы абавязкі бібліятэкара М. Пахт. Дата на ёй менавіта тая, якую мы згадалі — 30 лістапада 1861 года.

...Пакідаў Францішак Багушэвіч паўночную сталіцу Расійскай імперыі з не вельмі лёгкім настроем. Дзесьці глыбока ў душы ўсё ж было шкода, што так нечакана абарвалася яго мара. Але звароту назад не было, хоць такую магчымасць ён меў: і дакументы ўсе яго былі надзейныя, і кіраўніцтва універсітэта нічога не мела супраць, каб Францішак вучыўся далей. Але юнак добра памятаў шчырыя парыванні ўсіх сваіх аднадумцаў, і яму не хацелася апаганьваць ні іхніх намаганняў, ні свайго імя. Выбар гэты быў свядомы і канчатковы. Францішак добра ведаў, што будзе рабіць, як вернецца ў родныя Кушляны. «Ісці ў народ, да народа, станавіцца вясковымі настаўнікамі»,— клікалі выгнаннікаў Пецярбургскага універсітэта іх духоўныя настаўнікі. З Францішкавай галавы не выходзілі таксама і шматзначныя словы ўсё таго ж Дабралюбава, у якіх было не толькі заступніцтва, але і вера, надзея ў духоўныя здольнасці беларускага люду. «Пабачым,— казаў вялікі крытык і самому сабе, і цэламу свету,— што яшчэ скажуць самі беларусы». Гэтыя словы разам з усім іншым, што Францішак пабачыў і перажыў у Пецярбургу, непакоілі Францішкаву душу, скіроўвалі ўвесь ход яго думак пра родную старонку. Пецярбург шмат чаго даў Францішку ў гэтым накірунку. Праўда, выявіцца ўсё гэта не адразу.

## ДОЦІШКАЎСКІ НАСТАЎНІК

З цяжкім настроем вяртаўся Багушэвіч з Пецярбурга. На колькі дзён заехаў у Кушляны. Тут нехта падказаў яму, што ў суседнім Лідскім павеце адзін вельмі знаны і асвечаны навукай гаспадар

адчыняе школу для вясковых дзяцей і шукае добрага настаўніка. «Ці не падацца мне ў тую школу?» — разважыў Багушэвіч. Сказаў пра гэта бацькам. Бацькі не пярэчылі. Наадварот, былі рады, што сын знайшоў сабе такі занятак, будзе пры справе. Яны разумелі, што такое вучыць дзяцей, даваць ім навуку. Дапамаглі яму сабрацца ў дарогу. Апекуна новай школы звалі Аляксандр Звяровіч. Жыў ён у маёнтку Доцішкі, паблізу Радуні. Быў гэта, як шмат хто казаў, чалавек вельмі мяккага нораву, ліберал. Стараўся, як мог, аблегчыць жыццё сваіх падданых, вызваляў, каго лічыў патрэбным, ад паншчыны і чыншу. Усё гэта імпанавала Багушэвічу, схіляла яго да ўладальніка доцішкаўскага маёнтка. У дарозе яму ўвесь час думалася пра новую мясціну, дзе ён, магчыма, калі спадабаецца, калі згаворыцца з гаспадаром, і застанецца на зіму, а там час і абставіны пакажуць, што далей рабіць. Новая мясціна яму ўвесь час паўставала то ў аблічны яго Кушлянаў, то Свіранаў — ціхая, утульная, у старасвецкім парку, з дабротнай прысадзістай, на памурку, хацінай, з невялікім белым палацам, з абваднымі канавамі. І Багушэвіч не памыліўся. Доцішкі сапраўды нечым нагадвалі Кушляны. Былі такія ж ціхія, нібы прыспаныя. З усіх бакоў іх атулялі дрымотныя векавыя пушчы з дрыгвяністымі балотамі. Незнаёмаму чалавеку цяжка было тут арыентавацца. Жыццё ў Доцішках плыло мерна, суладна сонцу, прыродзе. Нават у самой назве адбілася штосьці з прыглушанай лясной цішыні — Доцішкі!

Гаспадар Доцішкаў быў яшчэ не вельмі стары, гадоў пад сорак — сорак пяць чалавек, рухавы, разважлівы. Тутэйшы люд яго скрозь называў Жвяровічам, хоць афіцыйна яго прозвішча ўсюды пісалі Звяровіч. Жыў заможна, умеў гаспадарыць, было як жыць і за што жыць. Аднак не ўсё яму падабалася ў расійскай імперыі, не з усімі парадкамі ён быў згодны. Пра гэта ён выказваўся даволі смела. Багушэвіч з увагаю слухаў Звяровіча, сам устаўляў слоўца, расказваў яму пра Пецярбург, пра сваю вучобу, пра студэнцкія настроі і хваляванні. Звяровіч таксама ўнікліва слухаў Багушэвічавы апавяданні. Зіхатлівым агеньчыкам гарэлі яго вочы: «Калі гэтак і далей будзе,— казаў ён разважліва,— то з гэтага нешта выйдзе».

Адным словам, малады настаўнік і ўладальнік Доцішкаў цалкам сышліся ў сваіх поглядах на жыццё. Гэта іх здружыла, зблізіла, і яны пачувалі сябе як людзі адзін аднаму вельмі патрэбныя. Разам пачалі хадзіць на паляванне. Але і на паляванні яны працягвалі адвечныя гаворкі.

У школцы ж заняткі ішлі сваім парадкам. Багушэвіч амаль штодня хадзіў на ўрокі. Школка мясцілася тут жа — у двары і ні ад каго не

залежала. Багушэвіч вучыў дзетак як умеў, як мог, як яго калісь вучылі. Вучыў па польскіх лемантарах. Вучыў і заўважаў, што навука ў польскай мове тутэйшым дзецям даецца цяжка, што не гэтая навука ім трэба. Не даецца ці з цяжкасцю даецца ім польскае маўленне, асабліва насавыя і розныя спалучэнні гукаў. Спыніцца вучань на такіх спалучэннях, душыцца імі, пракаўтнуць не можа. Праходзіць хвіля, другая, а слова ўсё ніяк не нарodзіцца. Багушэвічу было вельмі шкада гэтых русявых, з доўгімі, расчасанымі на ўсе чатыры бакі валасамі беларускіх хлапчукоў у белых палатняных кашулях і штоніках, падпярэзаных шнуркамі з кутасамі, з няхітрымі беларускімі прозвішчамі — Свечка, Мілюкевіч. Усё ў іх, што б яны ні рабілі, пісалі ці чыталі,— выходзіла на беларускі лад.

«А чаму ж іх не вучыць так, як яны гавораць? — не раз думаў Багушэвіч.— Далібог, была б з гэтага дзецям карысць».

Багушэвіч вельмі хутка прывык да сваіх выхаванцаў. Дзеці ж з ім асвойваліся больш марудна. Былі яны вельмі наіўныя, нічым не спакушаныя, баязлівыя і дзікаватыя. Уяўленне пра сусвет у іх сыходзілася на роднай вёсцы. Яны вельмі дзівіліся, калі настаўнік расказваў ім пра вялікія гарады, пра моры і акіяны. Зрэдку малады настаўнік заходзіў да іх у хаты, гутарыў з іхнімі бацькамі, вясковымі цёткамі, дзядзькамі, слухаў іх скаргі, настроі і ўсё больш пераконваўся, што ён абраў удзячную пуцявіну ў сваім жыцці. І зусім не шкадаваў, што прыехаў у гэты глухі закутак. Багушэвіч адчуваў маральнае задавальненне ад свае працы. Адно пакуль кепска. Не было для навукі вясковых дзяцей хоць якіх кніжак на іх мове. Гэта вельмі прыгнятала Багушэвіча, турбавала, не давала яму спакою. І, мусіць, у Доцішках ён упершыню адчуў гэтую несправядлівасць і пасля з зайздрасцю напіша агністыя радкі пра тыя народы, дзеткі якіх чытаюць так, як і гавораць, і кніжачкі маюць па-свойму пісаныя.

Праца настаўнікам у вёсцы жывіла Багушэвічавы думкі, будзіла развагу пра жыццё і немаведама, як бы далей пакіраваўся яго лёс. Але неўзабаве сама гісторыя прапанавала яму выбар — у студзені 1863 года пачалося славутае паўстанне, і доцішкаўскі настаўнік без ваганняў ідзе да змаганцаў Кастуся Каліноўскага. У гэты шлях з лёгкім сэрцам яго блаславіў і гаспадар доцішкаўскай школы Звяровіч, які неўзабаве і сам далучыцца да паўстання.

# У ЦАПЕРЦЫ НАД РАКОЙ ЦАПРОЙ

У біяграфіі Францішка Багушэвіча яшчэ нямала нявысветленых старонак. Напрыклад, да апошняга часу амаль зусім было невядома, дзе жыў і чым займаўся Францішак Багушэвіч у прамежку з 1863 года — пасля таго, як яго, параненага, вылечылі Крушэўскія — і аж да мая 1865 года, да часу паступлЕння яго ў Нежынскі юрыдычны ліцэй.

Вядомая польская пісьменніца і даследчыца Д. Ваўжыкоўска-Верцюхова ў сваёй кнізе «Касцюшкава праўнучка» сведчыць, што Францішак Багушэвіч пэўны час жыў на Клеччыне ў Цапэрцы[1]. Гэтая звестка для нас зусім новая. Давайце паглядзім, наколькі яна верагодная.

У краіне лютавала расправа з паўстанцамі. Шукалі жандары паўсюль і Францішка. Імя яго фігуравала ў многіх следчых справах. Факт удзелу Францішка ў паўстанні быў настолькі відавочны, што нават родны бацька на ўсіх допытах пра гэта сведчыў адкрыта. Францішку пагражалі арышт, астрог, высылка ў Сібір, а можа, нават і што горшае, таму, натуральна, яму даводзілася хавацца, жыць нелегальна.

У Цапэрцы, у ціхім закутку Клеччыны, той парою жыла сям'я другога Багушэвіча, Уладзіміра — чалавека перадавых поглядаў. Ён таксама ўдзельнічаў у паўстанні. У яго сям'і жыў культ героікі, жылі рэвалюцыйныя ідэі. Тут памяталі герояў паўстання 1831 года. Між іншым, Тадэвуш Касцюшка быў сваяком цапэрскім Багушэвічам. Як бачым, сям'я Уладзіміра Багушэвіча цалкам адпавядала настроям нашага песняра, яго ідэалам, яго памкненням. Якія ж шляхі прывялі Францішка ў Цапэрку? Некаторыя даследчыкі сцвярджаюць, што Францішак Багушэвіч быў сваяком цапэркаўскім Багушэвічам. Але ці так яно на самой справе? Згадаем паэтаў ліст за 9(21) снежня 1890 года да Яна Карловіча. У ім Францішак Багушэвіч паведамляе, што да яго на віленскую кватэру завітаў малады чалавек Ян Багушэвіч. Ён толькі што вярнуўся з высылкі і хоча заняцца якой-небудзь карыснай для краю справай і просіць парады, дзе б ён, на думку асвечаных навукай людзей, мог быць больш за ўсё карысны.

Францішак Багушэвіч прасіў Яна Карловіча ў тым лісце сустрэць юнака як мага больш ветліва, выслухаць яго. А каб абудзіць у вучонага цікавасць да маладога чалавека, Францішак надзяліў яго самымі прывабнымі эпітэтамі: добрая натура, юнак вялікай

[1] Wawrzykowska-Wierciochowa D. Kościuszkowska prawnuka. Warszawa, 1974.

высакароднасці і шляхетных пачуццяў. І каб Карловіч не адчуў у Багушэвічавай просьбе якой-небудзь карыслівасці, тут жа зазначыў пра Яна Багушэвіча: «Далібог не сваяк». І паэту трэба верыць. Не мог жа ён хітраваць перад сябрамі! Ну, а калі не сваяк, то на нечым жа грунтаваўся такі даверлівы прыход Яна на кватэру да Франца Багушэвіча. Але на чым? Тут мусім зазначыць: дзеці Уладзіміра Багушэвіча — Марыя, вядомая польская рэвалюцыянерка, адна з кіраўнікоў першай польскай рабочай партыі «Пралетарыят», і Ян — нарадзіліся і гадаваліся ў тую пару, калі Францішак жыў на Украіне. Значыцца, яны раслі і сталелі па-за вачыма Францішка Багушэвіча. Тым не менш Ян Багушэвіч, вярнуўшыся ў 1890 годзе з высылкі ў Сібір (арыштаваны быў разам з сястрой за рэвалюцыйную дзейнасць у 1885 годзе), шукаючы рады, як жыць далей, чым заняцца на гэтым свеце, накіраваўся менавіта да Францішка Багушэвіча. Ён быў пераканаты, што ў паэтавай сям'і яго шчыра выслухаюць, паспагадаюць яму, паспрыяюць, дапамогуць, а трэба будзе — дадуць і прытулак. Магчыма, вытокі гэтых кантактаў якраз бяруць пачатак з тых часоў, калі Францішак пасля паражэння паўстання меў патрэбу ў надзейным прытулку. І такі прытулак ён знайшоў у Цапэрцы. Тут Багушэвіч, як сведчаць тыя ж крыніцы, патаемна вучыў вясковых дзяцей. Францішак, як мы ведаем, настаўнічаў да гэтага ў Доцішках. У Цапэрцы ён нібы працягваў пасля невялікага перапынку распачаты раней занятак.

Згадаем і яшчэ колькі момантаў з жыцця Ф. Багушэвіча паміж 1863-1865 гадамі. У канцы снежня 1864 года ён сустрэўся з сваёй сям'ёй. Пра гэта сведчыць віленскі сямейны здымак, пазначаны 21 снежнем 1864 года. У першай палове 1865 года Францішак жыве ў Вільні. Пра гэта ён згадвае ў сваім лісце за 26 жніўня 1865 года з Нежына да маці Яна Карловіча Антаніны. У ім, прынамсі, Францішак пісаў: «Я абавязаны Вашаму высакароднаму сыну ўсёй сваёй будучыняй; мабыць, і цяпер я абіваў бы без усякай карысці віленскі брук, калі б не яго высакародная дапамога...»

Значыцца, жыў Францішак Багушэвіч у Цапэрцы хутчэй за ўсё ў трывожным 1864 годзе, калі чынілася расправа з паўстанцамі, калі казакі ды жандары гойсалі па нашых дарогах, вышукваючы муж-ных змагароў.

## НЕЖЫН

Вясна 1865 года была ў самай квецені. Усё ў наваколлі прагла жыцця, буяла і дыхала, расло, цягнулася да сонца. Гэта была тая

пара, калі яшчэ няма спякоты. Цяпло ў гэтую пару асаблівае. Яно якоесь пяшчотнае, лагоднае, грэе і цела, і душу.

Якраз вось такой парою па старым гасцінцы праз палі і лясы на паштовым вазку Францішак прабіваўся з Беларусі на Украіну. Ён ехаў у Нежын. Сямейная рада параіла перабыць яму гэты яшчэ неспакойны на Беларусі і Літве час на Украіне. І не проста перабыць, а перабыць з карысцю. Вырашылі, што Францішку варта прадоўжыць-такі вучобу. На вучобу кіраваў Францішка і яго сябра, вядомы ўжо тады вучоны Ян Карловіч. Ён даў яму і грошы на дарогу.

І вось Францішак ужо трэці дзень у дарозе. Хутка будзе Лоеў. А там недалёка і Украіна. І чым бліжэй адчувалася братняя зямля, тым большае хваляванне находзіла на Францішка: «Як яно будзе на новым месцы?» Пачуццё гэтае для яго не было новае. Такое хваляванне Францішак перажываў і тады, калі ехаў на вучобу ў Пецярбург і калі дабіраўся да Доцішкаў. Не пакідала яно яго на Сувальшчыне і ў Цапэрцы. І вось яшчэ адзін заход на новы круг жыцця. Які ён будзе? І ці будзе?

Гэтым разам ён збіраўся вучыцца на юрыста. З дакументамі ў яго ўсё было ў парадку. Яны ляжалі тут жа, пры ім – у куфэрку. І ўсё ж нейкая трывога не пакідала Францішка. І была яна недарэмная. У ліцэі вельмі ўважліва, нават пільна, з павышанай цікавасцю разглядалі Францішкавы дакументы: «Якая бура гэтага літвіна сюды?» Насцярожыла, што і ў Пецярбургскім універсітэце вучыўся. У Нежыне добра наслухаліся пра гэты універсітэт, асабліва пра тых, хто вучыўся ў ім. Але з універсітэцкімі Францішкавымі дакументамі ўсё было ў парадку. Тады ўспомнілі, што на Беларусі і Літве нядаўна адшугала паўстанне. Запатрабавалі ад Францішка даведку пра яго паводзіны пасля выбыцця з універсітэта. Гэтым сваім запатрабаваннем кіраўніцтва ліцэя патрапіла ў самае сэрца. І ўсё ж Францішак нейкім цудам раздабыў адпаведную даведку, і неўзабаве, 29 мая, яго залічылі на вучобу. Архіўныя матэрыялы даносяць да нас розныя звесткі пра жыццё беларускага песняра ў Нежыне. Вось яго ліст да маці Яна Карловіча — Антаніны Карловіч за 26 жніўня 1865 года. З гэтага ліста мы даведваемся пра першыя месяцы жыцця і вучобы Францішка ў Нежыне. Яны пачаліся з матэрыяльных клопатаў. Францішак паспрабаваў выхадзіць сабе стыпендыю, але не ўдалося. Давялося шукаць рэпетытарства, і ён яго знайшоў і на даволі такі добрых умовах. Гэта крыху акрыліла Францішка. І хоць цяжкавата было і на заняткі хадзіць, і займацца рэпетытарствам, ён шчыра ўзяўся за навуку. Увесь вольны час, асабліва ў непагадзь, сядзеў у бібліятэцы і знаеміўся з рускім заканадаўствам. У ліцэі вывучалася

шмат іншых навук — логіка, псіхалогія, філасофія, грамадзянскія і паліцэйскія законы, статыстыка, фінансаванне і вэксальнае права, гісторыя рымскага права, энцыклапедыя законаў...

За гады, што мінулі пасля заканчэння віленскай гімназіі, гады няпростыя, трывожныя, неспакойныя, драматычныя, Францішак засумаваў па вучобе. З асаблівай прагаю ён чытаў Статут Вялікага княства Літоўскага. Для яго ён быў адкрыццём. Уразіла яго не толькі дасканалая сістэма заканадаўства эпохі сярэднявечча, але і мова гэтага дакумента. Яна была амаль такая, як у Кушлянах, Свіранах, на ўсёй Ашмяншчыне, Віленшчыне. Амаль такая мова гучыць і тут, на Чарнігаўшчыне, паблізу Нежына. Гэтае адкрыццё змусіла юнака моцна задумацца. Ён і раней, яшчэ ў Вільні, чуў пра Статут Літоўскі, але за грунтоўнае і дасканалае вывучэнне ўзяўся толькі тут, у ліцэі.

Вучыўся ён роўна, удумліва. Мог бы і лепей, але штодзённы пабытовы клопат забіраў шмат часу і сілы, і ён зноў звяртаецца ў дырэкцыю ліцэя, каб прызначылі яму стыпендыю, піша чарговую заяву. Заява гэтая дае нам поўнае ўяўленне, як жылося Францішку-ліцэісту. «Быв в I курсе лицея, я обращался к начальству о назначении мне стипендии со второго полугодия; но так как вакансии не оказалось, я получил отказ. Поступив на 2 курс, я нашел возможность кое-как содержаться репетиторским трудом, и поэтому счел неуместным беспокоить начальство моей просьбою о стипендии, на будущее же время, желая посвятить более времени собственному образованию, я не предвижу никакой возможности обеспечить свое существование трудом, так скучно вознаграждаемым и требующим более, чем я могу посвятить на этот предмет, времени.

От родных я не получаю никакого пособия, по несостоятельности их; между тем, как кроме обыкновенных расходов на прожитье, я, больной, должен нести расходы на излечение. Все эти обстоятельства заставили меня утруждать просьбой Ваше превосходительство о назначении мне стипендии на будущее время»[2].

Мусіць, на гэты раз дырэкцыя ліцэя ўважыла Францішкаву просьбу. Яго падтрымаў і нежынскі павятовы прадвадзіцель дваранства.

...Чатыры гады пражыў Францішак у Нежыне, гэтым ціхім, вельмі ўтульным, архітэктурна дасканалым гарадку з шасцікупальным Мікалаеўскім саборам. Кватараваў ён ад пачатку і да канца вучобы ў доме Мухі (у некаторых дакументах — Мухінай). Але ні пра гаспадароў гэтага дома, ані пра сам дамок нам нічога не вядома.

[2] Літ. і мастацтва, 1956, 2 чэрв.

Адно ведаем: нежынцы памятаюць, што ў іхнім горадзе вучыўся славуты беларускі пясняр і адвакат, і адну з гарадскіх вуліц, колішнюю Гарматную, яны ў 1960 годзе назвалі Францішкавым імем. Між іншым, на гэтай вуліцы — вуліцы Багушэвіча — філіял Чарнігаўскага абласнога архіва, у якім шмат дакументаў пра жыццё і вучобу нашага песняра. Сярод іх і спісы студэнтаў. Але спісы гэтыя пакуль маўчаць.

Пасля заканчэння ліцэя ў Францішка быў не вельмі вялікі выбар: ці пайсці на дзяржаўную службу, ці падацца ў земскую ўправу. Яму было наканавана апошняе.

## У ЧАРНІГАВЕ

Адразу ж пасля сканчэння ліцэя Францішак Багушэвіч апынуўся ў губернскім горадзе Чарнігаве. Напачатку колькі месяцаў ён служыў у тутэйшай земскай управе. Аднак служба ў гэтай установе юнака, відаць, не вельмі задавальняла. Земствы былі заснаваны ў 1864 годзе. Гэта былі органы мясцовага кіравання. Ім даручаліся гаспадарчыя клопаты пра дарогі, школы, бібліятэкі. І ўсё б гэта нічога. Якраз такая праца імпанавала Францішку. Але ў земстве была меншая, чым у іншых установах, плата. А самае галоўнае, на асоб, якія працавалі ў земстве, не пашыраліся правы дзяржаўнай службы. На земскіх службоўцаў, напрыклад, не пашыралася права на пенсію, і Францішак 26 лістапада звяртаецца да чарнігаўскага віцэ-губернатара з заявай аб залічэнні яго з першага снежня на службу ў Чарнігаўскае губернскае праўленне. Чарнігаўскі губернатар спагадна прыняў Францішкаву заяву. Ён нічога не меў супраць, каб малады службовец працаваў у Чарнігаўскім губернскім праўленні. Але на гэта трэба была яшчэ, хай сабе і фармальная, згода сената дый самаго імператара, і Францішак 13 снежня з аналагічнай заявай звяртаецца на імя Аляксандра Першага. Неўзабаве рашэннем Чарнігаўскага губернскага праўлення Францішак апрануў новы мундзір з аксамітным зялёным каўняром, з залатой палоскай і дзвюма зорачкамі. З дваццатага снежня 1868 года ён быў залічаны на новую службу — на пасаду памочніка справавода пятага стану. У гэты дзень у Чарнігаўскім губернскім праўленні з'явіўся новы канцылярскі чыноўнік — губернскі сакратар Ф. Багушэвіч.

Кватараваў Ф. Багушэвіч у Чарнігаве ў доме буйнога чарнігаўскага ўладальніка Цвета. Род Цветаў у Чарнігаве лічыўся патомным. Яны былі не толькі домаўладальнікі, але і купцы. У іх руках было некалькі крамаў — гандлявалі кнігамі, вустрыцамі. Найбольш шанаваны з іх

быў Пётр Пятровіч Цвет, ён не адзін год быў у гарадской думе, у таварыстве дабрачыннасці. У «Чарнігаўскіх губернскіх ведамасцях» часта з'яўляліся абвесткі аб здачы Цветам кватэр.

У сакавіку 1869 года ў Францішка Багушэвіча наспела якаясь вострая патрэба з'ездзіць у Пецярбург, Віленскую і Херсонскую губерні, і ён 31 сакавіка падае рапарт у Чарнігаўскае губернскае праўленне на адпачынак.

Адпачынак ён атрымаў 4 красавіка на дваццаць восем дзён. У Чарнігаў вярнуўся на пачатку мая. За час адпачынку ён шмат з кім сустракаўся, шмат чаго перадумаў. Неяк крытычна зірнуў на свой занятак. «Няўжо я ні на што больш не здатны, як адно пісаць ды перакладаць паперкі ды рэгістраваць іх у журналах? — не раз думаў ён.— Няўжо дзеля гэтага трэба было заканчваць юрыдычны ліцэй?» — амаль штодня не давала спакою думка.

Пра свой душэўны разлад ён не адзін раз казаў сваім самым блізкім сябрам, тыя суцяшалі яго, казалі, трэба пачакаць, мо неўзабаве надарыцца якая іншая вакансія. І яно сапраўды неўзабаве так адбылося. Вызвалілася месца кандыдата судовага следчага, і Багушэвіча перавялі з губернскай управы ў Чарнігаўскую палату крымінальнага і грамадзянскага суда. Гэта ўсё-такі было бліжэй да профілю яго адукацыі. З шаснаццатага чэрвеня Багушэвіча залічваюць кандыдатам на пасаду судовага следчага. Багушэвіч крыху павесялеў. З першага ж дня жыццё на пасадзе судовага следчага пайшло ў іншым рытме, у іншым парадку. Яно было зусім не падобнае на працу канцылярскага чыноўніка, дзе ён адно толькі ведаў, што перапісваў паперы па загадзя ўжо ўсталяваным узоры. Тут жа трэба было ўнікаць ва ўсе драбніцы жыцця і не ў самай лепшай яго выяве, выносіць якоесь сваё меркаванне, сваё заключэнне, свой прысуд, і Багушэвіч з усей шчырасцю ўзяўся за новую сваю працу.

## СЯБРА З УКРАІНЫ

З жыцця Францішка Багушэвіча на Украіне, а пражыў ён там, як вядома, амаль дваццаць гадоў, да нас дайшоў толькі адзін фотаздымак. Малады Багушэвіч, яшчэ ліцэіст — здымак пазначаны 1867 годам — зняты ў фатаграфічным павільёне разам з хударлявым, у небагатай вопратцы, засяроджаным юнаком. Подпіс сведчыць: Францішак сфатаграфаваўся з Міхайлам Кірылавічам Насенкам.

Здымак гэты нам вядомы даўно. Ён ужо неаднойчы друкаваўся ў розных нашых выданнях. Але хто гэты Міхайла Насенка — нашым даследчыкам дагэтуль нічога не было вядома. Нават такі дасведчаны

багушэвічазнаўца, як Генадзь Кісялёў, у сваёй грунтоўнай працы «Пачынальнікі» мусіў у каментарыях пра М. Насенку паставіць пытальнік.

Дык хто ж ён, Насенка?

Калі меркаваць па даце, пазначанай на здымку, можна выказаць думку, што гэта ліцэйскі Багушэвічаў сябра. Сапраўды, на такое меркаванне ёсць усе падставы.

Францішак Багушэвіч у 1867 годзе дый у наступпым 1868 годзе яшчэ вучыўся ў ліцэі. То і праўда, з кім яму больш фатаграфавацца, як не з сваім аднадумцам, з сябрам-ліцэістам? Але такое меркаванне, як сведчаць выяўленыя намі дакументы, памылковае. Насенка ніколі не вучыўся ў Нежынскім ліцэі князя Безбародкі. Уся яго навука — Сосніцкае павятовае вучылішча, пасля сканчэння якога ён, семнаццацігадовы сын губернскага сакратара, пайшоў на службу ў Сосніцкую гарадскую паліцыю канцылярскім службоўцам другога разраду. З гэтага прызначэння і пачынаецца працоўная біяграфія Багушэвічавага ўкраінскага сябра. Было гэта ў чэрвені 1861 года. Францішак Багушэвіч, як вядома, у гэтую пару зусім не думаў пра Украіну. Кожны з юнакоў у гэты час церабіў свой шлях, сваю дарогу, не падазраючы нават пра існаванне адзін аднаго. Але вось дарогі іх, як сведчыць фотаздымак, сышліся. Калі, дзе і з якой нагоды?

Як мы ўжо казалі, Францішак Багушэвіч сфатаграфаваўся з Насенкам у 1867 годзе. Багушэвічаў сябра ў гэтую пару працаваў канцылярскім чыноўнікам Сосніцкай межавай камісіі. Але нечакана ў верасні 1867 года Сосніцкая межавая камісія была скасавана. Малады службовец не па сваёй волі амаль на два гады застаўся па-за штатам «без права и преимущества». Гэтыя гады змушанай адстаўкі былі для Насенкі гадамі роздуму. Гэта ў яго была не першая, не па сваёй волі, адстаўка. Трэба было падумаць пра сталы акрэслены занятак, а мо нават і пра вучобу. Быў ён тады яшчэ малады. У 1867 годзе яму споўнілася ўсяго дваццаць тры гады — Насенка нарадзіўся 18 верасня 1844 года. І яшчэ не позна было брацца за навуку. Мабыць, на гэтых шляхах жыццёвага раздарожжа і спаткаўся М. Насенка з Ф. Багушэвічам. Хутчэй за ўсё гэта магло адбыцца ў губернскім Чарнігаве, дзе найчасцей вырашаліся лёсы маладых службоўцаў Чарнігаўшчыны. Прынамсі, зазначым, што сфатаграфаваўся Францішак Багушэвіч з Насенкам менавіта ў Чарнігаве. Знаёмства з Францішкам Багушэвічам, а затым сяброўства пэўным чынам адбілася на далейшым жыццёвым лёсе Міхайлы Насенкі. Неўзабаве ён пачынае працаваць у юрыдычных установах. У ліпені 1869 года Насенку прызначаюць судовым прыставам Кралявецкагаміравога

з'езда. У гэтым жа месяцы ў Кралявец судовым следчым накіроўваюць і Ф. Багушэвіча. Для абодвух гэтыя прызначэнні былі значным крокам у іх службе. Францішак Багушэвіч, па сутнасці, у Краляўцы распачаў працу, якая адпавядала яго адукацыі.

Амаль чатыры месяцы Францішак Багушэвіч жыў у Краляўцы, і амаль кожнага дня ён бачыўся з Міхайлам Насенкам. Пра што яны гутарылі, што іх хвалявала — гэтага да нас не даносяць скупыя на звесткі казённыя фармуляры. Але мы ведаем: Францішак Багушэвіч абы з кім ніколі не хаўрусаваў. Ён быў надзвычай пераборлівы на сяброў, збліжаўся толькі з тымі, хто адпавядаў яго ўяўленню, яго разуменню ідэала чалавека. А яго ідэалы нам вядомыя: самаахвярнае служэнне народу, непрымірымасць да несправядлівасці, да ўсялякага зла, спагада да слабейшых, прыніжаных. Мабыць, такімі рысамі быў надзелены і Насенка.

У канцы кастрычніка 1869 года Багушэвіч пакінуў Кралявец. Насенка ж стала асеў тут, займеў сабе дамок з сядзібаю, перабраў шмат розных службаў і заняткаў. Быў ён дырэктарам Кралявецкага астрожнага аддзела. Затым пакінуў гэтую, мабыць, не вельмі ўдзячную службу і заняў у 1884 годзе сціплую пасаду пісьмавадзіцеля ў канцылярыі кралявецкага павятовага прадвадзіцеля дваранства. Пасля яго назначылі скарбнікам астрожнага аддзела, але ад гэтай пасады ён адмовіўся. Шмат гадоў быў куратарам Кралявецкай жаночай прагімназіі, земскай бальніцы. Не адзін раз яго выбіралі старшынёй Кралявецкай земскай управы, і на гэтым грунце сваёй сумленпай і бездакорнай працай ён здабыў сабе павагу ў кралявецкіх грамадзянаў. Меў шмат узнагарод.

Пражыў Насенка значна большы век, чым яго сябра з Белай Русі. Яго фармулярны спіс, з якога мы ўзялі звесткі, пазначаны 1912 годам[3]. Дзеці ў яго пайшлі позна. Дачка Ксеня нарадзілася ў 1904 годзе, сын Мікалай — у 1907 годзе. Магчыма, нехта з іх і сёння жыве на Украіне, хавае бацькоўскія альбомы і архівы. Хочацца верыць, што ў Насенкавым архіве нешта ёсць і пра нашага песняра. Што ж да Багушэвіча, то ён, па ўсім відаць, праз усё жыццё даражыў сваім сяброўствам з Насенкам, збярог праз дзесяцігоддзі для нас зроблены ў Чарнігаве здымак, пра які тут гаворка. Сёння гэты здымак у Дзяржаўным музеі БССР у сямейным альбоме Багушэвічаў сярод дарагіх паэту аблiччаў. Ён усім нам памятка пра жыццё нашага песняра на Украіне.

---

[3] Дзяржархіў Чарнігаўскай вобл. Ф127, воп. 1, спр. 8628, арк. 12 – 27.

## КУДЫ МАКАР ЦЯЛЯТ НЕ ГАНЯЎ

Багушэвічава жыццё ў Волагдзе пакуль што вывучана слаба, калі не сказаць, што зусім не вывучана. І жыў ён там параўнаўча нядоўга: усяго якія-небудзь дзесяць месяцаў — з ліпеня 1871 года да красавіка 1872 года — выконваў абавязкі судовага следчага 2-га ўчастка Гразявецкага павета.

Час жыцця Ф. Багушэвіча ў Волагдзе не толькі самы нявысветлены, але і загадкавы. Вядома, напрыклад, што перад сваім валагодскім пазначэннем Ф. Багушэвіч зусім звольніўся з службы — паводле заявы нібыта па хваробе. Было гэта ў сакавіку 1871 года на Украіне. Пасля амаль на пяць месяцаў Багушэвічавы сляды губляюцца. Невядома, дзе быў Багушэвіч у гэты час, чым ён займаўся. І толькі загадам ад 21 ліпеня 1871 года за № 51 па ведамстве Міністэрства юстыцыі ён прызначаецца на службу ў Гразявецкі павет Валагодскай губерні судовым следчым.

Чым жа быў выкліканы такі нечаканы перавод яго з Украіны на Валагодчыну, адкуль да Масквы чатырыста трыццаць чатыры вярсты, да Пецярбурга яшчэ далей — семсот дзесяць, а да яго родных Ашмянаў, да яго роднага краю — усе тысяча дзвесце?

Мы не маем пакуль усіх архіўных матэрыялаў пра Багушэвічава жыццё на Валагодчыне і можам толькі хіба выказаць прыблізнае меркаванне: ці то гэты перавод выкліканы чыста службовай неабходнасцю — пуставала месца, патрэбны быў тэрмінова работнік, ці то да гэтага неяк прымешаны і падзеі 1863 года.

Што ж сабой уяўляў Гразявец у тую пару, калі жыў там Багушэвіч? Быў гэта невялікі, за сорак чатыры вярсты ад Волагды, павятовы гарадок абапал ракі Ржаўкі. Жыло ў ім каля дзвюх з паловай тысяч чалавек. Жыхары ў пераважнай сваёй большасці займаліся дробным рамесніцтвам і гандлем. У горадзе было каля двухсот прыватных крам і крамак, тры каменныя царквы, якія велічна панавалі над прыземістымі крывымі гразявецкімі вулачкамі. Усутычкі падступаў глухі стары лес. Ціша і спакой панавалі ў гэтым краі. Водгулле грамадскіх падзей з Польшчы, Літвы і Беларусі сюды амаль што не даходзіла. Вось у такім закутку Расіі і пражыў дзесяць месяцаў наш пясняр.

Пра сваё жыццё на Валагодчыне Багушэвіч не раз згадваў у розных службовых дакументах — напрыклад, у дакладной запісцы на імя старшыні Нежынскага акруговага суда 3 красавіка 1882 года; у фармулярным спісе аб службе і іншых. Мабыць, не раз апавядаў і сваім сябрам, бо, калі памёр, ва ўсіх некралогах, напісаных прыяцелямі, было згадана і пра гэты перыяд яго жыцця. Пра Волагду

згадвалі часопісы «Край», «Бесяда літэрацка», «Тыгоднік ілюстраваны». На жаль, згадкі гэтыя былі без усялякіх дэталяў і падрабязнасцяў. Але не гэтак даўно нам удалося выявіць у Валагодскім абласным архіве колькі новых звестак пра Багушэвіча, якія пашыраюць наша ўяўленне пра жыццё паэта ў гэтым краі. Перш за ўсё Багушэвічава імя згадваецца ў трыццаць шостым нумары «Валагодскіх губернскіх ведамасцяў» за 1871 год у аб'яве пра асоб, якія выехалі з Волагды ў прамежку паміж 19 і 25 жніўня, супраць Багушэвічавага прозвішча значыцца: выехаў у «Гразявец судовы следчы 2-га ўчастка Гразявецкага павета Багушэвіч». Побач імя купца Ланскага. Мабыць, з гэтым Ланскім яны разам дабіраліся да Гразяўца і абодва былі некалькі дзён у цэнтры ўвагі гразяўчанаў. Даволі часта Багушэвічава імя сустракаецца ў запісах журнала пасяджэнняў Гразявецкага павятовага суда. Так, у запісе за 26 жніўня 1871 года гаворыцца, што судоваму следчаму 2-га ўчастка Гразявецкага павета Багушэвічу з 19 ліпеня да 24 жніўня выдана казённая пенсія (у арыгінале — «жалование») і «сталовыя» з 19 ліпеня да 1 верасня[4]. На гэтай жа старонцы паведамляецца, што новаму судоваму следчаму 2-га ўчастка Гразявецкага павета перадаецца на следства няскончаная, распачатая раней справа аб самавольнай высечцы лесу сялянамі навакольных вёсак у Міткійскай дачы, якая належала памешчыцы Купрыянавай.

З запісу таго ж журнала, зробленага 13 лістапада, мы даведваемся, што ў 1871 годзе Багушэвіч моцна захварэў на тыфозную гарачку[5]. Хвароба прынесла яму шмат фізічных і душэўных пакут.

Хварэў Багушэвіч і ў новым, 1872, годзе. Гэта відаць з запісаў усё таго ж журнала пасяджэнняў Гразявецкага павятовага суда. У студзені Багушэвіч пакутаваў на катар легкіх. З гэтай нагоды 15 студзеня судовая адміністрацыя адпусціла Багушэвіча на адзін дзень у Волагду на раду з доктарам[6].

Думаецца, з Валагодчыны і гэты цікавы эпізод. Пра яго Багушэвіч згадвае ў лісце да Яна Карловіча за 1 студзеня 1888 года: «Мой фурман,— пісаў Багушэвіч у тым лісце,— аднойчы раніцай прыйшоў да мяне і сказаў: «Я сёння імяніннік!» Было гэта, заўважае Багушэвіч, даўно, «калісьці ў Расіі». Мабыць што, на Валагодчыне. У іншых расійскіх гарадах Багушэвіч, здаецца, не жыў. А вось яшчэ адна Багушэвічава згадка пра Волагду. «Гэты прыгожы горад, але не дужа, і досыць малы, а вялізныя рыбы ляжаць на вуліцы над крамамі,

[4] Валагодскі абласны архіў. Ф. 238, воп. 1, спр. 1331, арк. 57 адв.
[5] Тамсама, арк. 31.
[6] Валагодскі абласны архіў, арк. 29 адв.

паветра вельмі памяркоўнае, бо адно другое дапаўняе: летам у спёку ўспомніш, як бывае тут зімою, і прабяруць мілыя дрыжыкі, а зімою падумаеш пра лета...» (з ліста да Я. Карловіча за 26.I.1885 г.)[7].

Жыццё ў Валагодскай губерні, як бачым, было не па Багушэвічу. Суровы паўночны клімат абвастрыў усе яго новыя і старыя хваробы, і ён у маі 1872 года ўжо зноў на Украіне, на Чарнігаўшчыне, на гэты раз у Барзнянскім павеце. Мусіць, у гэтым яму паспрыялі яго ўкраінскія сябры. Ішоў Багушэвічу тады трыццаць трэці год. Ён быў поўны энергіі працаваць на карысць роднага народу. Але пакуль што мроі яго душы былі неакрэсленыя.

## У БАРЗНЕ

Багушэвічаў шлях з Волагды, з Гразявецкага павета, ляжаў проста ў Барзну, ці інакш — у Баразну — яшчэ і так тутэйшыя жыхары называлі свой горад. Сваё найменне горад атрымаў ад назвы ракі. Рака гэтая была вузкая, віхлястая. Здавалася, рэчышча яе вывеў плугам неспрактыкаваны ці няўдалы араты — крывулькамі, зігзагамі — улева, управа, а мясцінамі і з невялікімі перарыўкамі. Плыла яна між балот і багны. Нізкія яе берагі не мелі выразных абрысаў. Часта разлівалася, паўсюль пакідала старыцы, пратокі, завадзі. Шмат іх было і ў наваколлі горада, асабліва на паўночнай яго ўскраіне. На кожным кроку страчаліся невялікія балацянкі, багністыя нізовіны, зацягнутыя тванню і раскай азёры і азярышчы. Тут быў добры прытулак для ўсіх земнаводных. Пад іх шматгалосыя канцэрты, крумканне і кваканне прачыналася і клалася спаць уся колішняя Барзна.

Прыехаў Багушэвіч у Барзну вясною 1872 года. Перавялі яго сюды загадам Міністэрства юстыцыі сёмага мая на тую самую пасаду, пры якой ён быў і ў Гразяўцы.

Барзна сустрэла яго не меншай глуханманню і заняпаласцю, чым Валагодчына. Гэта быў невялікі, па кружной дарозе за сто чатыры вярсты ад Чарнігава бедны гарадок. Дый гарадком яго было цяжка назваць. Увесь драўляны. Каменных дамоў — мураванак — было ўсяго толькі два. У іх месціліся розныя павятовыя ўстановы — гарадская ратуша, павятовы суд, паліцэйскі пастарунак і іншыя; вуліцы скрозь былі небрукаваныя. Па іх вольна разгульвала жывёла. Прамысловасць і гандаль у Барзне развіваліся слаба, хоць горад і меў для гэтага ўсе ўмовы. Пошта ў Барзну прыходзіла толькі два разы на

[7] Літ. і мастацтва, 1986, 14 лют.

тыдзень — па аўторках і суботах, і яе заўсёды тут чакалі як вялікага свята.

Жыло ў Барзне ў Багушэвічаву пару каля васьмі тысяч душ — казакі, мяшчане, сяляне. Пераважалі мяшчане. Местачкоўцы садзілі тытунь, абраблялі скуры, займаліся рознымі рамёствамі, ганчарылі, шылі боты, аралі, сеялі, самі сябе апраналі, кармілі. Было тут дзве цагельні, пяць ганчарняў, шмат розных дробных крамак, харчэўняў...

Людзі часта хварэлі. Патрапіў Францішак Багушэвіч у Барзну таксама ў не вельмі вясёлую пару. Край толькі што перажыў некалькі эпідэмій. Усю вясну лютавала малярыя, а ў пачатку чэрвеня ў павеце разгулялася халера. Цяжкія і страшныя гэта былі месяцы. Людзі толькі пра тое і думалі, як уратавацца ад смерці. З хваробамі змагаліся ўсе, хто мог хадзіць, хто быў асвечаны хоць якой навукай — студэнты-медыкі, практыканты, паліцэйскія, квартальны, наглядчыкі, пісьмавадзіцель, нават святар. Пэўна, не абмінула гэтая доля і Францішка Багушэвіча. Але спакваля, з вялікімі ахвярамі — на ўчастку аднаго толькі земскага лекара Бекера памерла з халеры пяцьдзесят пяць душ — хваробы адступілі, жыццё пачало пацiху ўбірацца ў звыклы рытм. Францішак Багушэвіч таксама пакрысе асвойтваўся на новым месцы. Яго тут прызначылі выконваць абавязкі судовага следчага першага ўчастка Барзнянскага павета. Ён знаёміўся з незавершанымі справамі свайго папярэдніка, ламаў галаву над новымі, часта ездзіў у вёскі па разбітых, расквэцаных барзнянскіх дарогах, гутарыў з сялянамі, з затрыманымі бадзягамі, збіраў доказы на дазнанне, разблытваў таямніцы розных злачынстваў. Найчасцей гэта былі крадзяжы, патравы, сваркі, падробкі каштоўных дакументаў. Траплялiся і больш складаныя дазнанні: беспатэнтны продаж віна, наўмысныя пажары. Кралі ўсё — пяньку, палатно, валы, коні. Знікалі немаведама куды людзі. Усё трэба было высвятляць, пра ўсё гэта трэба было ведаць Францішку, пісаць следчыя справаздачы, апісваць знешнасці злачынцаў. У яго ўжо было трохі вопыту. Але яшчэ не настолькі, каб было лёгка, як тыя арэхі лускаць, разблытваць людскія ўчынкі, зробленыя цёмнымі начамі, без сведкаў. Даводзілася нямала напружвацца, каб дабрацца сэнсу. Ён прыйшоў тады ж да яшчэ аднаго пераканання: каб весці як след дазнанне, каб не патрапіць на фальшывыя сцежкі ў часе следства, каб яны был і праўдзівыя, трэба ведаць побыт і звычаі тутэйшага люду, яго мову, і ён чуйна ўслухоўваецца ва ўкраінскую гаворку, засвойвае яе, стараецца з простым людам гутарыць на яго мове. Дапамагала яму часта інтуіцыя, здагадка. «Здагадка не горш за розум»,— часта думаў ён.

З паездак вяртаўся стомлены, абцяжараны брудам нечалавечых учынкаў і злачынстваў. У галаве мроіліся паказанні сведкаў, малюнкі саміх злачынстваў, чуліся галасы людзей... Пачалося прыкладна такое ж жыццё, як і на Валагодчыне. Часта думаў: «Ці навучацца хоць калі людзі ўсе свае непаразуменні вырашаць па-людску, па-чалавечы?!»

Пытанняў у яго ўзнікла шмат, але адказу на іх ён не знаходзіў. Стомлены развагамі, ён іншы раз браў у рукі «Чарнігаўскія губернскія ведамасці», спадзеючыся, што хоць іх чытанне пераб'е мо на якую хвілю яго нялёгкія думкі і настроі, але і там цэлыя старонкі таксама займалі паведамленні пра розныя злачынствы. Праўда, іншы раз трапляліся весткі з Беларусі — з Лоева, Гомеля, Мазыра, Міншчыны. Тады яго душа напаўнялася салодкімі, як сон, мроямі пра сваю Ашмяншчыну. Але рэчаіснасць імгненна вяртала яго ў штодзённыя следчыя справы.

У Барзне ён асабліва ні з кім не хаўрусаваў.

З усімі службоўцамі трымаўся наводдалі, не надта пускаў іх у сваю душу. Праўда, калі-нікалі заходзіў да барзнянскіх лекараў — Камінскага і Бекера, а таксама да правізара Савіцкага. Яны былі людзі зусім іншага складу, чым яго калегі — паліцэйскія, спраўнікі. З імі і гаворкі былі іншыя. Дый да лекараў у яго была патрэба хадзіць: пачуваў ён сябе не заўсёды добра, часам адгукаліся яго старыя хваробы. То і раіўся з лекарамі, як яму адужаць гэтыя свае даўнія немачы. А найбольш чытаў, слухаў іншых, прыглядваўся да ўсяго, не прапускаў барзнянскія кірмашы. Вельмі яго зацікавіла, што ў Барзне двойчы быў Тарас Шаўчэнка — у 1842 і 1847 гадах. Прыязджаў ён сюды, як сказалі яму, да свайго барзнянскага сябра — паэта М.В. Забілы (1808–1869), аўтара зборнікаў паэзіі «Спеў скрозь слёзы», «Гудзе вецер вельмі ў полі». Не раз барзнянцы бачылі іх разам на вуліцах гарадка, на хутары Кукурыкіўшчыне, пад Барзною, дзе нарадзіўся Забіла. Шаўчэнка намаляваў нават яго партрэт. Шмат хто з барзнянцаў памятаў свайго песняра. Ніводнага іх слова не прапускаў Францішак. Пра ўсё слухаў з цікавасцю, уніклівa. Асабліва яму запомнілася гісторыя пра Шаўчэнкаву непрыязь да аднаго тутэйшага пана — Белаазерскага. Пазней Францішак вычытае пра гэта ў паэтавым дзённіку з запісу за 22 студзеня 1858 года: «...цей філантроп-поміщік так оголив своїх селян, що вони склали про нього пісню, яка закінчується так:

А в нашого Білозера
Сивая кобила,
Бодай же його побила

Лихая година.
А в нашого Білозера
Червоная хустка,
Ой, не одна в селі хата
Осталася пустка».

І песня гэтая, і Шаўчэнкаў запіс дужа імпанавалі Францішку. Яны яму згадваліся чамусьці неаднойчы. Іншы раз яму здавалася, што гэтую песню ён сам пусціў у свет,— такая яна была сугучная яго настрою. Багушэвічу цікава было даведацца таксама, што ў 1861 годзе, калі памёр кабзар, цела яго правезлі праз Барзну. Тады ўсе да адзінага местачкоўцы выйшлі насустрач жалобнаму шэсцю. Барзнянцы паказалі цікаўнаму маладому следчаму і дамок-ляпянку, у якім жыў кабзар. Гэтая белая хаціна з нізкімі прыветнымі акенцамі стаяла ва ўтульным садку, заўсёды вабіла Францішка, навявала яму думкі пра кабзара, пра сваю забытую богам і людзьмі старонку. Дзесьці невыразна ў яго свядомасці абуджаліся якіясьці творчыя памкненні. Ён браў паперу і перадаваў ёй свае думкі, настроі. Але з пісаннем сваім таіўся ад усіх. Не было ў Барзне на тую пару такога чалавека, якому б ён мог даверыцца.

Праца следчага забірала ў яго амаль увесь час. Ён імгненна з'яўляўся на выклікі паліцыі, удумліва аналізаваў здарэнні, імкнуўся дабрацца сэнсу ў заблытаных, здавалася, часам непадуладных розуму справах. Пасля ён спахопіцца, пашкадуе, што гэтай службе аддаў лепшыя свае гады. «Прамываў цукар у вадзе»,— скажа з шчымлівым болем на сэрцы. Але пакуль усё рабіў сумленна і шчыра, за што здабыў сабе павагу і сярод службоўцаў, і тутэйшых людзей. Быў ён яшчэ нежанаты, і ўсе парыванні душы аддаваў следчым клопатам. З ім лічыліся, з ім раіліся, у яго прасілі рады, дапамогі, і ён як мог паляпшаў жыццё, рухаў яго да больш светлых людскіх ідэалаў. У Багушэвічу ўсіх вабіла яго чалавечнасць, выключная справядлівасць. Ён стараўся весці следства так, каб не заставалася аніякай няяснасці, каб усё было абгрунтавана, асэнсавана, імкнуўся падаць тую ці іншую справу так, нібы ўся яна адбылася на яго вачах.

У Барзне Багушэвіч стала пражыў трохі больш як два гады — з мая 1872 года да чэрвеня 1874-га. Тут ён за выслугу гадоў атрымаў у ліпені 1872 года чын калежскага сакратара.

## НА ПЕРАЛОМЕ

З усіх украінскіх гарадоў Багушэвіч найдаўжэй жыў у Канатопе, з 1874 да 1884 года. Гэта быў для яго час сур'ёзных разваг, роздуму і жыццёвых выпрабаванняў. Тут ён ажаніўся, тут у яго нарадзіліся дзеці.

Жыццё яго ў Канатопе пачалося ўсё з тых жа клопатаў пра атрыманне належнай яму матэрыяльнай дапамогі. Але дапамогі гэтай ён, здаецца, не атрымаў, хоць і патраціў шмат сілы і часу на перапіску з судовымі і фінансавымі ўстановамі. З перапіскі відаць, што ў Нежынскім акруговым судзе спачувалі Багушэвічу, спрыялі, але Міністэрства фінансаў не «бачыла» падставы на выплату Багушэвічу дапамогі. Мусіць, Францішак у роспачы махнуў на ўсё гэта рукою і перабіваўся тым, што меў. А грошы яму тады былі ой як патрэбны. Якраз прыспела жаніцьба. Думаў дадому ў Кушляны з'ездзіць з маладой жоначкай. Так што капейчына не пашкодзіла б. Давялося пазычаць у сяброў. Першыя тры канатопскія месяцы так і прайшлі ў мітуслівых клопатах: спачатку набеглі службовыя, затым падвалілі шлюбныя трывогі. Сур'ёзна ўзяўся за працу толькі пасля адпачынку. Як і раней, шмат ездзіў. Канатопскі павет быў невялікі, амаль бязлесны, але вельмі водны. Шмат рэчак, азёраў. Дазнанні даводзілася весці амаль такія ж самыя, што і ў Барзне і Гразяўцы. Знешне здавалася, што нічога ў Францішкавым жыцці не змянілася. Але назіральны чалавек мог заўважыць у Францішкавай душы і перамену. На службе стараўся не затрымлівацца, у раз'ездах доўга не бавіўся. Спяшаўся дадому. Дома было цяпер каму расказаць пра свае трывогі і хваляванні. Жоначка, Габа (Габрыеля), была ўважлівая, мяккая, умела паслухаць і разважыць; калі было цяжка ці маркотна на душы — суцешыць. Францішак быў удзячны лёсу, што ён паслаў яму такую спагадную сяброўку. Іх часта бачылі разам. Канатоп быў невялікі гарадок, і новыя людзі адразу запаміналіся ўсім. Гулялі яны найчасцей па Пуціўлеўскай вуліцы, поблізу сабора. Тут было найчысцей і больш утульна. Адна- і двухпавярховыя дамкі чыноўнікаў, купцоў, павятовых устаноў, крамы, крамні... Усё было блізка, пад рукою. Не прапускалі яны і канатопскіх кірмашоў. Чаго толькі на іх не было! Але найбольш прадавалі мёду. Без мёду тут не жыла ні адна сям'я. Прызвычаіліся ў Канатопе да мёду і Багушэвічы.

У горадзе стаяла шмат салдатаў. Тут кватаравала пятая батарэя. У аднаго з жаўнераў гэтай батарэі Францішак Багушэвіч 26 лістапада 1875 г. купіў Біблію 1869 года выдання. Было гэта так.

У канцы лістапада адбываўся ў Канатопе апошні вялікі кірмаш. Людзей на ім было — не прайсці. Прыйшоў зірнуць на гэты людскі вір і Францішак. Нямала снавала між цывільных і салдатаў. Адзін з іх круціў у руках тоўстую, у чорна-цёмнай вокладцы кнігу. Было незразумела, ці то ён хоча яе прадаць, ці то проста з сабою насіць. Але назіральнае Багушэвічава вока запрыкмеціла — усё ж прадае, але не хоча абы-якому купцу прадаваць. Салдату хацелася, каб кніга патрапіла ў вартыя рукі. І от, здаецца, такі купец знайшоўся.

— Купіце,— прапанаваў Францішку салдат.

Францішак узяў кнігу. Яна была зусім як новенькая, важкая, у добрай, з цісненнем, вокладцы, у перакладзе на польскую мову.

— Колькі хочаш? — счакаўшы нейкую хвілю, спытаўся Францішак.

— Пяць злотых,— адказаў артылерыст.

Францішак адлічыў яму гэтулькі, колькі ён папрасіў, і няспешна пайшоў далей. А пасля вярнуўся, распытаў адкуль артылерыст, як яго завуць. Сустрэць у гэтых мясцінах Біблію на польскай мове даводзілася не так часта. Тут пераважала праваслаўнае насельніцтва. Пакупка гэтая была для яго нібы стрэча з нечым яму дарагім і здаўна знаёмым. Ужо дома запісаў, што кнігу гэтую ён купіў у жаўнера пятай батарэі Францішка Кавальчука.

У Канатопе Багушэвіч не пачуваў сябе адзінокім. Поблізу, у Барзне, жыў брат Уладзіслаў. Ён часта наязджаў да яго ў Канатоп. Прыязджалі і іншыя сваякі. У 1876 годзе, як хрысцілі Туню, прыязджала Паўліна Шклёнік, жончына сястра. Маленькай дзяўчынкай гасцявала ў Багушэвічаў у Канатопе і Юля Радзевіч, іхняя пляменніца. З той гасціны дзядзька ёй запомніўся чамусьці пануры.

У Канатопе Багушэвіч атрымаў свае ўзнагароды — ордэн святога Станіслава 3-й ступені (1876) і ордэн святой Ганны 3-й ступені (1883). Тут жа ў 1882 годзе, праз чатырнаццаць гадоў службы, на 42-м годзе жыцця быў прызначаны судовым следчым. Дагэтуль жа ён выконваў абавязкі судовага следчага, ці, як тады казалі, быў «исправляющим должности судебного следователя».

Канатопцы ведалі Багушэвіча, паважалі яго, шанавалі, любілі. Вось якую паперу напісалі гараджане пра Багушэвіча ў 1875 годзе ў Нежынскі акруговы суд: «...большинство жителей города Конотопа весьма сочувственно относятся к полезной деятельности исправляющего должность судебного следователя Нежинского окружного суда г-на Богушевича, усиленным трудом которого несомненно обязаны»[8].

---

[8] Красное знамя (Ошмяны), 1988, 2 крас.

І далей ішла просьба выказаць Багушэвічу падзяку за яго бездакорную і карысную дзейнасць на службе следчага ў горадзе Канатопе.

Не адзін раз пасылаліся з Канатопа ў Нежын хадайніцтвы аб прызначэнні Багушэвіча членам акруговага суда. Трэцяга красавіка 1882 года Багушэвіч сам звяртаецца ў Міністэрства юстыцыі з такой просьбаю: дачуваецца, што ў Сувальскім акруговым судзе адкрываецца вакансія. Аднак усе яго захады разбіваліся як гарох аб сцяну. Усё гэта змушала Багушэвіча глыбока задумацца пра свой лёс.

## ДАДОМУ

Рашэнне было канчатковае: вяртацца на Беларусь. Перад гэтым Багушэвіч узяў адпачынак — адзін чарговы, другі па стану здароўя — і двойчы, спачатку ў жніўні — верасні, а затым у снежні 1883 года, з'ездзіў у няблізкую ад Канатопа Вільню. Там ён сустрэўся з сваімі даўнімі сябрамі. Яны паабяцалі яму месца прысяжнага паверанага пры Віленскім акруговым судзе. У Вільні семнаццатага снежня ён пакінуў прашэнне аб залічэнні яго ў адвакацкае саслоўе. І вось у Канатоп прыйшло паведамленне, што 21 студзеня 1884 года агульны сход Віленскага акруговага суда прыняў Багушэвіча ў прысяжныя паверанымя. Ад гэтай навіны моцна забілася сэрца. Як ніколі раней Багушэвіч адчуў шчымлівы покліч роднага краю. Цяпер засталося толькі падаць дакументы на звальненне — і дзень добры, Беларусь! І ён сеў пісаць заяву. Жаданне вярнуцца на бацькаўшчыну было такое вялікае і неадольнае, што ён, не адрываючы рукі ад паперы, адным дыхам напісаў:

«В Нежинский окружной суд<br>Судебного следователя 1-го участка Конотопского уезда<br>коллежского секретаря Франца Казимировича Богушевича.<br>Прошение...»

Напісаў і задумаўся... За гэтым яго рашэннем, за гэтай паперкай — сорак чатыры гады, большая частка яго жыцця. Ды што большая — цэлае жыццё. І амаль дваццаць з іх — на Украіне. А што ён зрабіў? Чаго дасягнуў? Спісаў горы следчых папераў. А каму ўсё гэта, скажыце, людзі, патрэбна? Гэта маглі б зрабіць і без яго, мог зрабіць і нехта іншы. А ён жа прагнуў якойсьці іншай дзейнасці. Але якой? Пакуль у яго жыцці была адна служба без прасветлін. Яна ганяла яго з павета ў павет, з вёскі ў вёску, змушала корпацца ў заганах людскога жыцця, дабірацца сэнсу ў прычынах гэтых заганаў. Але ці дабраў? Здаецца, што не. Прамываў цукар у вадзе, біўся як рыба аб лёд.

Збалела душа з свайго і чужога гора, але адказу ні на адно сваё пытанне не знайшоў. «Можа, у прыватнай адвакацкай практыцы знайду якую прадуху? — падумалася Францішку.— Усё ж не абвінавачваць людзей буду, не ў астрог іх пасылаць, а бараніць». І гэтае суцяшэнне надавала Францішку надзею, што жыццё яго пойдзе ў больш высакародным рэчышчы, чым яно было дагэтуль, і ён з усёй горыччу пачаў выкладаць на паперы матывы звальнення:

«Потеряв здоровье на долговременной службе в должности следователя (13 лет) и не имея возможности продолжать ее по скудности средств для удовлетворения служебных и жизненных потребностей, потеряв и надежду дожить более удовлетворительных условий, я решился искать хлеба в частном труде и потому имею честь покорнейше просить Окружной суд принять и представить начальству настоящее мое ходатайство об увольнении меня в отставку...»[9].

Пісалася гэта другога лютага 1884 года. Але захады на звальненне Багушэвіч зрабіў значна раней. Да заявы ён дадаў даведку ад лекара, якая сведчыла, што Багушэвіч і па стану здароўя не можа далей працягваць свае службы.

Багушэвічава заява ні для кога ў Нежынскім судзе не была нечаканасцю. Усе разумелі, рана ці позна Багушэвіч пакіне Канатоп, ведалі, што яго як магнітам цягне родная Віленшчына, Ашмяншчына. І ніхто, калі ён падаў заяву, не пярэчыў, не адгаворваў заставацца ў Канатопе. Асабліва спагадна пагутарыў з Багушэвічам пракурор Нежынскага суда Кобцаў. Ён запрасіў Францішка ў свой службовы пакой і на развітанне па-сяброўску сказаў: «Едзьце, Багушэвіч, едзьце... Вам у Вільні будзе значна лепей. Я вам жадаю ўсяго самага найлепшага. Вы гэтага вартыя...»

Словы Кобцава не выходзілі з Багушэвічавай галавы. Францішак як ніхто іншы разумеў іх сэнс... На Украіне Міністэрства юстыцыі не давала яму ходу, а калі казаць проста — зацірала яго. Колькі разоў Нежынскі суд падаваў дакументы на яго павышэнне — і ўсё безвынікова. Хвалілі, захвальвалі, які сумленны, высакародны працаўнік — кожны суд зробіць сабе і набытак, калі прыме ў свае члены такога здольнага і выдатнага дзеяча. Нават некалькі ўзнагарод далі, а самой справы не зрушылі за трынаццаць гадоў ні на крок. Ужо даўно па ўсіх законах Багушэвіч павінен быў быць не менш як суддзя апеляцыйнага суда ці ўрэшце член акруговага суда. А ён амаль да апошняга хадзіў у выконваючых абавязкі судовага следчага, і толькі ўсяго за нейкія паўтара года да падачы заявы на звальненне яго

---

[9] Пачынальнікі. Мн., 1977. С. 409–410.

прызначылі судовым следчым. Дый у чыне Багушэвіча была пара павысіць. Яму даўно належала быць не менш як надворным саветнікам, а ў яго фармулярным спісе на момант звальнення ў графе «чын» значылася ўсяго «калежскі сакратар». На ўсе рэкамендацыі Нежынскага акруговага суда, што Багушэвіч сваёй сумленнай працай, пры выдатных маральных якасцях заслугоўвае заняць больш высокую пасаду, у Міністэрстве юстыцыі маўчалі. Гэта выклікала ў некаторых Багушэвічавых калег завышаную цікавасць да яго асобы. Між іх хадзілі чуткі, што нібыта Багушэвічу замінае падымацца па службовай лесвіцы яго мінулае. Ён быў у паўстанні 1863 года, вось таму да яго такі недавер. Багушэвіч да гэтых гаворак не надта прыслухоўваўся, але адчуваў, што менавіта за паўстанне царскія чыноўнікі не даюць яму ходу, трымаюць яго воддаль ад сябе. Але ўсё гэта ўжо мінула. «Сёння ж галоўнае, я еду дадому,— думаў Багушэвіч, заканчваючы пісаць заяву.— І цяпер — назаўсёды. А там яно якась будзе...» Гэта была яго любімая памоўка. Не адзін раз ён суцяшаў сябе ёю. Яна мела той жа самы сэнс, што і вядомая: «Пераначуем — болей пачуем».

Блізкім ад'ездам на Віленшчыну жыла і ўся сям'я. Асабліва дзеці. Яны толькі пра тое і лапаталі, што хутка паедуць. Усё распытвалі, а якія тыя Кушляны, дзе жыве іх дзядуля. Заклапочана была ад'ездам і жонка. Пераезд быў няблізкі і нялёгкі, патрабаваў шмат турботаў. Дый дзеці былі малыя: Туньцы ішоў дзевяты, а Тамашу — трэці. «І ім там, пэўна ж, будзе лепей,— думаў Багушэвіч пра дзяцей.— Хутка іх у навуку аддаваць. Дый з сваёй зямелькай, з сваімі людзьмі хай зжываюцца...»

Пакідаў Багушэвіч Канатоп у канцы сакавіка 1884 года. Дваццаць трэцяга ён пісьмова паведаміў у Нежынскі акруговы суд, што выбывае з Канатопа і просіць пераслаць усе яго дакументы ў Вільню.

Для Багушэвіча пачыналася новая, самая яскравая старонка ў яго жыцці. Ён ехаў на Беларусь, каб мастацкім словам будзіць прыспаную думку беларускага селяніна, клікаць яго да лепшай долі. У Вільні яго чакалі даўнія сябры і прыяцелі. Клікаў яго дадому і бацька: «Калі можаш, калі можна, сынку,— казаў ён Францішку пры апошняй сустрэчы,— вяртайся. Бачыш, я ўжо зусім аслаб, занядужаў. Мусіць, нядоўга працягну. Некаму ж трэба будзе і гаспадарку прыгледзець...»

Багушэвіч ехаў на Беларусь поўны надзей і спадзяванняў, што родная зямля дасць яму ўсё, чаго гэтак доўга прагла яго душа.

## ВУЛІЦА КОННАЯ

Мабыць, вуліцу з такой састарэлаю назваю можна цяпер напаткаць хіба толькі ў адным сучасным Вільнюсе. Праўда, па-літоўску яна гучыць крыху інакш — Арклю. Але Арклю і Конная — гэта адно і тое ж самае.

Гэтая вуліца, як і шмат што іншае ў старажытнай Вільні, хоць і з некаторымі стратамі і зменамі, усё ж дайшла да нас амаль такой, якой яна была сто і болей гадоў таму назад.

Некалі яна была забудавана не толькі мураванкамі, але і драўлянымі аднапавярховымі дамкамі. Праўда, многія драўляныя дамкі пазносілі яшчэ за царскім часам. А шкада! У адным з іх, што стаяў на рагу вуліды Коннай і старога рыначнага пляца, жыў у васьмідзесятых гадах мінулага стагоддзя беларускі пясняр і адвакат Франц Багушэвіч.

Чым жа прывабіла яго вуліца Конная?

Перш за ўсё гэта была невялікая, ціхая і нейкая інтымная вулачка. Расло на ёй і крыху зеляніны. Асабліва інтымны быў той лапік гарадской зямлі, на якім забудаваўся прыватны лекар Іпаліт Казлоўскі, у доме якога, уласна, і асеў у 1884 годзе Багушэвіч.

Дамок акружаў невялікі садок, быў свой дворык, кветнічак. У Багушэвічавы вокны штораніцы зазіралі галінкі бэзу і вішняў, весела чырыкалі вераб'і. У расчынены пакой цягнула расой і прахалодаю. Усё гэта імпанавала Багушэвічу. Ён з маленства прызвычаіўся да сялянскай прастаты і хацеў штодня адчуваць пад нагамі зямлю. Расчыніў дзверы, ступіў крок з ганка — і ты ў абдымках самога жыцця — сонца, ветру, святла, зеляніны, розных водараў і пахаў. А ў камяніцы не пайшоў, хоць іх было наўкола процьма. Камяніцы ён не любіў, камяніцы яго прыгняталі.

Была і яшчэ адна прычына, чаму Багушэвіч ігнараваў, абыходзіў мураванкі з іх камфортам і выгодамі. Яму хацелася, каб яго гарадское жыццё хоць крышку, хоць знешне было падобнае да жыцця сялянаў, якія меліся да яго часта заходзіць, каб селянін у сваёй сярмязе і лапцях не адчуваў у яго пакоях сябе разгубленым, прыгнечаным.

Задавальняла Багушэвіча і геаграфічнае размяшчэнне вуліцы Коннай. Была яна амаль у самым цэнтры горада і злучала шэраг іншых, больш шумных і жыццёвых,— Садовую, Завальную, Райскі завулак. Адзін канец яе выходзіў на Вастрабрамскую, поблізу драматычнага тэатра, другі ўліваўся ў конны пляц, які за розным часам і называўся па-рознаму. У Багушэвічаву пару яго называлі Хлебным, ці

Збожжавым, рынкам, а яшчэ даўней — Старым, ці Конным, торгам. Уласна ад гэтай назвы атрымала свой назоў і вуліца Конная. У старой літаратуры яе так і называлі — Коннага рынку вуліца.

Ад Багушэвічавага дома было вельмі блізка да чыгуначнага вакзала і пошты. Дый да судовай палаты было рукой падаць. Яшчэ бліжэй — акруговы, суд. Амаль побач быў тэатр, гімназія, кнігарні і многія іншыя тагачасныя ўстановы, да кожнай з якіх можна было дайсці за лічаныя хвіліны. Усё гэта стварала для Багушэвіча пэўныя жыццёвыя зручнасці ў немаладой ужо па тым часе Вільні.

Уставаў Багушэвіч, як сведчаць яго сучаснікі, па-сялянску надзвычай рана, дзесьці а пятай ці шостай гадзіне, асабліва ў рыначныя дні. У такія дні вуліца Конная і прылеглы да яе Конны пляц, звычайна ціхія і не вельмі людныя, абуджаліся, ажывалі, напаўняліся рыпам сялянскіх вазоў, гаманой фурманаў, іх ноканнем, піскам усялякай жыўнасці, якую вялі і везлі вясковыя цёткі і дзядзькі з розных куткоў Віленшчыны на продаж. Былі гэта пераважна ўсё беларускія сяляне: з-пад Крэва, Вілейкі, з-пад яго Смаргоні, Ашмянаў. І Багушэвіч не мог сядзець у такія дні ў хаце. Ён ішоў на рынак, хадзіў між сялянскіх падвод, услухоўваўся ў нетаропкую напеўную гаману дзядзькаў і цётак, і ў яго галаве снаваўся свой рой думак — той, што напоўніць глыбокім зместам яго творы.

Побач з Багушэвічавай кватэрай быў не толькі рынак, але і заезныя двары для вясковага люду, і кожны не прапускаў выпадку завітаць да адваката, што і гаворыць у іх мове, і хутка вырашае іх справы. Багушэвічаву кватэру ў Вільні, паводле сведчанняў яго сучаснікаў, заўсёды было лёгка распазнаць. У рыначныя дні каля яе ад сялянаў аж роілася.

Шмат чаго памятае вуліца Конная! Шмат чаго яна магла б расказаць пра нашага пссняра: і як ён нёс у лістападзе 1890 года з трапяткім хваляваннем на пошту рукапіс свае першае кніжкі — «Дудкі Беларускай», як ён страчаў у Вільні Элізу Ажэшку! І пра яго захаплядьныя шпацыры і развагі над доляй народа з Зыгмунтам Нагродскім. Ды ці мала яшчэ пра што! На Коннай жа паэт пражыў самы плённы адрэзак свайго часу!

Магла б расказаць вуліца Конная, ды не расказвае. Маўчаць яе муры. Некалі яны належалі Жуковічам, Сакаловым, Левіным, Аранскім, Баркенбергам, Кінкульніным, Зільберманам. А жылі ў іх чыноўнікі, купцы, бухгалтары, настаўнікі, людзі розных іншых заняткаў. Сярод іх і юрысты — Гарын, Якаўлеў, Левін. Упадабалі гэтую вуліцу чамусьці і медыкі. У розныя часы жылі на ёй жаночы доктар Алена Віктараўна Гамаліцкая, прыватны лекар Фердынанд

Хрысціянавіч Стакман, вайсковы доктар палкоўнік А. Браўчынскі, павівальныя бабкі Шарлота і Марыя Кайранскія і шэраг іншых. Урэшце, медыкам быў і Багушэвічаў гаспадар. Цікава, што ў Казлоўскага, паводле звесткі «Памятнай кнігі Віленскай губерні на 1894 год», апрача Багушэвіча, быў і яшчэ адзін кватарант — доктар медыцыны, стацкі саветнік Вітольд Францавіч Хмялеўскі.

Многіх з іх Багушэвіч ведаў. Некаторым сімпатызаваў, рады быў сустрэчы, іншых, розных баронаў і баранес, накшталт Фітынгофаў — буйных домаўладальнікаў, у будынках якіх на Коннай мясціліся нават дзяржаўныя ўстановы — Віленскі зямельны банк, павятовая паліцэйская ўправа,— абыходзіў моўчкі, у маўклівай пагардзе.

У Вільні Багушэвіч пражыў амаль чатырнаццаць гадоў. І ўсе чатырнаццаць гадоў ён кватараваў у доме Казлоўскага. Такой адданасці аднойчы абранай мясціне не вытрымаў ніхто з Багушэвічавых калег. Яны амаль штогод мянялі свае кватэры. Багушэвіч жа як пасяліўся на Коннай, гэтак і жыў тут, пакуль была змога, пакуль было здароўе.

## МАЦІ

Багушэвіч нарадзіўся ў Свіранах. Але доўгі час было невядома, якое дачынене мелі Багушэвічы да гэтага двара ў Рукойненскай воласці. Толькі з расказаў паэтавай унучкі Станіславы стала зразумела – з Свіранаў паходзіць паэтава маці. Вось чаму Свіраны і сталі радзімай Францішка Багушэвіча. Дзявочае прозвішча Багушэвічавай маці Галаўня, Канстанцыя Галаўня. У наваколлі Свіранаў некалі скрозь жылі адны Галаўні. Яго і хрысцілі Галаўні, Тэкля і Фелікс. Тэкля была за хросную маці, Фелікс за сведку. Ці не былі гэтыя Галаўні Дзедам і бабкай Францішка па матчынай лініі? На гэтае наша пытанне даць адказ могуць толькі архіўныя дакументы.

Але ўжо і цяпер зусім відавочна, якое дачыненне мелі Багушэвічы да Свіранаў. «Я казала п. Мальдзісу, таму дзядуля быў народжаны ў Свіранах, што яго маці паходзіць з Свіранаў. А даўней жанчыны ездзілі раджаць да матак»,— пісала ў адным з сваіх лістоў сярэдняя Багушэвічава ўнучка Станіслава Тамашэўская.

Пра Багушэвічаву маці пакуль мы ведаем вельмі і вельмі мала. Нам нават даты яе жыцця невядомыя. Нідзе, хоць бы ўскосна, імя яе не згадваецца і ў сямейных дакументах. Захавалася толькі некалькі фотаздымкаў.

Вось яна злева на сямейнай фатаграфіі 1864 года. Стаіць побач з Францішкам, атуліла яго сваёй постаццю. Левая рука па-мацярынску лягла на сынава плячо. Дый другая, што пад кішэняй, таксама мкне да яго плечука.

Жанчына яна, відаць, была валявая, зацятая, скупая на знешнюю ласку, але ўнутрана шчырая, высакародная. Гадоў пяцьдзесят — пядьдзесят пяць можна ёй даць па аблічччы, адбітым на здымку. Апранута яна ў якуюсь чорную кофту з высокім, пад горла, закрытым каўнерыкам; зверху па ім бачыцца белы адкладны. Запамінаецца і доўгая, шырокая, тагачасная спадніца.

Захаваўся і яшчэ адзін здымак Багушэвічавай маці. Знятая яна ў зусім сталым веку. Мабыць, здымалі яе дзе-небудзь дома, бо звыклыя прыкметы фатаграфічнага павільёна нідзе не праглядаюцца. Сядзіць яна на чыстым фоне, аблеглася правай рукою на тагачасны столік-аднаножку. Позірк вачэй яе гнеўны, зацяты. У поглядзе яе ёсць нешта ўладарнае, нават дэспатычнае. Цяжка сказаць, ці тут выявілася рыса характару, ці гэта нейкае своеасаблівае імгненне душы, выяўленае перад фатаграфічным апаратам. Але аблічча яе запамінаецца, уражвае.

Апранута яна тут таксама ў цікавы фальваркова-шляхцянскі строй. Зноў жа на ёй шырокая, нібы распушчаны парасон, цёмная спадніца, аздобленая ўнізе каляровым шлякам ці фальбонкай. Плечы ахінуты вялікай, шэрай, у дробную клетку хусткай-ахілянкай з махрамі. На галаве каптурык з вушкамі, квятамі і тасёмкамі. Гадоў семдзесят можна даць ёй на гэтым здымку...

У маладыя гады Францішак быў нечым вельмі падобны да маці. Яна гэта бачыла. І хоць усе дзеці аднолькава былі ёй дарагія, усё ж душой яна хінулася да Францішка. У ім яна знаходзіла шмат свайго.

Некалі ў наваколлі Кушлянаў пра старых Багушэвічаў хадзіла шмат розных легендаў, але, на жаль, ніхто іх не запісваў, і таму ўсе яны пайшлі ў нябыт. Адзін Францішак, мабыць, нейкім чынам перадаў голас маці ў сваёй пранікнёнай «Калыханцы»:

Люлі, сынок, люлі, люлі!
Усе курачкі паснулі,
Ой, паснулі і курчаткі
Пад скрыдэлкам свае маткі...

Ёсць у гэтай «Калыханцы», безумоўна, нешта і матчына... Матчыны калыханкі, мусіць, паўставалі, абуджаліся не раз у Францішкавай душы, калі ён пісаў сваю пранікнёную песню.

Багушэвічава маці памерла, на думку Г. Кісялёва, яшчэ раней за бацьку. Але дзе яна пахавана, мы не ведаем. На сямейнай магіле Багушэвічаў у Жупранах яе імя чамусьці не значыцца. Даводзіцца толькі шкадаваць, што час данёс да нас гэтак мала звестак пра тую, што нарадзіла вялікага песняра, мужнага чалавека. Але Багушэвіч любіў яе. ...У 1875 годзе ў Францішка народзіцца дачка. Так выпадзе, што яна таксама атрымае імя Канстанцыя. Гэтае імя і сама дачушка будуць заўсёды нагадваць паэту пра маці, якая выгадавала яго.

## БАЦЬКА

Пра Казіміра Восіпавіча Багушэвіча, паэтавага бацьку, да нас дайшло значна больш звестак, чым пра маці. Нарадзіўся ён, па адных звестках, у 1799-м, па іншых — у 1800 годзе. Апошняя дата найбольш верагодная, яна даволі часта сустракаецца ў розных дакументах. Сам жа Казімір Восіпавіч у 1863 годзе на следстве паказваў, што яму шэсцьдзесят шэсць гадоў.

Але возьмем пад увагу, што на допытах многія завышалі свае гады, падвышалі свой век. Мабыць, шукалі паратунку ад Мураўёва, спадзеючыся на якуюсь літасць за старасць.

Гэта быў надзвычай горды і зацяты чалавек. Вёў сваю невялікую, на 34 мужчынскія душы, гаспадарку. Вёў спраўна, не шкадаваў на яе сілы ні свае, ні сваіх парабкаў. А калі ў 1861 годзе была скасавана паншчына, ён без асаблівых ваганняў аддаў сялянам вызначаную ім зямлю, аддаў палюбоўна, і скаргаў на яго не было.

Казімір Восіпавіч ганарыўся сваімі сынамі, радаваўся, што яны растуць сумленныя, удумлівыя. Бывала, як выберуцца ў Жупраны ці Солы на кірмаш які ці да касцёла, дык усе залюбуюцца імі: стройныя, ладна складзеныя, адзін у адзін. Не хлопцы, а дубы. А побач з імі бацька. Тады ён таксама быў яшчэ даволі моцны. Высокі, лабасты з аголенай галавой. Чорная, з сівізною абкладная барада зліваласе з вусамі і па-волатаўску клалася яму на грудзі, рабіла яго яшчэ больш зацятым і непадступным. Ён такі і быў. Любіў сваіх хлапцоў і адзіную дачку Ганну. Але не песціў. Апранаў у шэрыя з вясковага сукна світкі. Дзеці дапамагалі ў гаспадарцы, вадзілі коні на начлег. Жылі дружна, любілі працу, раслі працавітыя. Сам Казімір Восіпавіч быў пісьменны і з усяе сілы стараўся, каб і дзеці атрымалі хоць якую адукацыю. Напачатку вучыў іх дома, наймаў настаўнікаў, а пасля павёз старэйшых у Вільню па большую навуку. Хацеў, каб яны з тае навукі атрымалі дзяржаўныя пасады. На зямлі ім не раіў заставацца, дый не хацеў гэтага. І зямлі той не гэтак шмат было на пяцярых, калі давядзецца дзяліць. «Час ужо,— казаў ён,— і Багушэвічам у людзі выбіцца». Сродкаў на вучобу дзяцей не хапала, і ён абіваў парогі шляхецкіх устаноў, клянчыў, каб тыя далі яму даведку пра яго беднасць. Не вельмі гэтага хацелася рабіць Казіміру Восіпавічу, але куды ты дзенешся. Шмат ён расказваў сынам, як яго дзяды зямлю ўраблялі. Колькі з гэтае зямлі пры падзелах было сварак ды звадак. То не давядзі бог і вам, дзеці, дзяліцца. Дый хлопцы самі бачылі, што не вельмі вялікія прыбыткі дае ім зямля, гаспадарка, не хапае нават на вучобу, каб канцы з канцамі звесці. Хлопцы паслухаліся бацькавай парады і падаліся па навуку, а пасля на казённую службу. Валяр'ян уладкаваўся каморнікам у Ашмянах, Уладзіслаў служыў у войску, Францішак дзесьці настаўнічаў. На гаспадарцы заставаўся малодшы сын Апалінар ды дачка Ганна. Але і тыя ўжо пра нешта думалі. І тут 1863 год. Два сыны, Валяр'ян і Францішак, пабралі зброю ў рукі і падаліся ў паўстанцкія атрады. Казімір Восіпавіч таксама яшчэ адчуваў сілу. Праўда, стрэльбу ў рукі не браў, але спачуваў паўстанцам, дапамагаў ім чым мог: харчамі, правізіяй, даваў

прытулак і парады. Таму, мабыць, невыпадкова ў 1863 годзе вакол яго сядзібы кружылі змаганцы Каліноўскага. «Ідзіце ў Кушляны смела!» — казалі яны такім жа, як і самі. Ведалі, у Кушлянах іх абагрэюць, накормяць, патрэбную дарогу пакажуць, а то і непасрэдны загад праз іх ад паўстанцкіх камандзіраў атрымаюць. Але знайшліся рэнегаты, слабакі, якія выдалі Багушэвічаву сям'ю. Неадкладна тут жа з'явілася ў Кушлянах следчая світа, і ўсіх, хто быў дома, арыштавалі. Другога лістапада 1863 года Казімір Восіпавіч ужо даваў паказанні Ашмянскай следчай камісіі. На допытах трымаўся з годпасцю. Усе абвінавачанні адмаўляў. Адно толькі прызнаў, што два яго сыны ў паўстанні. Але гэтае прызнанне мала цешыла царскіх чыноўнікаў. Яны адчулі ў яго голасе ноткі гордасці за сыноў. За гэтую гордасць і непакору і каралі Казіміра Восіпавіча. У абвінаваўчым акце чыноўнікі асноўную яго віну сфармулявалі так: за недастатковы нагляд за дзецьмі.

Больш як на год амаль зусім апусцелі Кушляны. У 1864 годзе тут упершыню сеялі, касілі і жалі без гаспадара. Вярнуўся ён дахаты толькі ў лістападзе, а з ім Апалінар і Ганна. Усе яны прайшлі праз суровыя выпрабаванні мураўёўцаў, і ў душах ва ўсіх нешта нібы надламалася. Казіміра Восінавіча хацелі выслаць на перавыхаванне ва ўнутраныя губерні Расійскай імперыі, але абмежаваліся секвестрам на Кушляны. Мабыць, пашанавалі яго паважны век.

Пасля паўстання 1863 года Кушляны вярнуліся да прытомнасці не адразу. Доўга не ведалі, дзе Франц. Але, нарэшце, аб'явіўся і ён, змэнчаны, схуднелы, знясілены, не было толькі Валяр'яна. Францу было небяспечна заставацца ў бацькоўскім доме, і ў сям'і вырашылі, што яму трэба дзесьці перабыць, перачакаць, пакуль тут усё абляжацца, аціхне. Самі ж узяліся спакваля ладзіць сваю гаспадарку далей. Тым часам дзеці сталелі, жаніліся. Раней за ўсіх, у 1872 годзе, выйшла замуж Ганна. Праз два гады ажаніўся Франц. Неўзабаве Казімір Восіпавіч прычакаў і першых унукаў. Але гады бралі сваё. Памёр ён 29 лістапада 1884 года, маючы 84 гады. Пахавалі яго на жупранскіх могілках, на пагорку, поблізу касцёла. Былі на гэтым пахаванні ўсе яго сыны, апрача Валяр'яна. Паставілі на яго магіле высокі дубовы крыж і зрабілі адпаведны надпіс: Казімір Багушэвіч (1800—1884). Пасля Францішак абнясе бацькаву магілку каменнымі слупкамі з ланцугом, а побач пасадзіць сваё любімае дрэўца — ядловец. Вечназялёнае — хай яно заўсёды сімвалізуе жыццё, яго бясконцасць, яго вечнасць.

## УЛАДЗІСЛАЎ

Найбліжэй да Францішка быў яго старэйшы брат Уладзіслаў. Уладзіслаў Багушэвіч нарадзіўся ў 1835 годзе ў тых жа, што і Францішак, Свіранах. Быў ён першанькі ў сям'і Казіміра Багушэвіча. Гадаваўся, як і ўсе Казіміравы дзеці, уражлівы, паслухмяны, меў схільнасць да навукі. З паказанняў бацькі ў Ашмянскай следчай камісіі другога лістапада 1863 года мы даведваемся, што Уладзіслаў у гэтую пару служыў афіцэрам у Капорскім палку. У 1863 годзе Капорскі полк, паводле звестак У.А. Дзьякава, аўтара кнігі «Деятели русского и польского освободительного движения в царской армии 1856-1865 годов»[10] дыслакаваўся ў Паўночна-Заходнім краі. Звесткі гэтыя вельмі важныя. Уладзіслаў — вайсковец, афіцэр. Полк, у якім ён служыць, у краі, дзе адбываецца паўстанне. Гэты полк і прыслалі сюды, каб уціхамірыць развіраваны люд.

Як жа паводзіў сябе ў гэты складаны час Багушэвічаў брат Уладзіслаў як афіцэр пяхотнага палка? Дакладных звестак пра гэта мы не маем. Але ход наступных падзей сведчыць, што Уладзіслаў выйшаў з гэтага свайго складанага становішча з годнасцю, не запляміў сябе, бо інакш бы ўсе Багушэвічы не прыпялі яго ў сваю сям'ю, праклялі яго. Яны ж усе былі паўстанцы. Але гэтага не здарылася. Наадварот, у 1874 годзе мы сустракаем Уладзіслава на Украіне — і што самае цікавае — у тых жа мясцінах, дзе жыў і працаваў Францішак Багушэвіч. Адкуль патрапіў Уладзіслаў на Украіну, мы гэтага пакуль не ведаем. Адно вядома, што ў ліпені 1874 года ён ужо афармляўся на службу ў Нежынскі акруговы суд. Чацвёртага жніўня 1874 года ў нядзельным выпуску «Чарнігаўскіх губернскіх ведамасцяў» была змешчана пра гэта спецыяльная абвестка. Пятнаццатага всрасня Уладзіслаў быў на Францішкавым шлюбе ў вёсцы Баркоўка поблізу Нежына. З дакументаў 1876 года мы даведваемся, што Уладзіслаў шаснадцатага чэрвеня хрысціў у Канатопе паэтаву дачку Туню (Канстанцыю), быў ён ёй за хроснага бацьку. З Тунінай хроснай метрыкі ды з паведамленняў «Чарнігаўскіх губернскіх ведамасцяў» відаць і чым займаўся на Украіне Уладзіслаў. У 1876 годзе ён быў судовы прыстаў Нежынскага акруговага суда; пры гэтым жа судзе працаваў судовым следчым і Францішак Багушэвіч. Думаецца, гэта невыпадкова. Два браты з далёкай ад

---

[10] Дьяков В.А. Деятели русского и польского освободительного движения в царской армии 1856—1865 годов. М., 1967. С. 209.

Украіны Ашмяншчыны служаць у ведамстве аднаго міністэрства пры адным і тым жа акруговым судзе.

Якая доля закінула Уладзіслава на Украіну, што яго змусіла застацца менавіта тут? Чаму ён не падаўся ў бацькоўскі кут ці ў тую ж Вільню?

Каб знайсці хоць які адказ, згадаем яшчэ колькі слоў пра той полк, у якім служыў Уладзіслаў. У 1857 годзе ён дыслакаваўся ў Варшаве, у 1862 г.— у Юрбарку і Коўне, у 1863 г., як мы ўжо зазначылі,— у Паўночна-Заходнім краі, у 1865 г. яго перакінулі ў Цвер. У гэтым палку, як сведчаць змешчаныя ў кнізе У.А. Дзьякава дакументы, былі і рэвалюцыйнага настрою афіцэры, родам з Беларусі, якія шчыра падтрымлівалі паўстанне. Думаецца, сярод такіх афіцэраў жыў і Уладзіслаў, убіраў іх ідэі і настроі. З прычыны такіх настрояў, відаць, служба ў войску была не па ім, і ён у званні падпаручніка падае ў адстаўку. Але, мусіць, перш чым зрабіць гэты крок, раіцца з Францішкам. Той ухваляе яго задуму, яго намер і гукае да сябе: «Прыязджай, братка, удваіх тут нам будзе весялей!», дапамагае яму ўладкавацца на працу ў Нежынскім акруговым судзе.

Пасада судовага прыстава Уладзіславу як нядаўняму вайскоўцу падыходзіла. Праўда, апрача вайсковай вывучкі, дысцыпліны, яна патрабавала і пэўных юрыдычных ведаў. Але гэта яго не вельмі бянтэжыла, заўсёды побач быў Францішак і пры патрэбе ў любую хвіліну пракансультуе, парадзіць. Так Уладзіслаў з вайсковага падпаручніка стаў судовым прыставам. Праца гэтая была новая для тагачасных судоў, абы-каго на яе не бралі. Судовымі прыставамі маглі быць толькі надзвычай сумленныя людзі, якія ніколі не былі пад судом ці следствам, не зняслаўленыя грамадскім ці саслоўным прысудам. Пры пазначэнні на гэтую службу трэба было ўносіць грашовы задатак і даволі ладны — ад чатырохсот рублёў да шасцісот. Затым ішоў цэлы год стажыроўкі, год выпрабавайняў, прыняцце прысягі, толькі пасля гэтага стажор атрымліваў пячатку і адпаведны знак. Усе гэтыя выпрабавайні Уладзіслаў вытрымаў і колькі гадоў сумленна выконваў свае нялёгкія і разнастайныя абавязкі пры Нежынскім акруговым судзе. Аднак з дакументаў за 1879 год, з публікацый у «Чарнігаўскіх губернскіх ведамасцях» за 9 снежня (№ 49) вынікае, што неўзабаве Уладзіслаў мяняе службу судовага прystава на працаўніка натарыяльнай канторы. Мы ўжо бачым яго ў Барзне, у тым жа гарадку, дзе нейкі час жыў пасля вяртання ўвесну 1872 года з Волагды і Францішак. Зноў Уладзіславу давялося пайсці братавымі сцежкамі.

У Чарнігаўскім абласным архіве — у яго філіяле ў Нежыне — захавалася некалькі дакументаў з натарыяльнай практыкі Уладзіслава. З аднаго з іх, які так і называецца — «Ведамасць справам Барзнянскага натарыуса Уладзіслава Казіміравіча Багушэвіча для актаў, што не адносяцца да нерухомай маёмасці» за 1882 год,— мы даведваемся, што Уладзіслававa натарыяльная кантора знаходзілася ў Барзне на вуліцы Маскоўскай у доме Сітка. Ловім сябе на думцы, што ў гэтым доме, пэўна, не раз быў і Францішак, калі наязджаў да брата ў госці. З гэтых жа папераў мы атрымалі ўяўленне пра Уладзіславаў почырк, яго роспіс. Маецца і выразны адбітак пячаткі з такім блізкім і дарагім прозвішчам: «Печ. нотаріуса В.К. Богушевича въ г. Борзнъ». Да якой пары, да якога года займаўся Уладзіслаў натарыяльнай практыкай, таксама пакуль невядома. Праўда, з ускоснага дакумента, з метрычнага выпісу пра смерць бацькі, а выпіс гэты зроблены ў канцы 1885 года, пазначана, што Уладзіслаў у гэтую пару яшчэ жыў на Украіне, працягваў сваю службу ў Барзнянскай натарыяльнай канторы. Але неўзабаве і ён пакіне Украіну. Родная зямля пагукае і яго састарэлае, спакутаванае па радзіме сэрца ў Вільню, у Кушляны.

Пра апошнія гады жыцця Уладзіслава на Віленшчыне расказваюць кушлянцы.

Марыя Саевіч, дачка сучасніка Ф. Багушэвіча Яна Каспяровіча: «Татка мой казаў, што з Багушэвічам у Вільні жыў і яго брат. Быў ён вельмі хворы, нямоглы, спаралізаваны, цела з яго валілася... Калі Багушэвіч пераехаў у Кушляны, то і брата з сабою забраў. Калі выносілі на вуліцу, то як выносіць, дык ён крычаў: «Давайце Юзука». А Юзук — гэта мой дзядулька. Ніхто яго, беднага, не вынесе так, як дзядулька, каб не балела...»

Пра тое, што разам з Францішкам Багушэвічам жыў вельмі хворы, спаралізаваны брат, згадвае і паэтава пляменніца Юля Радзевіч і яго ўнучка Станіслава Тамашэўская. Між іншым, Тамашэўская, а таксама Багушэвічаў сусед Альхімовіч сцвярджаюць, што Уладзіслаў пабыў на высылцы ў Сібіры. Памёр Уладзіслаў шостага снежня 1903 года. Пахавалі яго на тым жа парафіяльным жупранскім могільніку, побач з бацькам, побач з любімым і адданым братам Францішкам. Як сведчыць актавы запіс № 151 за 1903 год Гродзенскага абласнога архіва актаў грамадзянскага стану, пражыў Уладзіслаў шэсцьдзесят восем гадоў, быў не жанаты, усё сваё жыццё прахаласцякаваў. Мусіць, таму пры падзеле бацькавай спадчыны яму не выпала ніякай долі, хоць імя яго і згадваецца ў спадчынных дакументах. Як і ўсе бабылі,

любіў братавых дзяцей; пасля выхаду ў адстаўку ён скрозь ужо трымаўся сем'яў сваіх братоў, там знаходзіў сабе спагаду і ласку.

## ГАННА

У дружнай, пераважна мужчынскай сям'і Багушэвічаў яна, дзяўчынка, была адна. Гэта, мабыць, і наклала пэўны адбітак на яе характар. Расла, як і яе браты, гордая, вальналюбная, з усведамленнем свайго чалавечага «я». Асабліва гэтыя яе рысы выявіліся ў часе паўстання 1863 года. Архіўныя дакументы той пары даносяць да нас такія эпізоды з яе жыцця.

...17 кастрычніка 1863 года адзінаццаць знясіленых паўстанцаў прыбіліся, нарэшце, да Кушлянаў. Спыніліся на ўскрайку сядзібы, у маладым ляску, поблізу Лысай Гары. Адзін з іх — Генрых Ільгоўскі — пераапрануўся ў сялянскую вопратку і пайшоў да жытла. Яго сустрэла круглатварая, вельмі вабная, з анёльскім абліччам брунетка ў чорнай сукенцы. Гэта была Ганна. Ільгоўскі папрасіў яе прыйсці да паўстанцаў. Яна паабяцала. Аднак замест яе прыйшоў малады бялявы юнак, ён сказаў, што сястра прыйдзе крыху пазней. І праўда, праз некаторы час пачуўся цокат конскіх капытоў. Усе павярнулі галовы і ўбачылі Ганну. Яна была ў той жа чорнай сукенцы, шэрай світцы і вялікай хустцы на галаве. Вочы яе апантана гарэлі. Да яе дайшла чутка, што паўстанцы надумаліся здацца, і гэта яе моцна абурыла. Яна пачала пераконваць іх, каб яны гэтага не рабілі, а ішлі далей: «Чакайне вестак ад Беніслаўскага, кіраўніка ашмянскімі паўстанцамі»,— сказала яна і знікла.

Паўстанцы начавалі ля Кушлянаў. 18 кастрычніка, надвечар, Ганна зноў з'явілася — і не адна. З ёй была яе сваячка з Крапіўна Баброўская, таксама яшчэ зусім маладое дзеўчынё ў цёмна-шэрай альгерцы. За гэты час Ганна з'ездзіла ў Солы, знайшла там Беніслаўскага, расказала яму пра ўсё, атрымала ад яго грошы, высветліла, якім маршрутам найлепей паўстанцам прабівацца ў Троцкі павет на з'яднанне з атрадам Фелікса Віславуха. Не думалася тады Ганне, што гэтае яе старанне павернецца праз колькі дзён супраць яе.

21 кастрычніка мужнасць пакінула стомленых пераходамі паўстанцаў, і яны склалі зброю. Пачаліся допыты. У сваіх блытаных адказах паўстанцы назвалі і Ганніна імя, сказалі, што на падыходзе да Кушлянаў яны ўжо хацелі здацца ўладзе, але Ганна сваёй воляй, сваёй перакананасцю змусіла іх рухацца далей.

25 кастрычніка Ганну разам з сяброўкай і госцяй Баброўскай арыштавалі. А другога лістапада Францішкава сястра ўжо давала

паказанні. Ёй рабілі вочныя стаўкі з паўстанцамі. Але яна трымалася мужна, катэгарычна адмаўлялася ад свайго знаёмства з арыштаванымі: ніколі і нікога не бачыла, не сустракалася, нічым не дапамагала, не гутарыла, не размаўляла. Ёй у памяці быў палымяны зварот Каліноўскага з «Мужыцкай праўды», каб жанчыны і дзяўчаты ўсялякімі спосабамі памагалі дзецюкам, што за іх пойдуць біцца. І Ганна трымалася Кастусёвага закліку. Нават следчы акт вочнай стаўкі з арыштаванымі яна, з сямі дапытаных, падпісала па-польску. Тады прысаромленыя Ганнінай мужнасцю паўстанцы пачалі адмаўляцца ад сваіх ранейшых паказанняў, і гэта нейкім чынам заблытала следства. Аднак на волю Ганну не адпусцілі. Спачатку яе трымалі ў ашмянскім астрозе. Астрог той, між іншым, абнесены высокай сцяною з завостраных, як алоўкі, бярвёнаў, дастаяўся ў Ашмянах аж да пасляваенных гадоў. Гэта на колішняй Жупранскай вуліцы. Затым Ганну перавялі ў віленскую турму. Ёй, як і ўсім арыштаваным у Кушлянах, за сувязь з паўстанцамі пагражала высылка ў Сібір. Аднак гэтага не здарылася, хоць і было прынята адпаведнае рашэнне. Нехта моцны заступіўся за Багушэвічаў, і яны ў канцы 1864 года выйшлі на волю. Пасля выхаду з астрога за Ганнай пакінулі паліцэйскі нагляд.

Вось такая паўстае з архіўных, на палітычных справах, дакументаў постаць Францішкавай сястры. Яна была на два гады старэйшая за Францішка. Нарадзілася таксама ў Свіранах, 26 ліпеня 1838 года, хрысцілі 28 жніўня. У Ганнінай хроснай метрыцы кумамі згаданы надзвычай цікавыя імёны. Сярод іх губернскі сакратар губернскага праўлення Міхаіл Каваленка з паняй Вікторыяй Купертавай, жонкаю капітана польскіх войскаў, высокапрападобны ксёндз Антоні Арсені Хралькевіч, доктар багаслоўя і магістр філасофіі з паняй Пелагеяй Купертавай, а таксама пан Чаплінскі з Агапіяй Блажэвічавай. Мы згадалі гэтыя імёны дзеля толькі аднаго: мажа, каторае з іх прывядзе нашых даследчыкаў да якіхсьці новых адкрыццяў, новых пошукаў, новых імпульсаў і перакрыжаванняў. Ва ўсякім разе гэтыя людзі былі блізкія Багушэвічам і іх варта нам мець на ўвазе.

Аднак вернемся да Ганны. Яна мела яшчэ імёны Казіміры і Юліяны. Але дома яе ўсе звалі найчасцей Ганна, ці яшчэ прасцей — Анэтка. У 1872 годзе Ганна выйшла замуж за Адама Мніховіча з фальварка Мажэйкава пад Ашмянамі. Шлюб брала ў Жупранскім касцёле, неўзабаве пасля Новага года. На Ганніным шлюбе былі кушлянцы Юрась і Ян Маркоўскія, Канстанцін Баброўскі з Крапіўна, Антон Мніховіч, а таксама Карл і Зузана, Адамавы бацькі. Францішак у гэтую пару жыў на Валагодчыне і наўрад ці прыязджаў на вяселле.

Ён, як сведчаць дакументы, у гэтую пару хварэў, часта браў кароткія адпачынкі, каб з'ездзіць у Волагду да доктара.

Жыла Ганна пераважна ў Кушлянах. У яе было двое дзяцей — дачка Марыя і сын Ян. Пазней Ян ажэніцца з Францішкавай дачкой Туняй. Марыя ж выйдзе замуж за Тарчэўскага, вядомага кніжніка і папулярызатара беларускай літаратуры і найперш Багушэвічавай творчасці.

Памёрла Ганна 25 лютага 1914 года, на восемдзесят трэцім годзе. Пахавалі яе, як і іншых Багушэвічаў, у Жупранах. Яна вельмі даражыла сямейнымі памяткамі, да глыбокай старасці пранесла пачуццё свае чалавечае годнасці, ніколі і нікому не даравала ніякага прыніжэння, абразы. Гэта была даволі энергічная жанчына. Гэта з яе рупнасці, з яе клопатаў да нас дайшоў Францішкаў здымак 1863 года, Апалінараў 1876 года (гэты здымак яшчэ ніколі не друкаваўся). Да нас дайшлі цікавыя памяткі і пра саму Ганну — гэта яе розныя талісманчыкі, абразкі, ляданкі, рэліквіярыкі. Яны вельмі даўнія. Некаторыя з іх разам з Ганнай прайшлі праз ашмянскі і віленскі астрогі падчас яе арышту ў 1863 годзе. Як сведчыць сямейная сага, Ганна ў астрозе шыла бісерам. Менавіта ў астрозе яна расшыла прыгожы шкаплерык і футаральчык для сваіх талісманаў. Усе гэтыя памяткі доўга захоўваліся ў яе ўнука Янкі Тарчэўскага ў горадзе Хошчна. Цяпер яны ў Мінску.

## ВАЛЯР'ЯН

Паўстанне 1863 года моцна перамалола лёсы ўсіх Багушэвічаў. Але найбольш сурова, як нам здаецца, яно адбілася на лёсе Валяр'яна. Унікаючы царскай расправы, ён мусіў назаўсёды развітацца з родным кутом, патаемна пакінуць Беларусь і асесці ў невядомай і незнаёмай Нямеччыне. Але пра ўсё па парадку.

...1862 год. Валяр'ян жыве ў Ашмяне (так народ называў і называе Ашмяны), служыць павятовым каморнікам. Працы яму хапае, балазе не мінула яшчэ і года, як была скасавана паншчына. Пра царскі маніфест хадзілі самыя розныя чуткі, самыя розныя пагалоскі. Кожны пра яго талкаваў як хацеў, як разумеў. Асабліва ў гэтую пару даставалася людзям Валяр'янавага занятку — каморнікам. Яму даводзілася тлумачыць і сам маніфест, і вырашаць спрэчкі між сялянамі і панамі, надзяляць зямлёю адных і адразаць яе ў другіх. А гэта не заўсёды праходзіла палюбоўна. Адным словам, юнак быў у віры палітычнага, эканамічнага жыцця. Тым часам у Ашмянах узнікае «Гурток Піянтковічаў», удзельнікі якога імкнуліся зразумець

сутнасць царскіх рэформаў і іх далёкія планы. Валяр'ян становіцца членам гэтага гуртка. Менавіта тут гартуецца яго палітычны накірунак. У Ашмянах у тую пару па руках ходзіць «Мужыцкая праўда» Кастуся Каліноўскага, «Гутарка двух суседаў» і іншая рэвалюцыйная літаратура. Валяр'ян, безумоўна, яе ведаў, чытаў.

Калі ўспыхнула паўстанне, Валяр'ян без вагання ўзяў у рукі зброю. Ён быў адзін з тых, хто рыхтаваў гэтае паўстанне. Змагаўся ў атрадзе Сігізмунда Мінейкі. Быў ён там не радавы паўстанец, а малодшы камандзір. Вось дакументальнае сведчанне аднаго з паўстанцаў гэтага атрада К. Ясевіча 4 кастрычніка 1863 года:

«Калі мы прыйшлі да начальніка Мінейкі ў Вішнеўскім лесе (у маі 1863 года), дык шайка наша дасягала сямідзесяці чалавек. Шайка была падзелена Мінейкам на чатыры часткі (секцыі); у кожнай частцы было прызначана па два унтэр-афіцэры. Унтэр-афіцэрамі былі... Багушэвіч, Мацкевіч і я — астатніх не памятаю». (Генадзь Кісялёў. Сейбіты вечнага. Мн., 1963. С. 291.)

Мураўёўцы настойліва шукалі Валяр'яна. Ім дужа хацелася расправіцца з гэтым непакорам. Ён быў унесены ў спіс палітычных злачынцаў. Спіс гэты прапаноўвалася надрукаваць у губернскіх ведамасцях і шукаць Валяр'яна і іншых паўстанцаў па ўсёй Расійскай Імперыі. Яго імя сустракаецца шмат у якіх следчых дакументах. Цяпер нам зразумела, чаму Валяр'яну нельга было заставацца ў родным краі. Яго чакала ў найлепшым выпадку Сібір. Нялёгка было расставацца з роднай старонкай, але іншага выйсця ў яго не было. У канцы ліпеня 1863 года Валяр'яну пашчасціла на колькі хвілін заскочыць у Кушляны — іхні атрад пераходзіў у Дубніцкія лясы. Магчыма, гэта была апошняя ці адна з апошніх яго пабывак дома. Далей яго жыццёвыя пуцявіны прывядуць, як мы ўжо згадвалі, у Нямеччыну. Гэта, мабыць, адбылося ў канцы 1864 года ці на пачатку 1865 года. Ва ўсякім разе ў снежні 1864 года царскія жандары ў сваіх паперах пісалі пра Валяр'яна, што ён прапаў без вестак. Дзе менавіта асеў у Германіі Валяр'ян — даюць адказ найноўшыя знаходкі Язэпа Янушкевіча. Яму пашчасціла ў Львоўскім архіве знайсці шэраг невядомых лістоў Ф. Багушэвіча да Яна Карловіча. У адным з іх за 26 студзеня 1885 года Францішак пісаў, што даўно марыць з'ездзіць у Люксембург, бо ад яго недалёка Wasserbillig, у якім жыве брат Валяр'ян. Ён быў дырэктарам якойсьці фабрыкі. Але гэтыя звесткі з 1885 года, а напачатку, прыгадваюць кушлянцы, Валяр'ян уладкаваўся на якуюсь цагельню рахункаводам ці бухгалтарам, а пасля ажаніўся з дачкою гаспадара — немкаю і спакваля стаў дырэктарам гэтай цагельні.

У сямейным альбоме Багушэвічаў ёсць фотаздымачак дзяцей. Яны яшчэ невялікія. Меншай, дзяўчынцы, мо які гадок. Хлопчыкам гэтак гадоў па тры-чатыры. Апранутыя яны ў чорныя гарнітурчыкі, у белыя кашулькі з адмысловымі, па-нямецку скроенымі бантамі. На нагах дабротныя лакаваныя чабоцікі, гафрыраваныя гольфікі. Станіслава Тамашэўская сведчыць, што гэта Валяр'янавы дзеці, а фірменны знак паказвае, што здымак зроблены ў Любэку. Гэта таксама Германія. Такім чынам, у розных дакументах праз Валяр'янава жыццё праходзяць такія геаграфічныя назвы, як Любэк, Кёльн, Васэрбіліг, Люксембург. Як жылося Валяр'яну ў Нямеччыне, як ён там сябе пачуваў, Багушэвічы больш-менш былі дасведчаныя. У тым жа лісце да Яна Карловіча Францішак з гумарам пісаў, паколькі яго брат жыве ў Нямеччыне, сярод «нямога» народа, то, пэўна, зусім занямеў і нічога не ўмее гаварыць па-людску.

Францішак даўно марыў наведаць брата. Што ні кажы, а разам гадаваліся, вучыліся ў адной і той жа гімназіі ў Вільні ў адны гады. Абодва прайшлі праз суровае выпрабаванне паўстання 1863 года, абодва перажылі расстанне з родным краем. Але Францішкава мара наведаць брата здзейснілася значна пазней, чым ён хацеў, і на гэта былі свае прычыны. Але ўсё ж ён наведаў яго. А вось ці Валяр'ян прыязджаў хоць калі ў Кушляны з Германіі, пра гэта невядома. Ва ўсякім разе, як відаць з Францішкавага ліста, да 1885 года ён на бацькаўшчыну не паказваў і носа.

Багушэвічаў сусед Станіслаў Альхімовіч памятае толькі, што ў Кушляны з Германіі прыязджалі Валяр'янавы сыны. Адзін быў марскі інжынер-падводнік, другі — доктар. Але гэта было значна пазней.

Пра далейшы лёс Валяр'янавай сям'і, яго нашчадкаў звесткі вельмі драматычныя.

Станіслава Тамашэўская ў лісце за 18 студзеня 1977 года пісала, што незадоўга перад Вялікай Айчыннай вайною на імя Багушэвічавай дачкі Туні — яна ў тую пару ўжо не жыла — прыйшоў ліст з Германіі ад аднаго з Валяр'янавых нашчадкаў — Ота Багушэвіча. Ён прасіў знайсці дакументы, якія б пацвердзілі неіудзейскае паходжанне Багушэвічаў. «Старэйшая сястра,— пісала Тамашэўская,— шукала гэтых дакументаў у біскупскай курыі ў Вільні — на жаль, папераў не знайшла, мабыць, загінулі падчас напалеонаўскай вайны; пэўна, Гітлер расправіўся з гэтай сям'ёй, бо ў нас не было пра іх звестак».

Вось такі драматычны лёс Францішкавага брата. Драма гэтая пачалася ў сярэдзіне дзевятнаццатага стагоддзя, з паўстання 1863 года, завяршылася, верагодна, перад пачаткам саракавых гадоў ужо нашага стагоддзя. Ёсць пра што падумаць, ёсць пра што разважыць.

## АПАЛІНАР

З Францішкавых братоў ён быў самы малодшы. Нарадзіўся ў Кушлянах, у 1846 годзе. Высокі, тонкі, даволі рослы. З высакароднымі рысамі твару, увесь адкрыты, натхнёны, узнёслы. У 1863 годзе яму было толькі семнаццаць. Спачатку вучыўся ў вандроўных настаўнікаў, затым у Віленскай гімназіі. Рос і гадаваўся на тых самых жыццёвых прыкладах і ўзорах, што і яго старэйшыя браты. Падчас паўстання дапамагаў дзецюкам Каліноўскага, насіў ім у лес харчы, добра ведаў «Мужыцкую праўду» — яе ў Кушляны прывозіў з Вільні гімназіст Антон Ясевіч, а вандроўны настаўнік Клімашэўскі чытаў яе сваім выхаванцам, закідваў праз газету зерне нянавісці да царскага ўрада, яго дэспатызму, і гэтая навука неўзабаве прыдалася Апалінару.

5 лістапада 1863 года царскія жандары зрабілі другі наскок на Кушляны. Першы быў 25 кастрычніка. Тады мураўёўцы арыштавалі Ганну, а гэтым разам прыехалі па Апалінара і бацьку. Да ашмянскай следчай камісіі дайшлі звесткі, што паўстанцам дапамагала не толькі Ганна, але і яе малодшы брат, і бацька. Вось яны і прыехалі па іх. Зрабілі вобыск, аднак нічога такога, за што можна арыштаваць Апалінара, не знайшлі. І ўсё ж юнака арыштавалі. Для Апалінара гэта было першае вялікае жыццёвае выпрабаванне. Нявопытны, ён часам блытаўся ў сваіх паказаннях, яго лавілі на словах. І ўсё ж ён трымаўся агульнай дамовы: нікога не ведаю, нічога не бачыў. 10 мая 1864 года Мураўёў сваім заключэннем аддаў Апалінара, яго сястру і бацьку вайсковаму суду па палявым крымінальним ўлажэнні. Трохі больш за год пратрымалі Апалінара ў астрозе, а затым аддалі «на благонадежное поручительство». У Кушляны вярнуўся памужнелы, загартаваны і з асалодаю ўзяўся за гаспадарку. Ён любіў гаспадарыць, балазе ў Кушлянах на тую пару нікога з братоў не было, і на яго яшчэ юныя плечы лёг асноўны гаспадарчы клопат. Затым па нейкім часе мы бачым Апалінара ў слынных Яшунах, у маёнтку Балінскіх. Пра гэта мы даведваемся з заявы Францішка Багушэвіча за 4 лютага 1886 года ў Віленскі акруговы суд, дзе ён зазначае, што брат яго жыве ў згаданым маёнтку. Паводле слоў кушлянцаў, Апалінар там быў за камісара, даверанай асобай Балінскіх, вёў іхнюю маянтковую гаспадарку.

Францішка Багушэвіча таксама прываблівала Яшунская сядзіба. І найперш як асяродак культуры. Нейкі час тут жыў слынны матэматык, рэктар Віленскага універсітэта Ян Снядэцкі, а таксама знаны гісторык Міхал Балінскі. З Яшунамі звязаў свой лёс у маладыя гады і Славацкі. Тут часта "бываў Адам Міцкевіч, Тамаш Зан і шмат

іншых, дарагіх Францішку людзей. У Яшунах была багатая бібліятэка. Францішак ганарыўся, што менавіта яго брату даверылі кіраваць такім культурным асяродкам, як Яшунскі маёнтак.

Яшуны былі недалёка ад Вільні — усяго дваццаць сем з паловай вёрстаў, пры Віленска-Лідскім тракце, то чаму было Францішку не завітаць у гэты асвечаны кут з яго шыкоўным палацам і паркам, балазе што тут жыў яго брат. І Францішак, пэўна ж, не адзін раз тут быў. А ў 1887 годзе нават даслаў у часопіс «Kraj» нататку пра яшунскі пажар 21 ліпеня, у якім праз засуху згарэла дваццаць валокаў бору. Мабыць, гэты пажар быў для Апалінара як даверанай асобы вялікім перажываннем. Яно перадалося і Францішку. Мусіць, разам бедавалі.

У 1898 годзе Багушэвічы дзяліліся. Апалінар адмовіўся ад зямлі. Францішак меўся за гэта выплаціць брату 2667 рублёў. Памеркаваліся яны палюбоўна. Падчас раздзелу Кушлянаў браты часта сустракаліся. Захавалася даручэнне, напісанае Апалінаравай рукой, у якім Апалінар вельмі ласкава называе Францішка «любым братам».

Праз нсйкі час Апалінар жыве ўжо за Вільняй — у маёнтку Антаноша. Паводле адных звестак, Апалінар нібыта купіў гэты маёнтак, паводле іншых — нібыта даглядаў яго на тых жа ўмовах, што і Яшуны. Разам з тым Апалінарава імя часта фігуруе ў віленскіх адрасных кнігах. То мы бачым, што ён жыве на Наўгародскай вуліцы ў доме Мантвілы (1898), то на Каўказскай, 16 (1908-1909), то на вуліцы Вялікай у гасцініцы «Францыя» (1910-1912), то на Зарэчнай, 3 (1913-1915).

Але памёр ён, як сведчыць выпіс з актаў грамадзянскага стану віленскага Бернардынскага касцёла (запіс № 191), у маёнтку Антаноша. Гэта змушае нас думаць, што там было яго сталае месца жыхарства. А пахавалі Апалінара ўсё ж у Вільні.
На віленскім Бернардынскім могільніку (вуліца Полацкая) на Апалінаравай магіле ацалеў гранітны помнік. Помнік у добрым стане, з ланцуговай агароджай. З надпісу на помніку даведваемся, што памёр Апалінар 19 верасня 1920 года на 75-м годзе, што тут жа пахавана і яго жонка — Мальвіна, якая памерла 18 мая 1930 года, на васьмідзесятым годзе. Магілку нехта даглядае. У 1987 годзе на ёй шыкоўна буялі пасаджаныя па краях кусткі папараці. Але самае галоўнае — на помніку пазначана, што Апалінар — ветэран 1863 года. І яшчэ адна цікавая звестка. У архіве «Нашай Нівы» за 1906-1915 гады (ф. 3, спр. 103, арк. 51) ляжыць картка. У ёй згадваецца маёнтак Антаноша і Апалінарава прозвішча. Пэўна, нашаніўцы хацелі звязацца з Апалінарам, а мо і звязаліся ці мо дасылалі яму беларускую

газету. Ва ўсякім разе ў нашаніўцаў была якаясь спроба наладзіць сувязь з братам нашага слаўнага песняра.

Паводле звестак Зыгмунта Абрамовіча, Багушэвічавага стрыечнага ўнука, у Апалінара былі дзве дачкі — Аліна і Канстанцыя, а таксама сын Севярын. Севярын скончыў Пецярбургскі універсітэт, доўга жыў у Вільні, быў віленскім суддзёй і натарыусам, затым пераехаў у Польшчу. Зыгмунт Абрамовіч даў мне адрас Апалінаравага ўнука Ежы (Юркі) Багушэвіча — Szczecinek, ul. Polna, 3. Я пісаў на гэты адрас, думаў, мо якія памяткі пра Багушэвічаў ацалелі, а я ўпэўнены, што ацалелі, але адказу, на жаль, не атрымаў. Тым не менш не трачу надзеі, што хоць калі звяжуся з Апалінаравымі нашчадкамі і, можа, знайду ў сямейным архіве што-кольвек каштоўнае для жыццяпісу Багушэвічаў.

## ТУНЯ

Яе сапраўднае імя Канстанцыя, Канстанцыя-Марыя. Туняй, ці яшчэ Тусяй, звалі яе толькі блізкія. Для ўсіх жа іншых яна была проста Багушэвічанка. Імя Марыя згадвалі толькі ў дакументах. Уласна ёй было ўсё роўна, як яе звалі: ёй аднолькава былі мілагучныя ўсе тры імёны, якія за ёй замацаваліся. І ўсё ж імя Туня ёй падабалася больш. Гэта, можа, таму, што яно гучала з вуснаў бацькоў і было абагрэта іх цяплом і ласкаю. А можа, таму, што яно было кароткае і зручнае для маўлення.

Расла яна надзвычай назіральнай і кемнай дзяўчынкай, мела да ўсяго цікавасць і сэрца. Кожная былінка, кожны жучок абуджаў у яе сотні пытанняў. Цэлымі днямі толькі і чуваць быў яе звонкі галасок: «А што гэта? А гэта што такое? А для чаго?»

І Багушэвіч не ленаваўся, адказваў на яе пытанні. Разумеў, усё гэта калі-небудзь адгукнецца ў ёй. Была яна ў яго першанькая, ядыначка, і ён душы не меў ад дачкі. Стараўся ўсюды браць яе з сабою, асабліва калі выбіраліся на ўлонне прыроды. Тут яны абое давалі сабе волю: гулялі ў жмуркі, збіралі букеты з кветак, пырскаліся вадою. Ды ці мала якіх забаў можа прыдумаць шчаслівае дзіця ў шчаслівага бацькі!

Вельмі рана Туня выявіла і яшчэ адну ў сабе здатнасць: цікавасць да зыкаў прыроды, музыкі і спеваў. Рабіла яна ўсё гэта мякка, неяк лагодна, далікатна. І Багушэвічу падумалася, а ці не паказаць яе знаўцам музыкі і спеваў. Паказаў... Тыя прызналі Тунін голас вельмі прыдатным для развіцця таленту. У яе адкрылі меццо-сапрана опернага тыпу. І Багушэвіч увесь аддаецца клопатам пра музычнае

выхаванне Туні. Праз Яна Карловіча, свайго варшаўскага прыяцеля, дастае для яе віяланчэль, знаходзіць настаўніка — сляпога віленскага музыку Шахно. Затым вязе яе аж у Дрэздэн.

У Дрэздэне вучылі музыцы Туню муж і жопка Сувестры. Яны таксама нрызналі Тунін голас прыдатным, прарочылі ёй будучыню опернай спявачкі. Усе былі ўпэўненыя, што яе чакае вялікая оперная кар'ера. Акрылёпыя бацькі і Туня пачалі марыць пра Мілан і тэатр «La Scala».

Тунін голас сапраўды мацнеў, пабіраў сілы. Гэта радавала і яе настаўнікаў, і бацькоў. Яна ўжо выступала ў канцэртах. Праўда, пакуль што яшчэ ў школьных. Пра яе выступленні нават пісалі ў газетах, адзначалі «мяккую ўпэўненую ігру», выказвалі меркаванне, што з яе выйдзе з часам сапраўдная артыстка.

Багушэвіч пачуваў сябе найшчаслівейшым чалавекам, калі Туня садзілася за фартэпіяна і пачынала спяваць. Голас яе гучаў аксамітна, шырока і пяшчотна. Ён, нібы цёплыя вясновыя промні, лашчыў сэрца і душу, вёў яго ў якісьці чароўны, вольны свет, дзе не было жыццёвай прозы і мітусні. Было толькі шмат сонца, прасторы, гармоніі, суладдзя і святла.

Туня любіла не толькі класічныя спевы. Яна аднолькава хораша спявала і народныя мелодыі, і гэта цешыла Багушэвіча. У такія хвіліны яго вочы, звычайна сумотныя, свяціліся шчырай радасцю.

Іншы раз Туня спявала песні і на бацькавы словы. Спявала гарэзна, часта мяняла мелодыю, нібы забаўлялася, і абаім было весела.

Багушэвіч далучаў Туню і да сваіх літаратурных клопатаў. У архіўным фондзе Яна Карловіча захаваўся аўтограф верша «Хмаркі», перапісаны Тунінай рукой. Тут жа і верш на польскай мове, прысвечаны сотай гадавіне паўстання Касцюшкі, таксама перапісаны Туняй.

Багушэвіч ускладаў на Туню вялікія надзеі. «Жадаю ёй шчасця не таго бліскатлівага, бразгучага, па-купецку важкага, што золатам і дастаткам завецца, а шчасця ўмець служыць найлепшаму і найшырэйшаму колу грамадства, узбагаціцца духоўна, зразумець прызванне, прызначэнне чалавека і быць гэтага вартым»,— пісаў Багушэвіч у лісце да сваёй найлепшай прыяцелькі пісьменніцы Элаізы Ажэшкі, разважаючы пра лёс і будучыню Туні. У накірунку гэтых сваіх разваг ён і выхоўваў дачку. Праз бацьку яна зналася з многімі вядомымі тагачаснымі людзьмі. Не раз была на кватэры Элаізы Ажэшкі, спявала ёй сваім шырокім, глыбокай танацыі голасам і кожнага разу прагла бачыць яе зноў і зноў. І Багушэвіч не адмаўляў ёй у гэтым. Верыў, што стрэчы з «Каралевай жывога слова» становуча

паўплываюць і на яго дачку. Не хаваў гэтых сваіх думак Багушэвіч і ад самой Ажэшкі. У тым жа лісце за 25 красавіка 1892 года ён пісаў: «А можа, прамень сапраўднага божага духу сышоў бы з тваіх жывых вуснаў, Высакародная пані, на яе дзіцячую галоўку?»

Моцная прыязнь Туні да Ажэшкі вынікае і з наступных радкоў песняра: «...я з болем у сэрцы, а мая Тунька са слязьмі на вачах міналі Гародню».

Туніны слёзы былі зразумелыя. Усяго нейкая сотня метраў аддзяляла іх у тую хвіліну, калі яны праязджалі праз Гародню, ад гасціннага дамка пані Арэшчыхі. А яны не зайшлі, не пабачылі яе, хоць у дарозе толькі гаварылі пра яе.

Аднак шчаслівая хваля Тунінага жыцця была нядоўгая. Да яе падкралася раптоўна нейкая цяжкая на той час хвароба — шкарлятына ці што — і яна страціла голас. От быў голас — і няма, некуды знік, прапаў. Замест голасу адны сіпы, хрыпы — і больш нічога.

Гэта была трагедыя, трагедыя не толькі для самой Туні, але і для ўсёй Багушэвічавай сям'і.

Вярнулася Туня ў Кушляны змучаная, выпусташаная, змарнелая, нібы з яе выкачалі ўсе жыццёвыя сокі.

Блізка прыняў гэтае гора і Багушэвіч. Адзін толькі раз, здаецца, за ўсё жыццё лёс нібы хацеў усміхнуцца яму, шчыра, шырока сквітаць усе ранейшыя яго жыццёвыя пакуты і няўдачы, але і гэтым разам, усміхнуўшыся, нібы падражніўся і апёк яго новым агнём. Аднак гэтае няшчасце не зрабіла іх ныцікамі. Наадварот, дачка і бацька яшчэ больш з'ядналіся, яшчэ больш згуртаваліся, асабліва ў апошнія гады жыцця, калі Багушэвіч захварэў, стаў слабы і бездапаможны. Туня ў гэтыя гады была неадлучная ад бацькі, нідзе не пакідала яго аднаго. Пра гэта і апавяданні кушлянцаў, і тыя нешматлікія фотаздымкі, што ацалелі.

Вось Туня з бацькам на Лысай Гары. Лагодны летні ветрык надзімае-палошча яе лёгкую летнюю вопратку. Туня пачувае сябе молада і шчасліва сярод блізкіх і прыроды. Яе радасны настрой перадаецца і бацьку. Ён уцешна глядзіць на дачку. Ці яшчэ адзін здымак. Уся сям'я знялася сонечным днём ля веранды новага дома ў Кушлянах. Веранда вялікая, доўгая, і кожны з Багушэвічаў выбраў сабе для здымкі тое месца, якое яму хацелася, і толькі адна Туня побач з бацькам, і зноў жа яна асвечана пяшчотаю, нейкай унутранай дабрынёй і ласкай.

Туня, кажуць, знешне вельмі кідала на бацьку. Яна і характар мела бацькаў. Была дужа зычлівая. Бывала, як жыла ў Ашмяне, каго ні

напаткае з Кушлянаў, не прапусціць, пакліча да сябе. Пра Кушляны распытае, гарбатай напоіць, а трэба — і накорміць. Яна добра ведала французскую мову, і хто меў патрэбу, тых навучала гэтай мове. Многія з яе вучняў жывуць і цяпер. Адзін з іх, Восіп Каспяровіч, пра сваю былую настаўніцу згадвае: «Такой добрай душы я не спатыкаў, хаця маю ўжо шэсцьдзесят гадоў». «Туня,— казаў ён,— была для акалічных людзей маткай і бацькам, доктарам і дарадцам, увасабленнем міласці і дабрыні. Любіла ўсіх жывых: і людзей, і звяроў, і ўсю прыроду. Аб кожным створу магла днямі расказваць, якую карысць у цэлай прыродзе кожны найменшы створ мае».

У гэтым прызнанні пахвала і таму, хто навучыў Туню гэтак глыбока і чуйна разумець навакольнае жыццё, глядзець на прыроду як на жывую істоту, як на самога чалавека.

Памерла Туня ў 1937 годзе, на другі ці трэці дзень пасля пахавання мужа, якога моцна любіла. Смерць яго ўзяла блізка да сэрца — і не вытрымала, пайшла за ім, пакінула сіратою адзінага малалетняга, бездапаможна хворага сына, апошняга з роду Багушэвічаў, якога, між іншым, у гонар бацькі назвала Франэкам.

Пахавалі Туню на тым жа могільніку, што і Багушэвіча. Жупранскі могільнік стаў і для яе вечным спачынкам пасля такога няскладнага і цяжкога жыцця.

Да апошніх сваіх дзён як самую дарагую каштоўнасць яна зберагала бацькавы кнігі, рукапісы, лісты ад Ажэшкі.

Да яе часта прыходзілі розныя людзі, каб сёе-тое распытацца пра бацьку. Але Туня зацята маўчала, толькі слёзы нагортваліся на вачах. Мо гэта былі слёзы ад успамінаў пра заўчасную смерць бацькі і сябра адначасова, а мо ад нязздзейсненай мары стаць спявачкаю, а мо з гора ад прыроджанага калецтва сына, а мо з усяго разам. А мо баялася за службовае становішча мужа? Туня ж жыла ў санацыйнай Польшчы, і ўсялякая прыхільнасць, усялякая падтрымка і сцвярджэнне беларускаці не ўхвалялася.

Ва ўсякім разе Туня маўчала... Яна не выйшла, не змагла выйсці, як пра гэта марыў Багушэвіч, на шырокі прастор грамадскага жыцця. Але яна разумела ўсю складанасць жыцця, умела размяжоўваць добрае і злое, адгукацца на павевы новага і радавацца яму. І ў гэтым яна ішла за бацькам, гэтаму вучыла іншых, каму доля і час зычылі лепшы лёс, чым ёй.

## МАЛЯВАЎ ТАМАШ БАГУШЭВІЧ

У 1940 годзе «Літаратура і мастацтва» сярод іншых юбілейных матэрыялаў, прысвечаных Ф. Багушэвічу, змясціла і адну графічную замалёўку. На ёй мы бачым Францішка Багушэвіча на перадсмяротным ложку 15(28) красавіка 1900 года.

Паэт мужна пераносіць фізічны боль... Галава яго на высокай гары падушак... Коўдра збілася з грудзей... Правая схуднелая рука ляжыць на левай, выцягнутай уздоўж цела. Твар павернуты да святла. Вочы прагнуць ухапіць апошнія праявы жыцця. А душа яшчэ тоіць надзею на цуд. Ды цудаў не бывае...

На думку мастакоў, малюнак зроблены даволі прафесійна, пранікнёна, з хваляваннем перададзены апошнія хвілі жыцця пісьменніка.

Хто ж яго аўтар?

Адказ дае подпіс пад самой замалёўкай: «Ф.К. Багушэвіч у дзень смерці. Малюнак рукою сына пісьменніка — Тамаша».

Адразу ўзнікае пытанне: «Няўжо Тамаш меў схільнасць да малявання? Пра яго гэтулькі нагаворана незычлівага. А тут выяўляецца, што ён ледзь не мастак-прафесіянал. Калі гэта так, дык ці не ацалелі якія-небудзь іншыя яго творы?»

Звярнуліся да Багушэвічавай унучкі Станіславы Тамашэўскай, якая жыла ў Гіжыцку (ПНР). Прызнаемся шчыра, не адразу паверылі подпісу ў газеце. Дзесьці ўвесь час грызла сумненне: а ці не адбылася якая абмылка, ці не прыпісалі Тамашу выпадкова рэч якога-небудзь іншага мастака? Вядома, напрыклад, што, паводле апавяданняў Багушэвічавых сучаснікаў — кушлянскіх сялянаў, якія ведалі нашага паэта, у трыццатыя гады таленавіты беларускі графік Язэп Драздовіч зрабіў шэраг арыгінальных замалёвак. Падумалася: «Надрукаваная ў «ЛіМе» ці не адна з іх?»

Нашы сумненні цалкам развеяла Тамашова дачка Станіслава. Вось што яна расказала: «Бацька мой, Тамаш, прыгожа маляваў акварэллю, на палатне алеем і рысаваў цікавыя эцюды, карыкатуры. Бацькавы малюнкі ўпрыгожвалі сцены нашых пакояў. На жаль, ніводная з нас — ні я, ні мае сёстры — нават на памяць не маем яго твораў. Памятаю толькі вялікую рэч, напісаную акварэллю. На ёй быў паказаны падарожны, які моліцца каля нашай каплічкі. Бацька намаляваў яго ўкленчанага. Калі рэч была скончана, яе павесілі ў пакоі, і яна вісела на ўсю сцяну. Наступныя былі салдаты з пікамі на конях. Чалавек, якога забіў пярун; рыбакі, сярэдневяковы склеп; нашы партрэцікі і многія іншыя, як касцёл у Барунах. Усе іх цяжка пералічыць».

Маляванпю, паводле слоў Тамашэўскай, Тамаш вучыўся яшчэ ў Віленскім рэальным вучылішчы, а затым на архітэктурным факультэце ў Пецярбургу, дзе разам з іншымі навукамі вывучаў мастацтва. Як мастака і настаўніка малявання блізка ведаў Тамаша Пятро Бітэль, пісьменнік і краязнаўца з вёскі Вішнева Валожынскага раёна. Паводле яго слоў, Тамаш сапраўды някепска маляваў сам, навучыў гэтаму шмат каго і найперш за ўсё выхаванцаў Барунскай дзяржаўнай настаўніцкай семінарыі, дзе нейкі час працаваў выкладчыкам малявання і працы.

Пятро Бітэль з удзячнасцю згадвае, што Багушэвічаў сын адзін з першых навучыў іх бачыць у прадметах тое, чаго звычайна людзі не заўважаюць. «Малявалі мы пры ім выключна з натуры,— удакладняе далей сваю думку Пятро Бітэль.— З яго дапамогай мы зразумелі законы перспектывы і навучыліся карыстацца акварэльнымі фарбамі».

А вось жывы абразок з Тамашовай практыкі. Аднаго разу вучні атрымалі ад Тамаша заданне намаляваць збан. Пятро Бітэль, тады яшчэ вучань падрыхтоўчых класаў, разам з іншымі ўзяўся шчыраваць над малюнкам. Але вось ён убачыў, як іх настаўнік малявання стомлена сеў ля стала і пра нешта глыбока задумаўся. Пятрок хуценька адсунуў убок аркуш паперы з накідам збана, гэтак жа торапка дастаў з парты агульны сшытак і шпарка пачаў на ніжняй унутранай вокладцы гэтага сшытка рабіць накіды свайго настаўніка. Калі эскіз быў амаль гатовы, Петрукоў сусед выхапіў сшытак з-пад рук, хіхікнуў пры гэтым і пусціў яго па класе. Вядомая рэч, у класе ўзняўся шум. Настаўнік падняўся, падышоў да адной парты і зразумеў, што здарылася. У класе запанавала мёртвая цішыня. Тамаш разглядаў малюнак. Здавалася, скандалу не мінуць. Малюнак быў шаржыраваны. Тамаш спакойна спытаўся, чыя гэта праца. Петруку Бітэлю давялося прызнацца. Тамаш падышоў да Бітэлевай парты, сеў побач з ім і сказаў: «Я так і не ведаў! Але чаго ж ты так напалохаўся?» Затым дастаў аловак і павёў ім па малюнку: «Вось тут, глядзі, ты трохі змахляваў»,— паказаў ён на падбародак, падправіў яго і шчыра пахваліў: «А так характэрнае схоплена. Малайчына!»

«Гэты сшытак з профілем Тамаша Багушэвіча,— дадае Пятро Бітэль,— захоўваўся ў мяне шмат гадоў, загінуў у вайну...»

Тамаш Багушэвіч, як высветлілася з гутаркі з Пятром Бітэлем, да ўсяго яшчэ меў і паэтычныя, як і яго бацька, здольнасці, пісаў вершы, праўда, па-польску. Гэтыя звесткі пацвярджае і Тамашова дачка, Станіслава. «Ацічак — так мы звалі свайго бацьку — не толькі прыгожа маляваў, але і добра граў на скрыпцы, пісаў вершы,—

згадвае яна.— Мусіць, ад бацькі атрымаў схільнасць да паэзіі. Пісаў шмат, але запомніўся толькі адзін яго верш і то толькі таму, што ён быў упісаны ў нашы дзіцячыя альбомчыкі».

Станіслава Тамашэўская ў роздуме чытае з памяці невялікі, просценькі, але шчыры Тамашоў вершык — развагу пра матылькоў і кветкі, пра іх існасць на белым свеце.

Не раз бачыў Тамаша Багушэвіча з папераю, фарбамі, эцюднікамі і яго пляменнік Янка Тарчэўскі, сын роднай дачкі паэтавай сястры Ганны. «Тамаш,— згадвае ён,— заўсёды насіў пры сабе паперу і аловак, маляваў на картках, на лістках, аркушах паперы, маляваў кветы, відокі, ляскі, паасобныя дрэвы — усё, што прываблівала яго вока».

Паводле слоў Станіславы Тамашэўскай, яе бацька трымаўся і пэўнага мастацкага асяроддзя. Перад першай сусветнай вайной ён быў у добрым знаёмстве з вядомым мастаком Фердынандам Рушчыцам. Знаёмства гэтае снавалася на агульнасці інтарэсаў — мастацкіх, вядома. Паводле слоў той жа Тамашэўскай, Багушэвічаў сын у віленскі перыяд жыцця быў у Фердынанда Рушчыца за асістэнта. Цікава, што з гэтым мастаком у апошнія гады свайго жыцця сябраваў і сам Багушэвіч. Гэты факт, а таксама некаторыя іншыя высвечваюць вытокі мастацкага густу Багушэвічавых дзяцей, у тым ліку яго сына Тамаша.

Захапленне жывапісам звяло пазней Багушэвічавага сына з унучкай Уладзіслава Сыракомлі Людвікай Кандратовіч, якая таксама была аматарка пэндзля. Гэтае знаёмства хутка перарасло ў каханне, і Сыракомлева ўнучка ледзь не стала жонкаю Тамаша.

Але ж які лёс Тамашовых малюнкаў?

«Да 1946 года,— згадвае Станіслава Тамашэўская,— усё гэта знаходзілася ў Кушлянах. Але праўдападобна, што ўсё гэта там жа і згінула ў тыя гады».

...Лысаватага, са значнай лысінай між пасівелых валасоў, з густымі сівымі вусамі і ўпартым вокам запомніў аблічча свайго настаўніка малявання Пятро Бітэль. Такім ён і намаляваў яго нядаўна, намаляваў па нашай просьбе. Маляваў з памяці. У каментарыі да малюнка Пятро Бітэль напісаў: «Калі ён зроблены не зусім па-мастацку, то за падабенства ручаюся. Ва ўсякім разе за падабенства да таго майго юнацкага малюнка, аўтарызаванага настаўнікам».

Так, гэты яго малюнак — адначасна і памяць пра Багушэвічавага сына як настаўніка малявання, і яскравае сведчанне: яго навука, яго жыццёвы і мастакоўскі вопыт не прапалі дарэмна, адгукнуліся ў сэрцах тых, з кім ён змог шчыра падзяліцца практыкай свайго творчага жыцця.

# ГАЛАЎНІ

У 1865 годзе Францішак Багушэвіч у лісце з Нежына пісаў да маці Яна Карловіча ў Падзітву, што поблізу Доцішак (цяпер гэта Воранаўскі раён):

«Толькі нядаўна я знайшоў рэпетытарства на вельмі цяжкіх для мяне ўмовах, але для Нежына за вельмі добрую плату — восем рублёў у месяц (плоцяць тут студэнтам ліцэя і па тры рублі), гэтых грошай хапае на сталаванне і кватэру, і я задаволены, што не буду цяжарам для людзей, якім і без мяне хапае клопату»[11].

З гэтай вытрымкі нас цікавяць самыя апошнія словы: «...і я задаволены, што не буду цяжарам для людзей...» Пра каго гэта? Хто на Украіне, у Нежыне ці поблізу Нежына мог дапамагаць Багушэвічу? Не на ўзвей вецер жа ён туды паехаў. Раюся з яго сваякамі, унукамі. Дзевяностагадовы Зыгмунт Абрамовіч згадвае, што вельмі доўга жыў на Украіне яго дзед Аляксандр Галаўня. А Галаўні ж — Францішкавы сваякі. То ці не на іх арыентаваўся юнак, калі перад ім пасля 1863 года паўстала пытанне: што рабіць, куды падацца, дзе і да каго прыбіцца ў гэтым вялікім, непрытульным свеце?

Зыгмунт Абрамовіч памятае, што Аляксандр Галаўня жыў на Украіне з маладых гадоў: спачатку там вучыўся ў Кіеўскім універсітэце, затым працаваў лекарам у Сосніцкім павеце. Вусныя звесткі Зыгмунта Абрамовіча павялі нас у Чарнігаўскі абласны архіў. На наша шчасце, там захавалася справа аб назначэнні пенсіі за выслугу гадоў сосніцкаму павятоваму доктару Галаўню Аляксандру з паслужным лістом за 1854-1882 гады. З гэтага ліста мы даведваемся поўнае імя Аляксандра Галаўні — Галаўня Аляксандр Феліксавіч. Гэтае ўдакладненне для нас вельмі важнае. Згадваецца, што ў Багушэвічавай метрыцы фігуруе менавіта імя Фелікса Галаўні. Там так і сказана. «Кумамі былі высакародныя Фелікс Галаўня... Тэкля Галаўня, Феліксава жонка». Пэўна, што гэта Францішкавы дзед і бабка, а Аляксандр Феліксавіч іхні сын. (А вядома ж, з гэтай сям'і і Багушэвічава маці — Канстанцыя Галаўня.) Такім парадкам, Галаўня Аляксандр Феліксавіч быў даволі блізкі чалавек Францішку Багушэвічу.

З паслужнога ліста, ці афіцыйна — «Фармулярнага спісу аб службе сосніцкага павятовага доктара калежскага саветніка Аляксандра Феліксавіча Галаўні за 1883 год»[12] — відаць, што напачатку

[11] Багушэвіч Ф. Творы. Мн., 1967. С. 166.
[12] Дзяржархіў Чарнігаўскай вобл. Ф. 127, воп. 6, спр. 349, арк. 4—12.

Багушэвічаў дзядзька служыў пасля заканчэння ў 1854 годзе імператарскага універсітэта святога Уладзіміра малодшым карабельным лекарам у 24-м флоцкім экіпажы, удзельнічаў у руска-турэцкай вайне, за абарону 28 і 29 чэрвеня 1855 года крэпасці Свеаборг на караблі «Іцекіна» быў уганараваны бронзавым медалём на Андрэеўскай стужцы. І толькі з верасня 1856 года мы бачым яго на Украіне, на пасадзе малодшага акруговага доктара Канатопскай і Сосніцкай акругі Чарнігаўскай губерні. Францішак Багушэвіч прыехаў на Украіну, як вядома, у маі 1865 года. Дзе ж у гэтую пару працаваў Аляксандр Галаўня? З таго ж фармулярнага спісу відаць, што якраз на гэты час Аляксандр Галаўня працаваў старшым лекарам менавіта Нежынскай і Барзнянскай акругі Чарнігаўскай губерні. Зазначым, працаваў ён у гэтай мясцовасці з кастрычніка 1859 года да жніўня 1867 года.

У Аляксандра Галаўні была даволі вялікая сям'я: тры сыны — Станіслаў, Уладзіслаў, Канстанцін,— і дзве дачкі — Аляксандра (яна стане маці Зыгмунта Абрамовіча) і Ядвіна. На час прыезду Ф. Багушэвіча на Украіну ўсе дзеці Галаўнёў былі яшчэ малыя. Старэйшаму, Станіславу, ішоў другі гадок, нарадзіўся ён 9 студзеня 1864 года. Можна сказаць, пры Францішку нарадзілася Аляксандра. Дата яе нараджэиня 31 мая 1865 года. А затым пайшлі і іншыя дзеці. У 1867 з'явіўся на свет Канстанцін, у 1870 годзе — Уладзіслаў, у 1873 — Ядвіна. Гэты даволі доўгі пералік — найяскравейшае сведчанне Францішкавых слоў, што маладой сям'і павятовага лекара Аляксандра Галаўні сапраўды хапала клопату. Але і пасля таго, як Францішак перайшоў на свой хлеб, крыху ўладкаваў сваё нежынскае жыццё — знайшоў рэпетытарства, ён часта бываў у сям'і матчынага брата. У гэтым была жыццёвая патрэба. Абодва ж яны былі з таго краю, дзе Ашмяны, Вільня, Кушляны, Свіраны...

Сяброўства Францішка Багушэвіча з Галаўнямі доўжылася праз усё жыццё. Многія дзеці Аляксандра Галаўні нават прайшлі Багушэвічавымі сцежкамі. Станіслаў, лясны інжынер, напрыклад, доўгую чараду гадоў пражыў у Валагодскай губерні, у Тоцьме; Уладзіслаў, паводле слоў Зыгмунта Абрамовіча, стаў юрыстам, працаваў судовым следчым, таварышам пракурора, затым пракурорам у Курску. Паводле слоў таго ж Зыгмунта Абрамовіча, Уладзіслаў неаднойчы сустракаўся з Ф. Багушэвічам. Мусіць, пад гэтым трэба разумець: сябраваў з Багушэвічам. У сямейным альбоме Ф. Багушэвіча ёсць фотаздымкі амаль усіх Галаўнёў. Гэта яшчэ адно сведчанне іх крэўнасці з Багушэвічамі.

Пра жонку Аляксандра Галаўні Казіміру (яна паходзіла з роду Багеньскіх) Зыгмунт Абрамовіч пісаў: «Заўсёды хваліла Мацея Бурачка».

З атрыманнем пенсіі Аляксандр Галаўня вярнуўся ў Вільню, купіў на віленскіх Сніпішках на Салдацкім завулку дамок і там жыў да скону сваіх дзён. Памёр у 1906 годзе. Пахаваны на Росах.

У 1981 годзе я знайшоў сямейную пахавальню Галаўнёў. Яна недалёка, амаль побач з так званай Літаратурнай горкай, пры той жа сцяжынцы і па той жа бок, дзе і Сыракомля. На высокім, з чорнага граніту помніку з крыжам чытаем: «Аляксандр Галаўня, жыў 81 год, памёр 6 красавіка 1906 году». Крыху ніжэй імя яго жонкі — Казіміры Галаўні. Пражыла яна 65 гадоў. Памерла 14 лютага 1907 года. Пад прозвішчамі родавыя гербы Галаўнёў і Багеньскіх. Збоку яшчэ адзін надпіс. Ён сведчыць, што тут пахаваны іх сын Уладзіслаў, які памёр 5 студзеня 1937 года, пражыў шэсцьдзесят шэсць гадоў. Пра іншых Галаўнёў звестак пакуль не маем. Усе яны былі шчырыя прыяцелі Францішка Багушэвіча, яго сям'і, часта бывалі ў іх. Пра гэта згадваюць многія, хто і сёння яшчэ памятае Галаўнёў — у Кушлянах, Ашмянах, Жупранах. «Галаўні часта прыязджалі да Туні»,— кажа Марыя Башлыкевіч з Ашмянаў, якая шмат гадоў жыла ў Багушэвічавай дачкі Туні. З Алесем Галаўнём сябравала Багушэвічава ўнучка Станіслава Тамашэўская. Часта бачыў Галаўнёў у Туні і стрыечны Багушэвічаў унук Янка Тарчэўскі.

## УНУК МАЦЕЯ БУРАЧКА

У лістападзе 1909 года «Наша Ніва» святкавала свае трэція ўгодкі. Рэдакцыя атрымала шмат віншаванняў. Разам з іншымі «Нашу Ніву» павіншавала і гродзенская моладзь. Віншаванне гэтае падпісала васьмёра юнакоў. Сярод іх — і семнаццацігадовы Зыгмунт Абрамовіч, сын вайсковага лекара.

Зыгмунта Абрамовіча мы найбольш ведаем як акцёра славутай трупы Ігната Буйніцкага. Але з нашаніўскага віншавання вынікае, што Антон Забель — такі псеўданім Зыгмунта Абрамовіча — да ўсяго яшчэ і ўнук Францішка Багушэвіча. У «Нашай Ніве» (№ 46 за 12 (25) лістапада 1909 года) пра гэта так і сказана: «З. Абрамовіч, унук Мацея Бурачка». Гэта надзвычай цікавае ўдакладненне. Яно яшчэ ў нашым багушэвічазнаўстве як след не раскрыта, не асветлена. То якое ж дачыненне меў Зыгмунт Абрамовіч да сям'і Багушэвічаў? Вось што ён пра гэта кажа сам: «Крэўнасць мая з Багушэвічамі — па

матчынай лініі... Я памятаю, як мая мама дый усе мы называлі Францішка «стрый» (стрый — дзядзька)».

Першы раз Багушэвічава прозвішча з словам «стрый» З. Абрамовіч пачуў хлапчуком у Маскве, калі яго бацька атрымаў з Вільні невялікую кніжачку не то ў чырвонай, не то ў жоўтай папяровай вокладцы. Была гэта, паводле слоў З. Абрамовіча, «Дудка Беларуская» і прыслаў яе Зыгмунтаваму бацьку яго цесць, стары віленскі лекар Галаўня.

Сваяцтва З. Абрамовіча з Багушэвічамі прызнавала і паэтава ўнучка Станіслава Тамашэўская. У адным з лістоў яна пісала: «Раю вам звярнуцца да нашага далёкага сваяка Зыгмунта Абрамовіча, які жыве ў Злотаве. Ён павінен памятаць пра Кушляны больш, бо быў у тую пару ўжо ладным хлапчуком».

Зыгмунт Абрамовіч нарадзіўся ў 1892 годзе. Яму было восем гадкоў, калі памёр Мацей Бурачок. Невялікі гэта век, але хлапчук сёе-тое запомніў. Вось колькі абразкоў з яго дзіцячай памяці.

...Лета 1898-га ці, магчыма, 1899 года. Малы Зыгмусь, дзіця вялікага горада — ён нарадзіўся і жыў у Маскве,— упершыню трапляе ў сапраўдную вёску. Ад бацькі даведваецца, што завецца яна Кушляны. Першы, хто іх тут напаткаў, быў сам гаспадар. Ён хадзіў па верандзе і з некім гутарыў. Запомнілася і кушлянская брама пры надта прыгожай крыж-капліцы. Праз гэтую браму пашчасціла прайсці і Зыгмусю.

Усё здзіўляла Зыгмуся ў вёсцы, але найбольш сам гаспадар. «Я прыкмеціў,— згадвае Зыгмунт,— што ён гаварыў з маім бацькам не па-польску і не па-руску, а неяк не зусім зразумелай мовай... Як я цяпер успамінаю — для людзей няведаючых... дзіўна выглядала гутарка апранутага ў доктарскі ваенны мундзір чалавека з вядомым віленскім прысяжным павераным, гутарка «па-просту»[13].

Абрамовічу тады было і самому няўцям, што гаспадар Кушлянаў — славуты бсларускі пясняр — чытаў яго бацьку беларускія творы. «Я быў толькі бязвольны сведка часткі творчага працэсу»[14],— зазначае Абрамовіч. І толькі значна пазней, ужо юнаком, ён даведаецца, хто быў у сапраўднасці гаспадар Кушлянаў.

Даведаецца і ўзганарыцца. Але пра гэта пасля. Зараз жа згадаем яшчэ адзін момант, яшчэ адзін абразок з Абрамовічавай памяці пра Францішка Багушэвіча.

---

[13] Ніва, 1957, № 2.
[14] Тамсама.

...У Кушлянах вазілі сена. Разам з усімі на сенажаці рупіўся і Францішак Багушэвіч. Калі наклалі чародны воз, паэт падхапіў на рукі свайго малога госця з Масквы і пасадзіў яго на самы верх. «Вось на гэтым паедзеш дадому»,— сказаў ён. «Я надта ўсцешыўся,— згадвае Зыгмунт Абрамовіч,— учапіўся за шнур, і мяне павезлі. Усё б было ў парадку, калі б кушлянскі «грунт» быў гладкі... І вось у пэўным моманце я лячу з гэтага воза і падаю на велізарны камень. Праз усё жыццё я не бачыў такога ліку камянёў у адным месцы, як там. Трэба было бачыць, як злякаўся Багушэвіч, як схапіў мяне на рукі і сам панёс дадому.

У памяці засталіся — воблік песняра, яго глыбокі голас і добрыя вочы...»[15].

Вось, бадай, і ўсе Зыгмунтавы ўражанні з тае паездкі. Але і іх было дастаткова, каб пры пэўнай нагодзе яны ажылі і сталі накіроўнымі ў яго жыцці.

...1909 год. У Гародні ўзнікае нелегальны гурток беларускай моладзі. Якраз гэтаю парою Зыгмунт Абрамовіч трапляе ў горад над Нёманам — сюды з Масквы на адзін год накіроўваюць яго бацьку. Дасціпны і вельмі здольны юнак хутка дачуваецца пра гэты гурток і становіцца яго сябрам. Усё яму тут было даспадобы: і гаворка на беларускай мове, і па-юнацку шчырыя прамовы пра асвету роднага народа, пра пашырэнне беларускіх кніжак, пра згуртаванне беларускай моладзі і шмат яшчэ што іншае, чаго ён дагэтуль не чуў у Маскве. Усё гэта было новае для нядаўняга выхаванца маскоўскай гімназіі.

Вось тут у ім і ажывае яго дзіцячая паездка ў Кушляны. Ён раптам адчуў сваю моцную повязь з песняром. І не толькі крэўна, але і духоўна. Гэтаму спрыяла і тое, што гурткоўцы часта гаварылі пра Ф. Багушэвіча, чыталі яго творы. Яны нават бібліятэку для гуртка пачалі засноўваць з яго кніг. Менавіта ў гэтую пару Зыгмунт Абрамовіч, свядома і з гонарам, засведчыў праз друк, што ён унук Мацея Бурачка. З гэтым усведамленнем ён пройдзе праз усё сваё жыццё. Яно прывядзе ў славутую трупу Ігната Буйніцкага. Тут ён праз песні, танцы, дэкламацыі будзе сцвярджаць найвялікшы запавет песняра, каб шанавалі ўсё роднае. З Багушэвічавых твораў ён любіў «Маю дудку», «Не цурайся», «Хрэсьбіны Мацюка». У тыя ж гады Зыгмунт Абрамовіч бярэцца і за літаратурную працу, перакладае з рускай мовы творы Тургенева. Некалькі яго перакладаў, сярод іх і верш у прозе «Парог», друкуе ў 1910 годзе «Наша Ніва». Гэтыя ўсе юнацкія

---

[15] Тамсама.

парыванні Абрамовіча, безумоўна, вынік і агульнага абуджэння культурнага жыцця на Беларусі ў тую пару. Але не будзе абмылкаю, калі скажам, што яны асвечаны і Багушэвічавым імем, іхняй крэўнасцю. Пра сваяцтва з Багушэвічам, пра дзяціную сустрэчу з ім у Кушлянах Зыгмунт Абрамовіч згадваў неаднойчы. Аднаго разу ён расказаў пра гэта і Цішку Гартнаму. Той выслухаў яго і сказаў: «Вєдаеце што, гэткія рэчы трэба глыбока хаваць у памяці, бо наогул мы мала што ведаем аб нашых дзеячах. Прыйдзе час, калі будзем збіраць самыя няважныя факты»[16].

Зыгмунт Абрамовіч паслухаўся парады Гартнага і ў 1957 годзе надрукаваў свае ўспаміны пра Кушляны і сустрэчу з песняром у беластоцкім тыднёвіку «Ніва». Успаміны тыя называліся «Кушлянскі жнівень». З іх мы даведваемся, што Зыгмунту Абрамовічу давялося напаткаць Ф. Багушэвіча яшчэ адзін раз, у Вільні, у яго дзядоў, але было гэта, праўда, паводле яго слоў, кароткае спатканне: «Калі я варочаўся дадому,— пясняр ужо развітаўся». Зыгмунт Абрамовіч згадвае таксама, што Францішак Багушэвіч пісаў да іх у Маскву, усё пытаўся, ці не было якіх дрэнных вынікаў з той яго, Зыгмунтавай, паездкі на сене. Іншыя ж моманты сцерліся з памяці. Праўда, Зыгмунту Абрамовічу іншы раз здаецца, што Францішак Багушэвіч прыязджаў да іх у Маскву. Ён сябраваў з яго бацькам, прысылаў свае кніжкі. Жылі Абрамовічы ў Маскве насупраць дома Льва Талстога. У іх была вялікая бібліятэка. Было шмат кніжак на беларускай мове і пра Беларусь. Бацька чытаў іх сам і схіляў да іх сына. Ён заўсёды падкрэсліваў, што яны — беларусы з Слуцка. Час шмат чаго сцёр з памяці Багушэвічавага ўнука. Але галоўнага ён не забыўся. Не забыўся славутага запавету Мацея Бурачка. Праз усё жыццё не расставаўся з родным словам. У дваццатыя гады нават выкладаў беларускую мову і літаратуру на настаўніцкіх курсах у Вільні.

Як самую дарагую спадчыну шанаваў ён роднае слова. З пасляваеннага часу Зыгмунт Абрамовіч жыў у Польшчы. Мацею Бурачку было б не сорамна за такога ўнука. Родным словам ён валодаў дасканала, захаваў усю яго чысціню і свежасць. У маладыя гады шмат зрабіў дзеля культуры Беларусі, дзеля яе мастацтва. Ён добра ведаў песняровых дзяцей — Туню (Канстанцыю) і Тамаша. З Туняй яны нават разам бавілі гасцей, чыталі вершы на розных сямейных вечарынках.

Зыгмунт Абрамовіч склаў і генеалогію Багушэвічавай сям'і. У нататцы да яе, у сваіх заўвагах і каментарыях ён расказваў усё, што

---

[16] Ніва, 1957, № 2.

ведаў пра кожнага. Але найбольш, натуральна, падрабязныя яго расказы пра Тамаша, Туню і Багушэвічавага ўнука Франца, Тунінага сына, апошняга з іх роду.

У адным з апошніх лістоў, паведамляючы звесткі пра Багушэвічавых сваякоў, З. Абрамовіч пісаў: «Я рады, калі маю магчымасць нават маленькай жменькай памагчы вам. Лічу, што гэта таксама частка працы для маёй другой Радзімы».

## КЛУЙША

На другім баку славутых кушлянскіх Ваўкелаў, на пагорку, за хмызамі і крыніцамі, за Багушэвічавым часам жыў вельмі кемны і паважаны ў Кушлянах чалавек Сымон Клуйша. У Кушляны, а больш дакладна ў Трыколі, ён прыбіўся з недалёкага фальварка Пакошава. Але яго адразу ўсе прыкмецілі, прызналі як свайго, прызналі за вельмі патрэбнага чалавека. Без яго ў Кушлянах нічога не рабілася. Ці то хаўтуры, ці захварэў хто, ці вяселле якое — усе ідуць да яго, усе ідуць па яго, усе завуць яго, усе просяць: «Пане Клуйша, памажыце... Пане Клуйша, пакіруйце... Пане Клуйша, парайце, палячыце...» І ён да ўсіх ішоў, усюды быў жаданы. У такія дні на падворках тых, хто клікаў, толькі і быў чуваць яго зычны голас: «Каліце гэтага парсючка... Рэжце гэтага бычка. Ты, Уладук, рабі тое, а ты, Юзук, гэта...» І ўсе з ім лічыліся. Рабіў усё акуратна і сам быў вельмі акуратны, зграбны, такі кругленькі, заўсёды паголены. Вельмі файны гаспадар і ўдалы чалавек. Ветлівы. Да кожнага казаў «пане ласкавы», то яго за гэтыя словы так і празвалі Пане Ласкавы. Усё, за што ён браўся, умеў рабіць як след. Абробіць так, што аж залюбуешся, загледзішся. Не любіў нядбаліц, лайдакоў, няўмекаў. Расказваюць пра Клуйшу такі выпадак. Нібыта аднаго разу Багушэвічавы парабкі садзілі бульбу. Зямлю тады яшчэ абраблялі сохамі, а аралі валамі. Дык вось, нешта не надта ладзілася ў парабкоў тое ворыва. Не ідуць сохі ў зямлю, скачуць па камянях, пішчаць, шкрабуць. Мэнчацца аратыя, мэнчацца валы. Доўга глядзеў на гэтыя пакуты Клуйша, усё чакаў, што парабкі спыняцца, дадудь якой рады сваім сохам. Але тыя і не думаюць што-кольвек рабіць. Тады Клуйша папраганяў парабкоў з поля, а іх сохі паламаў аб крушні, а сам пайшоў дахаты. Аратыя пабеглі, паскардзіліся Багушэвічу. Багушэвіч вельмі здзівіўся гэтаму Клуйшаваму ўчынку, але не абурыўся. Вырашыў высветліць, што ж такое сталася з Клуйшам. Не будзе ж такі чалавек без дай прычыны сохі чужыя нішчыць. Перабраўся па кладках праз Ваўкелы, а там і Клуйша па двары ходзіць. Багушэвіч да яго:

— Што гэта такое, Сымоне, ты павырабляў? Як гэта зразумець?

А той адказвае:

— Не мог я, пане Багушэвіч, глядзець, як тваё аратыя быдла мучаць. Сохі ж іхнія нікуды не вартыя — разладжаныя, а яны, лайдакі, жывамоццю ў зямлю пхнуць. Дзе ж такая саха араць будзе... Саха ж, пане ласкавы, яна ж як скрыпка: не наладзіш — не будзе толку... Наладжаная ж саха арэ, як песню спявае, ідзе лёгка, толькі чуеш, як ад яе каменьчыкі адскокваюць ды пазваньваюць: ля-ля, ля-

ля... І ралля харошая... Так што, пане ласкавы, хай вашыя аратыя бяруць мае сохі і садзяць сабе бульбу далей.

Клуйша, зразумела, не адзін раз па-суседску сустракаўся і гутарыў з Багушэвічам, ведаў яго вершы. Пра свае гутаркі і сустрэчы з паэтам ён расказваў сваім дзецям. А тыя расказалі нам. Вось і гэтую гісторыю з сохамі мы пачулі ад яго сына Уладзіслава, які нарадзіўся ў 1899 годзе.

## СТАНІСЛАЎ АЛЬХІМОВІЧ

У Кушлянах ён з'явіўся нечакана, а для некаторых і неспадзявана. Асабліва неспадзяваны ён быў для Багушэвічавых суседзяў, старых Маркоўскіх. І не тое, што неспадзяваны, а нават і нежаданы. Неяк неўпрыкмет ёы падбіўся да іхняй дачкі Ядвігі. Маркоўскія жылі заможна, лічылі сябе шляхцюкамі, багацеямі, а тут нейкі шавец смургонскі, балаболка, захацеў убіцца ў іхнюю сям'ю. Старыя Маркоўскія паднялі вэрхал, гвалт, на дачку накрычалі, насварыліся: «На каго паквапілася? На галоту гэтага, на абдзіранца. Ні за што!» Маўляў, апрача ўсяго, не забывайся, што ён шавец, а шавец і дудар, як вядома, невялікі ў хаце гаспадар. Але Стась Альхімовіч не надта разгубіўся. Забраў сваю Ядвігу-шляхцянку ў Смаргонь, у свой катушок, і ладзіў з ёй там свой рай.

Быў ён дзяцюк вельмі жвавай, задзірыстай натуры, невысокі, але надзвычай шустры, рухавы, спрытны. Жартаўнік і штукар, спагадны, а нават і ласкавы, лагодны. Умеў падпускаць лёстачкі. Да дзяцей інакш і не звяртаўся, як «рыбачка», «рыбка». Гэтыя звароты не выйшлі з яго мовы і з гадамі. Наадварот, калі ён пасталеў, «рыбачкай» пачаў называць усіх: і сваіх равеснікаў, і дарослых. Кушлянцы з гэтай нагоды і самога яго празвалі Рыбачка. За вочы толькі казалі: «А што Рыбачка пра тэта думае? А што Рыбачка на гэта скажа? Ну Рыбачка і штуку выкінуў!»

Была ў Альхімовіча тальяначка. Няма сказаць, каб ён вельмі ўжо добра граў. От як лучынай па паркане. І было ў яго тры мелодыі. Першая — на матыў «у конты мухі, у конты мухі». Другая — «і пад нары, і пад нары». І трэцяя — «а тая муха, катора глуха, нех не слуха, катора слепа, нех уцека».

І ўсё ж, бывала, як выйдзе надвечар пад яблыні, зайграе, дык усё кушлянскае наваколле поўніцца тады зыкамі яго найгрышаў. Збіралася на яго музыку моладзь, ладзіла пад таполямі ды клёнамі ля двара свае вясёлыя вечарыны, бавілася пад музыку аж да самае раніцы. Дзяўчаты бегалі за ім цугам. Умеў ён з імі абыходзіцца. Але

ўпадабаў толькі адну, Ядвігу Маркоўшчынку, прырос да яе сэрцам і душою і нікога іншага, апрача яе, не хацеў, не зводзіў з яе сваіх блакітных, як неба, вачэй. Што было рабіць ганарлівым Маркоўскім? Крыху памуляліся, памуляліся, шкода стала дачку. Неяк змірыліся з гэтым, на іх думку, няроўным шлюбам, скарыліся і дазволілі Альхімовічу пераехаць у Кушляны, пасяліцца ў іхнім доме. Дом Маркоўскіх быў вялікі, на трынаццаць вокнаў, вабны, меў шмат пакояў, з круглым салонам, з размаляванай столлю. Быў гэта цэлы драўляны палац і стаяў ён побач з паэтавай сядзібай. Раздзяляла іх толькі нешырокая, уся з падценіц, клянова-ліпавая абсада, якая вузкай алеяй спакваля спускалася з пагорка да поплаву і сажалкі.

Так Альхімовіч стаў Багушэвічавым суседам. І не толькі суседам. Крыху пазней сястру Ядвігі Маркоўскай возьме за жонку Багушэвічаў сын. Так што Альхімовіч стаў яшчэ і Багушэвічавым сваяком. Праўда, сваяцтва было не вельмі вялікае, але ўсё ж сваяцтва. Хай сабе і праз кумаўство!

Быў ён у Багушэвічаву пару яшчэ зусім дзяцюк. Але з Багушэвічам сышоўся хутка. Самыя розныя жыццёвыя клопаты зблізілі іх. Яны ведалі адзін пра аднаго ўсё ці амаль усё. Паміж іх дварамі, апрача зялёных абсадаў, не было ніякіх агароджаў, і жыццё кожнай сям'і было заўсёды навідавоку. Альхімовіч амаль кожную раніцу бачыўся з паэтам. Звычайна давалі адзін аднаму па-суседску «дабрыдзень», перакідваліся тараю слоў пра надвор'е і яшчэ пра тое-сёе, і кожны займаўся сваім. Багушэвіч рупіўся ў садзе ці на гародзе. Любіў ён гэты занятак. Аграном не ведаў таго, што ведаў Багушэвіч. Уставаў вельмі рана. Альхімовіч іншы раз падыходзіў да яго і таксама дапамагаў. За працаю ў іх пачыналася доўгая і цікавая гаворка. Аднаго разу Багушэвіч прачытаў Стасю колькі сваіх вершаў. Стась быў моцна ўражаны. Ніколі яму дагэтуль не даводзілася чуць такіх праўдзівых вершыкаў пра жыццё простага чалавека ды яшчэ на той мове і так гладка, стройна, на якой гаворыць увесь акалічны люд. Альхімовіч спрабаваў даведацца ў Багушэвіча, хто гэтак праўдзіва піша, але той адказаў агульна і неакрэслена: от амаль такі самы, як і ты, чалавек.

У 1896 годзе Альхімовіча забіраюць у войска. Малады, няўрымсны, ён аднойчы не вытрымаў і прачытаў сваім саслужыўцам у казарме з памяці колькі Багушэвічавых вершаў. Вершы тыя ўсім спадабаліся. Некаторыя пачалі пытацца, хто іх і дзе склаў, але Альхімовіч адказаў гэтак жа няпэўна і загадкава, як і творца вершаў: от чуў, упадабаў, запомніў, вам расказаў. І ўсё ж знайшоўся юда, начальству

паведаміў: рэкрут Альхімовіч расказвае забароненыя байкі, і Стася за чытанне крамолы пасадзілі ў халодную.

Асабліва Альхімовіч зблізіўся з Багушэвічам пасля таго, як паэт пераехаў з Вільні на сталае жыццё ў Кушляны. З той пары яны бачыліся амаль што дня.

Неаднойчы Альхімовіч падвозіў Багушэвіча на станцыю, у дарозе яны гутарылі. Гутаркі былі доўгія-доўгія: пра жыццё-быццё, якое яно павінна быць і што, на іх думку, трэба зрабіць, каб жыццё гэтае хоць крыху перайначыць. Слухаў Альхімовіч Багушэвічавы развагі-думкі і не даваў веры. Развагі тыя здаваліся Альхімовічу казкамі ці салодкім сном. Не раз расказваў Альхімовіч пра тое, як Багушэвіч прысылаў яму грошы, калі ён служыў у Гародні.

Многія з яго апавяданняў нашы літаратуразнаўцы запісалі, і яны даюць нам пэўныя ўяўленні як пра Багушэвіча, яго сям'ю, гэтак і пра самаго апавядальніка. Гутарылі з ім Віталь Вольскі, Яфім Садоўскі, Алесь Махнач. Сустракаўся з ім і гісторык Мікола Ермаловіч. Мікола Іванавіч згадвае, што Альхімовіч называў Багушэвіча ўвесь час Пранцісь.

Альхімовіч пражыў вялікае жыццё і пабачыў на сваім вяку ўсяго. Дачакаўся і той пары, што дала мужыку волю, зямлю, за якую гэтак змагаўся Францішак Багушэвіч. Праўда, самому Альхімовічу ўжо нічога гэтага не трэба было. Быў ён стары і нямоглы, адно толькі, як які-небудзь казачны гном, увесь ссівелы, прыгорблены, хадзіў з ядлоўцавым кіем па Кушлянах, да ўсяго прыслухоўваўся, прыглядаўся і расказваў цікаўным, як жылі калісь Кушляны. Ён жа ведаў усіх Багушэвічавых сваякоў, нават бацьку.

З вокнаў Альхімовічавай хаты некалі была добра відаць і Багушэвічава, з каштанаў і бяроз, прысада. Альхімовіч неаднойчы бачыў пад яе шатамі нашага песняра. Бачыў яго і аднаго, задуменнага, з аркушыкам паперы і алоўкам, то на шпацыры, з закладзенымі за спіну рукамі, то з сябрамі з Вільні, то з дачкой Канстанцыяй — Туняй. Пра ўсё гэта ён расказаў нашым сучаснікам.

Памёр Альхімовіч у 1968 годзе, у Польшчы, на дзевяноста шостым годзе. Мабыць, ён мог нам расказаць значна больш пра Багушэвічаў, чым расказаў, але не знайшлося ў тую пару ўніклівага распытчыка, які б выпытаў у яго ўсё да драбніц. І многае ён панёс беззваротна з сабою. Але ён захаваў для гісторыі шэраг каштоўных рэчаў з Багушэвічавага дому. Ад Альхімовіча нашы музеі атрымалі два паэтавы мяккія фатэлі, вазу, а таксама некалькі рэдкіх фотаздымкаў, і мы за гэта яму ўдзячныя А ў 1953 г. дапамог распазнаць на фотаздымках многіх паэтавых сваякоў.

## ЮЗУК І КАРУСЯ

З усіх кушлянцаў Багушэвіч быў найбліжэй да Каспяровічаў. Ён заходзіў да іх часцей як да каго. Лічыў іх добрымі гаспадарамі, людзьмі разумнымі, спаважнымі і меў заўсёды патрэбу пагаварыць з імі. Найбольш Багушэвіч хаўрусаваў з старым Юзуком. Юзук, ён жа Юзуль, па-казённаму Восіп або Юзаф, быў невысокі, разважлівы, добры паляўнічы і пасечнік, крыху пісьменны. З ім Багушэвіч не адзін раз хадзіў на рыбу і паляванне, любіў слухаць яго апавяданні пра розныя тутэйшыя здарэнні. А трэба сказаць, Юзук быў добры апавядальнік. Бывала, як зачне што апавядаць, дык словам нібы карункі вяжа. Апавядае і апавядае. Слова за слова ў яго чапляецца. Мог з гадзіну пра самую нязначнасць апавядаць. Іншы тое самае адным словам, адным сказам перадаў бы, а ён цэлы малюнак намярэжыць. Багушэвіча вабіў лад яго мовы, склад яго думак і разваг. Знешне гэта было нешта такое гулліва-квяцістае, што пераказаць можна, а перадаць немагчыма, а калі і перадасі, то ад гэтага застануцца адны бляклыя выжымкі, якія ўжо не хвалююць ні душу, ні сэрца. Тады Багушэвіч пачаў неўпрыкмет запісваць Юзуковы апавяданні. Запісваў і смакаваў: ото ж мова, ото ж гаворка! Больш Багушэвічу нічога ад Каспяровічаў не трэба было, абы паслухаць іх. Праўда, гэтыя сціплыя Багушэвічавы жаданні выклікалі незадавальненне ў Юзуковай жонкі — Карусі. Звычайна, калі прыходзіў Багушэвіч, яыа пачынала нерваваццa: «От зараз пан заладзіць на цэлы дзень. Тут самая праца, клопатаў не абабрацца... У полі ўсё гарыць... Сена ў чубы не вязанае, а яны, балаболкі, языкамі пра нешта менцяць ды яшчэ пра адно і тое самае ды па сто разоў. Толькі пан часу займае»,— думала яна. Багушэвіч заўважаў гэтую Карусіну незадаволенасць і звычайна казаў: «Ты, Каруліна, не злуйся. Скажы толькі, колькі будзе каштаваць наша гаворка, і я людзей прышлю, і яны ўсё нагоняць, адробяць»,— і працягвалі далей сваю няспешную гамонку з Юзуком. Улетку яны любілі калі-нікалі пасядзець у халадку пад старой, разгалістай, на чатыры верхавіны, ліпай. Гаварылі пра рознае. Пра камяні, напрыклад, пра пчолы, пра тое жыццё, якое іх чакае. Людзі памятаюць іх дыялогі. Нібыта Багушэвіч казаў Юзуку:

— От, Юзук, прыйдзе такі час, такая пара, што мой лес будзе не мой, і твой лес будзе не твой. Усё гэта будзе ўсіхняе. І камяні ўсе з поля звязуць у крушні. Камень будзе такі дарагі, такі каштоўны, што ты пра гэта і не здагадваешся. Машыны яго пазвозяць. Мы мо гэтага і не прычакаем, а дзеці нашы, унукі прычакаюць...

У Юзука з Карусяй было трое дзяцей: Гэля, Пётра і Янак. Багушэвіч і да іх прыглядаўся. Асабліва яго прываблівала Гэля. Яна была такая ж жвавая, як і яе матуля. Абедзьве любілі спяваць. Бывала, як возьмуць каторую песню, дык аж душу зацінае. З Карусіных песняў Багушэвіч любіў вось гэтую:

Ці дзень, ці світае,
Ці на зорку займае,
Ці то мой мілы,
Ці голуб сівы каня сядлае?
Сядлай, мілы, пакідай мілы
Мяне маладую,

Каб я гэта знала,
Што замужам ліха,
Я б сядзела,
Бульбу б ела
У матуленькі ціха.

Каб я гэта знала
Мужнюю раскошу,
Я сядзела і часала б
Сваю русу косу.

І пайду ж я да броду
Па чыстую воду.
Як я стану і прыгляну
Ці харошага роду.

Калі Каруся, надаралася, спявала, Багушэвіч сядзеў нерухома, сцішана, толькі па засяроджаных вачах ды па распрастаных складках на лобе было відаць, што песня лагодзіць яго душу. Любіла яна і ўдваіх з сваім Юзуком спяваць, на застоллі якім ці за працаю, калі ў іх усё ладзілася. Згадваюць, што ў іх надта файна выходзілі спевы ўдваіх. Бывала, як зацягнуць «І туды гара, і сюды гара», дык здавалася, самі становяцца песняю, так ужо спяваюць, так ужо выводзяць, што самі сябе не помняць, яны гэта ці не яны. Толькі галасы іхнія гучаць. Зрэдзь, праўда, перавядуць дух, зірнуць адзін на аднаго, знакі такія пададуць, што трэба ці глыбей браць, ці ніжэй і зноў спяваюць, забыўшыся на ўсё на свеце...

Так, не адну песню, не адно апавяданне пачуў і запісаў Францішак Багушэвіч у Каспяровічавай хаце. Наслухаўся ён іхніх баек і песняў. Кушлянцы лічаць, што ў апавяданні «Сведка» дый у «Палясоўшчыку» Францішак Багушэвіч расказаў менавіта пра Юзука Каспяровіча і яго жонку Карусю. Што ж, гэта вельмі верагодна. Ладам сваіх думак і настрояў героі твораў сугучныя Багушэвічавым суседзям. Вось ён, наіўна-дасціпны і трохі хітраваты Юзук з «Сведкі»: «Так і так,— кажу,— у мяне,— кажу,— Каруська (гэта мая жонка) надта, гадзіна, рана ўстае... яшчэ навет і дзяркач на балоце ні разу не дзёрнуў, калі яна прыходзіць да мяне і будзіць: «Юзук, Юзук!.. Ідзі ж ты, кажа, касіць на Лабок».

Як жа гэтая Карусьчына рупнасць нагадвае нам рупнасць той Карусі, да якой заходзіў Багушэвіч, пра якога яна думала, што пан сваімі размовамі з Юзуком адно час марнуе, ад працы адрывае. Дый Юзук у «Сведцы» выдае сябе тым жа хітравата-чуллівым словапляценнем, якім вызначаўся Багушэвічаў сусед.

...Шмат мінула часу з той пары, як жыў Францішак Багушэвіч. Змянілася не адно пакаленне кушлянцаў, але, як ні дзіўна, а ў людской памяці апавяданні пра нашага песняра і Каспяровіча жывуць і сёння. Ацалела на колішняй старой Каспяровічавай сялібе і тая ліпа, пад якой гутарыў Багушэвіч з Юзуком, пад якой ён чытаў яму свае беларускія вершы. Праўда, бураю яе крыху разадрала, але свае красы і велічы яна з гэтага не вельмі страціла. Старая разлапістая ліпа па-ранейшаму апавядае чуйным сэрцам пра тыя мудрыя гамонкі, якія калісь вялі між сабою гаспадарлівы Юзук Каспяровіч і яго дасціпны сусед і слынны паэт Францішак Багушэвіч у халадку пад яе шатамі.

## ДАРОГУ! ПАЎСТАНЕЦ ІДЗЕ!

Звалі яго Антон Ясевіч. Ён рос і гадаваўся на той жа зямлі, што і славуты наш паэт. Яны былі суседзі, равеснікі, людзі аднаго пакалення, адной эпохі. Яго імя дайшло да нас найперш з архіўных дакументаў, з архіўных крыніц, дайшло з вельмі сімпатычнай нагоды.

...У снежні 1862 года юны Антон прывёз з Вільні ў Кушляны, ён быў яшчэ тады гімназістам, пяты нумар «Мужыцкай праўды» Кастуся Каліноўскага і перадаў гэты агністы лісток Яські Гаспадара з-пад Вільні вандроўнаму настаўніку Восіпу Клімашэўскаму, каб той чытаў яго сялянам. І настаўнік, паводле яго слоў, гэтак і рабіў, як яму радзіў быль яго вучань.

Пра ўсё гэта мы даведваемся з архіўнай справы «О дворянине Иосифе Климашевском, читавшем крестьянам «Мужицкую правду», якая захоўваецца ў Дзяржаўным гістарычным архіве Літоўскай Рэспублікі.

У 1863 годзе Антон Ясевіч, гэтак жа, як і яго славуты сусед Франц Багушэвіч і іншыя кушлянскія дзецюкі, пайшоў у паўстанне. Было тады яму дзевятнаццаць. Змагаўся ў атрадзе Я. Козела, які дзейнічаў у Вілейскім павеце. У маі 1863 года Антона Ясевіча ў баі пад Уладыкамі Вілейскага павета схапілі карнікі, схапілі пры ўсёй паўстанцкай амуніцыі. Па тагачасных мураўёўскіх законах Антона Ясевіча чакала суровая кара: шыбеніца ці расстрэл. Аднак гэтага не здарылася. Яго аддаюць у адзін з туркестанскіх лінейных батальёнаў салдатам-штрафнікам[17].

Што ж змякчыла кару паўстанцу?

Пра гэта архіўныя дакументы маўчаць. То дзе ж шукаць адказу? Можа, у народнай памяці? Як ні дзіўна, але ў Кушлянах яшчэ і сёння памятаюць Антона Ясевіча, памятаюць усе перыпетыі яго паўстанцкай долі. Гэта была такая неспадзяванка, што я да драбніц запісаў усе ўсхваляваныя расказы кушлянцаў. Давайце ж паслухаем, як склаўся далейшы лёс паўстанца Антона Ясевіча. Расказваюць Клуйшы — Уладзіслаў (1899) і яго жонка Стэфа з Трыколяў:

«Пра тое, што Антон Ясевіч быў паўстанцам,— кажуць яны,— у нас ведалі ўсе. І сам ён нам не раз расказваў пра гэта, і ад бацькоў сваіх чулі. Расказвалі, як іх гналі голых, змэнчаных, галодных, змардаваных, ім есці не давалі, нагіх гналі. Дык людзі кідалі на іх хто што мог; адзенне кідалі — хто світку, хто посцілку. На Антона Ясевіча — яго ж расстраляць хацелі — адна шляхцяначка, яна тады яшчэ паненачка была, Кастуся звалі, накінула хусціну. Яна так ушкадавала яго, што дапала да нейкага вялікага начальніка... Ці не да самога губернатара? Пра што яна там гаварыла, гэтага мы не ведаем, але выхадзіла яго, уратавала ад смерці, выручыла. Расстрэл яму замянілі на высылку...»

Дык вось якая рамантычна-драматычная гісторыя паратавання паўстанца Антона Ясевіча ад смяротнай кары! Не дзіва, што яна не згасла ў народнай памяці і праз добрую сотню гадоў! Уладзіслаў і Стэфа Клуйшы памятаюць паўстанца Антося Ясевіча ўжо сівенькім: «Па хаце ледзьве хадзіў, ледзьве ногі перастаўляў». Памятаюць яны яго і больш моцнага, калі ён апранаў свой паўстанцкі цёмна-гранатавы мундзір, паўстанцкую шапку і горда, з лясачкай у руках

[17] Кісялёў Г. Сейбіты вечнага. Мн., 1863. С. 300.

выходзіў на вуліцу. Дзеці за ім бегалі цугам. «Паўстанцаў у нас тут ого як ганаравалі, ого-о як шанавалі! — успамінаюць Клуйшы.— Ім усюд чэсць аддавалі, салютавалі. Бывала, як з'явіцца каторы з іх у Смургоні ці Ашмяне на кірмашы, дык паліцыянт паперадзе яго шыбуе, гукае: «Дарогу! Дарогу! Паўстанец ідзе!»

Памятаюць Клуйшы і пахаванне Антона Ясевіча. Яно таксама было ганаровае. Успамінаюць: «Аркестра іграла. Аж дванасце музыкантаў з Вільні прыехала. Мо з гадзіну ў хаце ігралі. А пасля экспертавалі яго з Кушлянаў у Жупраны... На труне, памятаюць, паўстаньская шапка ляжала. А як у дол апускалі, дык стралялі, тры разы на віват стрэлілі».

Доля наканавала Антону Ясевічу доўгі век. Вось чаму кушлянцы памятаюць самыя розныя моманты з яго паўстанцкага жыцця.

Памёр ён дзесьці ў канцы двадцатых гадоў. Клуйшы згадваюць: «Як чырвонае войска ішло на Варшаву, дык ён яшчэ быў жывы. Выйшаў ён тады з хаты на тое войска падзівіцца і нават з адным з салдатаў дык пра нешта гутарыў».

Добра памятае Антона Ясевіча і Станіслава Клуйша з Наздрачунаў. Яна жыла ў Ясевічаў, была іхняя выхаванка і штодня, дзяўчынкаю, бачыла яго на свае вочы. Яе ўспаміны цалкам супадаюць з успамінамі Уладзіслава і Стэфы Клуйшы.

Адзінае хіба, што яна больш падрабязна апісвае яго партрэт: «Чысценькі такі, невялічкі сівы панок. Бародка сівенькая, увесь белы-белы, па хаце з лясачкай хадзіў. Расказваў, як ён на паўстанні быў. Пасля вяртання з высылкі акцызнікам стаў. Пра гэта згадвае Бурачок у сваім вершы «У судзе», называе яго «акцызнік Яськоў». А тая шляхцяначка, Кастуся, што яго ад смерці паратавала, сталася яго жонкаю. Як ён вярнуўся з высылкі, яны і пабраліся. Сам ён быў чалавек харошы».

Пахавапы Антон Ясевіч на тым жа могільніку, што і Ф. Багушэвіч.

## МАСТАЧКА З КУШЛЯНАЎ

Кушляны хоць і былі на водшыбе ад гулкіх і людных дарог, тым не менш тут заўсёды тварылася духоўная культура ва ўсіх яе праявах і формах. Кушлянскія фальваркоўцы не толькі гаспадарылі, але спрадвеку цягнуліся да навукі, да кнігі, да вышэйшых формаў мастацтва — музыкі, жывапісу. Колісь амаль у кожнай шляхецкай сядзібе, а было іх у Кушлянах нямала — жылі тут, апрача Багушэвічаў, Маркоўскія, Тымоўскія, Сулістроўскія,— гучала піяніна ды фартэпіяна. Не раз цнатлівая ў сваёй першабытнай красе і непаўторнасці кушлянская прырода, яе старажытныя, спракаветныя

паркі напаўняліся мяккімі мелодыямі класічнай і народнай музыкі, што вырывалася праз вокны з утульных фальваркоўскіх пакояў.

Была сярод кушлянцаў вялікая прага і да малявання. Маляваў тут шмат хто, але да нас дайшлі звесткі толькі пра двух кушлянскіх мастакоў: Багушэвічавага сына Тамаша і іхнюю суседку Зосю Ясевіч. Пра яе гэты наш расказ.

Нарадзілася Зося Ясевіч у апошняй чвэрці мінулага стагоддзя, у сям'і паўстанца Антона Ясевіча. Непаўторная краса кушлянскіх даляглядаў рана абудзіла ў яе душы пачуццё прыгожага, і яна спрабуе перададь гэтую красу на палатне і паперы фарбамі. Але ні першая яе спроба, ні больш дасканалыя творы пазнейшай пары не дайшлі да нас. Захавалася толькі памяць пра іх, пераказы зместу і сюжэтаў карцім. Вось што расказвае пра Зосю Ясевіч Станіслава Клуйша: «З Зосі Ясевіч надта файная мастачка ўдалася. Яна вельмі файна малявала. У яе пакоях было шмат малявідлаў (малюнкаў). З усіх мне ў памяці адзін абраз.

...Невялікі барок. А каля таго барку, на ўскрайку яго, на пагорку, сасна. Тую сасну яна так ужо вымалявала, так ужо выцацкавала, што вачэй не было як адвесці. Ну, от як жывая стаіць тая сасна. Так і хочацца рукою пакратаць, такая яна была прыгожая».

Пра гэтую вымаляваную Зосяй Ясевіч сасну я чуў не толькі ў Кушлянах. Расказвалі мне пра яе ў Трыколях, у Наздрачунах, нават у больш далёкіх Жупранах. Чуў расказы пра яе я ад Вянцкоўскіх, Абцэвічаў, Васілеўскіх, Каспяровічаў...

Шмат хто бачыў гэтую карціну, шмат каму яна запомнілася, шмат каго яна ўразіла!

«І сябе Зося пад той сасной намалявала,— расказвае далей Станіслава Клуйша.— Зося маладая была вельмі прыгожая, харошая такая, стройная. Насіла косы, апраналася ва ўсё доўгае. Была вельмі вучаная. Вучылася ў Віленскай гімназіі, казала, што разам з Дзяржынскім. Умела гаварыць аж на сем языкоў. Называлі мы ўсе яе Ясевічанка, а як выйшла замуж — Шафнагелька. Шафнагель быў яе муж. Вельмі пекная была шляхцяначка. Да яе нават з Вільні мастакі прыязджалі...»

Апошняя вестка для нас вельмі важная. Яна выводзіла Зосіна імя на больш шырокі мастакоўскі абсяг. Таму пытаюся ў Станіславы Клуйшы, ці не памятае яна імёны тых мастакоў, што прыязджалі да Зосі. Станіслава Клуйша жыла ў Ясевічаў, гадавалася ў іх і жыццё іхняе ведае да ўсіх драбніц. «Чаму ж не памятаю? — кажа ў роздуме яна.— Не ўсіх, але некаторых памятаю. Ніказы Падбярэзскі, памятаю, прыязджаў. Высокі такі, чарнявы».

Імя гэтага мастака мне знаёмае. Яго я сустрэў упершыню на старонках кнігі «Powiat Oszmiacski» 1896 года выдання, бачыў яго там замалёўкі і сярод іх — абразок, відок Ясевічавага двара ў Кушлянах. Але тады гэтае прозвішча не прагучала для мяне. Цяпер жа той малюнак і імя мастака паўсталі ў нейкім іншым святле. Уявіўся 1894 год. Менавіта ўлетку гэтага года Ніказы Падбярэзскі зрабіў замалёўку Ясевічавага двара ў Кушлянах. Яго мастакоўскае вока прывабілі не толькі маляўнічыя кушлянскія краявіды, утульныя фальваркі, але і людзі. Пакуль маляваў Ясевічаў двор, пазнаёміўся з сям'ёй Ясевіча і з Зосяй, вядома, таксама. Яму, мабыць, тады расказалі пра Зосіна захапленне, паказалі яе эцюды і замалёўкі. Мусіць, была гутарка, былі парады, пахвалы. Ніказы Падбярэзскі стаў частым госцем у Ясевічаў. Цягнула яго сюды перш за ўсё агульнасць мастакоўскіх інтарэсаў, жаданне дапамагчы маладой мастачцы. Прыязджаў ён у Кушляны і ў пазнейшую пару, ужо ў наша стагоддзе. Менавіта пра яго прыезды ў дваццатыя гады і згадвае Станіслава Клуйша. Аднак якія яшчэ Зосіны карціны бачылі кушлянцы?

Згадваюць, што ў яе пакоях быў і такі абраз:

...Бура. Людзі сена складаюць. Вецер рве тое сена... Парка коней на лузе. Коні трывожна стрыгуць вушамі...

Наогул, кажуць, яна вельмі любіла маляваць кушлянскія краявіды. Гэта было яе захапленне. Малявала яна і партрэты.

Які ж лёс гэтых карцін і самой мастачкі?

Раяць пра гэта пагутарыць з Піменавым і Гарыніным. Яны ў час вайны і пасля вайны былі ў Ясевічавай хане, жылі разам з самой Ясевічавай.

Гутару з Піменавым. «Так,— кажа ён.— Усё праўда, такія карціны былі ў Зосінай хаце. І было іх шмат. Усе іх яна сама намалявала. Але як хату іхнюю прадалі ды пачалі перавозіць, усе тыя карціны памарнаваліся. Засталіся толькі рамы. Сама ж Зося, у пяцідзесятыя гады, прастарэлая, «было ёй ладне гадоў», пад дзевяноста, выехала ў Польшчу, да сына. Але казала, што шмат яе абразоў у касцёле ў Гервятах. Усе яны ёю намаляваныя. Казала, што ёсць яе абразы і ў Жупранах.

Звесткі гэтыя таксама цікавыя, і варта б да іх усім прыслухацца.

Я ж зноў вяртаюся да малюнка Ясевічавага двара 1894 года. Мастак Ніказы Падбярэзскі на фоне светлага, утульнага Ясевічавага дамка з прыветнымі вокнамі, атуленага векавымі клёнамі і ліпкамі, намаляваў на сцяжынцы, між буйных рослых кветаў, у доўгай апратцы дзявочую постаць з кошыкам у левай руцэ. То ці постаць гэта самой мастачкі? Думаецца, менавіта яе абрысы вымаляваў

Нiказы Падбярэзскі і гэтым самым засведчыў сваю мастакоўскую ўвагу да маладога кушлянскага таленту.

Цяпер прыветны Ясевічаў дамок стаіць у іншым месцы — у маляўнічым кутку на беразе Ашмянкі поблізу Солаў. І надзвычай цікава, што пад яго страхой узгадаваўся і яшчэ адзін аматар пэндзля — Восіп Мілейша. Восіп Мілейша — наш сучаснік. Яго, гэтак жа, як і папярэдніцу, вельмі хвалююць кушлянскія далягляды, якія ён з любасцю і па-майстэрску ўвасабляе на сваіх палотнах. Сярод іх нямала і Багушэвічавых мясцін.

## ПРА БАГУШЭВІЧА ГУТАРЫЛІ ЧАСТА

Некалькі гадоў таму назад вядомы гісторык і даследчык беларускай літаратуры з Маладзечна Мікола Ермаловіч перадаў мне запісы-ўспаміны пра Ф. Багушэвіча, зробленыя па яго просьбе Марыяй Каспяровіч ад яе бацькі Яна Каспяровіча, які яшчэ хлапчуком заспеў Багушэвіча пры жыцці і шмат чуў пра яго ад свайго бацькі і дзеда. Былі ў тых запісах і фрагменты вершаў — «Дурны мужык, як варона», «Хрэсьбіны Мацюка», «Кепска будзе!», вядома, у народнай інтэрпрэтацыі. Была і прыпіска: «Пры Вашай сустрэчы, можа б, болей чаго-небудзь расказаў». Прыпіску зрабіў сам, сваёй рукою Марыін бацька. І нават распісаўся. Запісы датаваныя лютым 1950 года. Цікаўлюся, ці ўдалося Міколу Іванавічу сустрэцца і пагаварыць з гэтымі людзьмі. «Ездзіў, сустракаўся, гутарыў,— кажа Мікола Іванавіч.— Нешта і запісаў. Але што — не памятаю. Раю і вам з'ездзіць. Вядома, самога Яна Каспяровіча даўно няма — ён жа з 1889 года. Але можна пагутарыць з яго дачкой. Яна, як бачыце, з маладых гадоў мела да гэтага цікавасць. Дый пра Багушэвічаў у іх часта гаварылі дома, часта ўспаміналі. То нешта, можа, і вы пачуеце...»

Я паслухаўся гэтае рады і паехаў шукаць у Кушляны Марыю Каспяровіч. Аднак мне там сказалі, што Марыя Каспяровіч даўно ў Кушлянах не жыве: «Шукайце яе ў Нававільні,— параілі.— Да ўсяго ж яна цяпер Саевіч». Далі і адрас. Ну а ўсё астатняе было проста. Мы папярэдне спісаліся, і вось восьмага лістапада 1979 года я на кватэры Саевічаў. Каб гаворка была даверлівая, я дастаў з сваіх папераў тыя некалькі пажоўклых, крыху абшарпаных па краях аркушыкаў з школьнага сшытка ў касую лінейку, для першакласнікаў, і падаў іх Марыі.

— Пазнаеце?

Марыя асцярожна ўзяла іх у рукі, нейкі момант глядзела як на нешта вельмі блізкае, знаёмае, дарагое, але даўно-даўно бачанае і забытае. Нарэшце яна прамаўляе:

— То ж гэта маё пісанне!.. Божа, колькі ж гэта мінула? Ці не трыццаць?.. А бадай што болей, як трыццаць! І не прапала, не закінулася! — дзівуецца яна і задуменна, як успамін, прачытала запісанае калісь сваёй рукою: «Багушэвіч часта прыходзіў да нас, прыносіў нам слівкі і яблыкі. Насіў ён белую шапачку на два брылькі... белы сурдут і зялёныя порткі, боты з шырокімі халявамі...»

Гэта з расказу майго таткі,— каменціруе сваё чытанне Марыя.— Ён шмат чаго ведаў пра Багушэвічаў. Яму было гадкоў адзінаццаць, як памёр Францішак. Але найбольш з Мацеем Бурачком знаўся мой

дзядуля — Юзук. Ён сябраваў з Багушэвічам. Бывала, разам з ім на паляванне хадзіў, на рыбу дый так любілі пагамапіць.

— Вось пра вашага дзядулю нам якраз усім і цікава пачуць. Ён жа ў кнігі патрапіў. То хацелася б пра яго даведацца крышку больш, чым мы ведаем. Гэта ж пра яго гаворыцца ў вядомым Багушэвічавым апавяданні «Сведка».

— І не толькі пра яго,— удакладняе Марыя.— Ёсць там колькі слоў і пра маю бабульку — Каруліну. Пра яе Багушэвіч піша, што яна надта рупная была, вельмі рана ўставала. Карусяй яе Багушэвіч называў. Але, на жаль,— з шкадаваннем кажа Марыя,— я была зусім маленькая, калі пазміралі мае дзяды, і я ведаю пра іх болей з расказаў, чым сама. Казалі, што дзядуля быў невялікі, вельмі шустры, хуткі, разважлівы, кемны. Бабулька таксама была невялічкая, спрытная, жвавая. Кажуць, ведала шмат Багушэвічавых вершаў. Жылі дружна, шмат працавалі. З працы бачылі радасць. Мелі трох дзяцей.

— То, можа, у вас ацалелі іхнія здымкі? — пытаюся я і ўсё яшчэ не трачу надзеі, калі не пачуць падрабязны расказ пра Багушэвічавых суседзяў, герояў яго твораў і субяседнікаў, то хоць паглядзець на іх падабізны на здымках. Але і на гэтае маё пытанне чую адмоўны адказ: картак сваіх дзядоў Марыя не мае.

— Дзяды мае не фатаграфаваліся,— кажа яна.— Ім гэта было не ў галаве, не па кішэні ім была гэтая раскоша. А вось Багушэвічаў партрэт у мяне быў: на цупкой, як кардон, паперы, карычневаты такі, памерам прыкладна дваццаць пяць на дваццаць, зроблены ў Вільні. На ім Багушэвіч быў зняты незадоўга перад смерцю. Худы, вочы запалыя. У світцы ашмянскага крою, з кляпамі, з простага саматканага сукна.

Здымак гэты дастаўся Марыі ад Станіслава Альхімовіча, Багушэвічавага суседа. У Альхімовіча было ўсяго шмат: і фотаздымкаў, і кніжак Багушэвічавых, і ён усё гэта паказваў дзецям. Фота тое, памятае Марыя, было з надпісам, падпісана Багушэвічавай рукою чорным атрамантам. Праўда, не вельмі зграбна, нібы рука трымцела. Гэта вельмі здзівіла Марыю. Сваё здзіўленне яна выказала бацьку, на што той адказаў, што ўсе вучоныя людзі, на яго думку, пішуць непрыгожа, таму штоім даводзіцца шмат пісаць і трэба, каб было хутчэй. Да таго ж Багушэвіч пісаў хворы, пісаў, мабыць, у ложку, лежачы. Таму і пісьмо такое. Памятае Марыя і сам надпіс на здымку. Яна цытуе гэты надпіс, цытуе так, як цытавала яго амаль трыццаць гадоў, калі гутарыла з Ермаловічам: «Едынаму сынові Тамашові ахвярую сваю падабізну. 19 марца 1900 года» — значылася на тым здымку.

Пра Тамаша ў Марыі Саевіч самыя прыемныя ўражанні: любіў дзяцей, быў прыгожы, вясёлы. Хадзіў заўсёды з закручанай лясачкай. «Спаткаешся з ім, стараешся хутчэй павітацца, а ён сам першы галоўку пагладзіць і пацалуе».

Памятае Марыя і пахаванне Туні: «Я тады ў школу бегала ў Жупраны. Туню пахавалі пры сцежачцы, ля Багушэвіча»,— кажа яна. Я дзякую Марыі за гэтыя звесткі, бо колькі ні пыталіся, ніхто дакладна не мог сказаць, дзе пахавана паэтава дачка. «Няўжо ніякага і грудка не засталося? — дзівіцца яна.— Побач жа з ёй пахавалі і яе мужа Яна Мніховіча. Яны і памерлі неяк аб адзін тыдзень».

З гаворкі пра фотаздымкі, пра Багушэвічавых дзяцей вяртаемся зноў да Марыіных запісаў. Я кажу, як гэта добра, што Марыя зрабіла гэтыя запісы. Гэтак павінен рабіць кожны, хто што-кольвек ведае ці ведаў пра слаўных сыноў нашага народа, нашай бацькаўшчыны. У гэтым выяўляецца культура народа, яго моц.

Марыя ад мае пахвалы пачувае сябе ніякавата; яна пяшчотна разгладжвае ражочкі сваіх запісаў і кажа, нібы апраўдваецца:

— Як умела, так і запісала. Каб гэта з маім татам нехта дасведчаны пра Багушэвіча пагаварыў, то б спісаў не адзін сшытак. А я надта тады, пасля вайны, шмат разумела, што і да чаго...

— І ўсё ж запісалі...

— Прасілі, дык і зрабіла. Памятаю яшчэ з татавых расказаў, што Багушэвіч у нашай хаце любіў сядзець на зэдлі... Сядзе, нагу за нагу закіне і гутарыць, разважае...

Здаецца, я распытаўся ў Марыі пра ўсё, што хацеў. Хаця чакай-це... Яшчэ ж трэба пацікавіцца, дзе ж той Багушэвічаў партрэт, які з такой падрабязнасцю нам апісала Марыя. Гэтае маё пытанне было для яе бадай самае цяжкое. Нечакана для мяне яна ўздыхнула і адказала:

— Да пятнаццатага лістапада 1944 года гэты партрэт быў у нас у Кушлянах. Ляжаў у шафе, у альбоме, разам з іншымі фотаздымкамі. Але адбылося непрадбачанае. Мы змушаныя былі на колькі гадоў і не па сваёй волі пакінуць Кушляны. Калі вярнуліся, гэтага ўжо нічога ў сваёй хаце не знайшлі... Тое-сёе людзі нам вярнулі, але Багушэвічаў партрэт больш да нас не трапіў...

Гэтую нашу гаворку з Марыяй уважліва слухае і наймалодшая з Каспяровічаў — дванаццацігадовая Галя-Галінка. Ёй дужа ўсё цікава, што гаворыцца пра Кушляны, пра Багушэвічаў. Яна хоць і нарадзілася і жыве ў Новавільні, а ведае нашу мову, лічыць сябе кушлянкай. Кушлянамі ганарыцца, часта ездзіць туды. За Багушэвіча гарой стаіць. Усёй душой прагне даведацца пра Кушляны і паэта ўсё

больш і больш. І гэтак, мабыць, будзе заўсёды. З пакалення ў пакаленне будуць перадаваць Каспяровічы адзін аднаму пра дружбу сваіх дзядоў з вялікім паэтам нашай зямлі — Багушэвічам.

## АДЫСЕЯ БАГУШЭВІЧАВАЙ БІБЛІЯТЭКІ

У аддзеле рэдкай кнігі і рукапісаў вільнюскай акадэмічнай бібліятэкі, а таксама ў Цэнтральным дзяржаўным архіве Літоўскай Рэспублікі ёсць некалькі кніг з колішняй Багушэвічавай бібліятэкі. Сярод іх збрашураваны экземпляр першых сшыткаў «Слоўніка слоў іншамоўнага паходжання» Яна Карловіча з аўтарскім надпісам: «Высакароднаму п. Францішку Багушэвічу на сяброўскую памяць. 16.10.97». Тут жа і Біблія, купленая Багушэвічам у Канатопе 26(14) лістапада 1875 г. у жаўнера пятай батарэі Францішка Кавальчука за пяць злотых. Пра тое, што гэтая кніга належыць Багушэвічу, сведчыць таксама ціснёная пячатка ці штамп з поўным імем паэта ў правым верхнім куточку на тым самым аркушы.

Я доўга ламаў галаву, як гэтыя кнігі патрапілі з Кушлянаў у Вільню, калі і праз каго? Рабіў спробу што-кольвек даведацца праз вільнюскія бібліятэкі, але мае намаганні былі дарэмныя. У бібліятэках не ведалі, адкуль і ад каго патрапілі да іх Багушэвічавы кнігі. Мінаў час, а адказу на нытанне не знаходзілася. І вось у канцы мая ці на пачатку чэрвеня 1981 г. службовыя клопаты прывялі мяне ў Вільню да вядомага даследчыка кітабаў Антона Канстанцінавіча Антановіча. Гутарылі мы з ім шмат пра што. Нарэшце гаворка ўзбілася на Багушэвіча.

«Тое-сёе і я ведаю пра Багушэвічаў,— сказаў паважна Антон Канстанцінавіч.— На пачатку апошняй вайны я нейкі час жыў у Ашмяне. Там я пазнаёміўся з Тарчэўскім...»

Прозвішча Тарчэўскіх знаёмае і мне, чуў і я крыху пра іх і нават спрабаваў шукаць іх сляды. Імя аднаго з іх— Івана Тарчэўскага — як Багушэвічавага сімпатыка — згадваецца ў кнізе «Літаратурныя пошукі, знаходкі, даследаванні». Тое-сёе і мне ўдалося пра іх высветліць, але я пакуль не перапыняю Антановіча, слухаю яго з дрыготкім хваляваннем далей, адчуваю, што мае звесткі пра Тарчэўскіх зараз перакрыжуюцца з Антановічавымі, а мо нават засвецяцца якімісь новымі дэталямі.

«Калі мы сталі больш знаёмыя,— працягваў сваё апавяданне Антон Канстанцінавіч,— Тарчэўскі неяк запрасіў мяне дахаты. У яго абедалі, частаваліся, а пасля ён мне паказаў скрыню: яна была поўная кніг. Было гэта на хутары Асінаўка, недалёка ад Ашмяны. Зверху ляжаў абцягнуты ружовым аксамітам альбом. Разгарнуў я яго — не то

Багушэвічаў бацька, не то яго дзядуля. Я перабраў тыя кнігі. Выбраў дзевятнаццаць... Неўзабаве з тымі кніжкамі вярнуўся ў Вільню. Доўга трымаў іх дома, чытаў, перачытваў. Памятаю, сярод іх была адна этнаграфічная. Да гэтага зборніка мелася прадмова Яна Карловіча. Нехта ўважна чытаў яе. Уся спярэшчаная алоўвачкам, асабліва там, дзе пра мову гаварылася, дзе вядомы трохкутнічак. З ін- шых кніг памятаю буквар ці граматыку польскай мовы канца XVIII стагоддзя. Гэтую кніжку, Біблію і ўсе астатнія я здаў у віленскі Беларускі музей, у якім неўзабаве пачаў працаваць. Калі ж музей пачалі расфармі-роўваць, кніжкі з яго патрапілі ў фонды акадэмічнай бібліятэкі...»

«Дык вось якая вандроўка некаторых Багушэвічавых кніжак!» — ледзь не ўсклікнуў я, але стрымаўся, а Антановіч працягваў далей: «Я меў спіс усіх дзевятнаццаці кніг, зрабіў яго перад тым, як здаць кніжкі, але нешта даўно яго не бачыў. Трэба паглядзець, ці не пазначаны яны ў музейнай інвентарнай кнізе»,— раіць ён.

З гаворкі пра кнігі вяртаемся да Тарчэўскіх. Антон Канстанцінавіч расказвае, што малады Тарчэўскі жыў з маткаю. Была гэта ўжо даволі старая кабета, гадоў пад шэсцьдзесят, але вельмі пачцівая: «Памятаю, калі мы елі, то ўсё загадкава казала: «Ежце, каб не гаварылі!» Мы чыталі ёй Багушэвічавы вершы, то яна слухала і ўсё казала: «Бач, які скрытны быў. Кніжкі пісаў, а мы нічога не ведалі».

Але хто ж такія Тарчэўскія? І чаму менавіта ў іх апынулася частка Багушэвічавай бібліятэкі?

Як сведчаць Багушэвічавы землякі, за Тарчэўскім была замужам дачка Багушэвічавай сястры Ганны Маня, Марыя. І вось калі памерла Туня (дакладная дата яе смерці нарэшце ўстаноўлена — 2 снежня 1937 года), калі пасля 1939 года Багушэвічавых унучак раскідаў лёс па свеце, многія Багушэвічавы рэчы, а з імі і кнігі перайшлі на Асінаўскі хутар. Я наведаўся на той хутар. Жывуць тут цяпер Чайкоўскія, таксама якіясь далёкій сваякі Багушэвічаў. Усё гэта людзі сярэдняга веку. Але яны таксама памятаюць тую скрыню з старымі кнігамі, пра якую расказваў Антановіч. Але дзе ж тыя кнігі?

Стэфанія Чайкоўская, да якой мы звярнуліся з гэтым пытаннем, уся зардзелася, нібы вінаватая. Яна, відаць, нечакана адчула, што гаворка ідзе пра штосьці вельмі важнае. Жанчына ледзь выціснула з сябе: «Хіба мы што ведалі. Былі малыя... Дровы не гарэлі, дык у печы тымі кнігамі распальвалі».

Усё гэта ўжо адбывалася пасля апошняй вайны, у пяцідзесятыя гады. Між іншым, на гэтым самым хутары быў знойдзены і сямейны альбом Багушэвічаў. Зберагла яго Стэфаніна маці, Чайкоўская

Станіслава Францаўна. Цяпер гэты альбом перахоўваецца ў Дзяржаўным музеі Беларусі…

Такім чынам, лёс Багушэвічавай бібліятэкі, якую ён перавёз з Вільні аж на дзвюх параконных фурманках, амаль вядомы. Засталося толькі высветліць, якія яшчэ кнігі з дзевятнаццаці, перададзеныя Антановічам Беларускаму музею, захоўваюцца ў засценках вільнюскіх бібліятэк. Спрабаваў я што-кольвек высветліць у Стэфаніі і пра Тарчэўскіх, але кабета настойліва ўхілялася ад гаворкі.

## ЯН ТАРЧЭЎСКІ

Хоць гутарка з Стэфаніяй Чайкоўскай была і не вельмі ўдалая, але мне ўсё ж карцела сустрэцца з ёй яшчэ раз. Адчуваў, што кабета ўсё ж нешта ведае пра Тарчэўскіх, але ці не можа, не ўмее расказаць, ці штосьці іншае замінае ёй гэта зрабіць. Праз год я зноў завітаў у Асінаўку. Гаспадыня была здзіўленая маёй настойлівасцю. У вачах прачытаў: «Я ж сказала, што нічога пра Тарчэўскіх не ведаю. Што вы ад мяне хочаце?» — «Ну, можа, хоць імя іх ведаеце, як іх звалі?» — пытаюся. «Янамі, сына і бацьку звалі Янамі. Бацька даўно памёр, а сын жыве ў Польшчы»,— нарэшце выціснула яна з сябе.
Але гэта ўжо было нямала! Калі жывы сын, то можна будзе што-кольвек даведацца і пра бацьку, і пра іхшою повязь з Багушэвічамі. «Можа, адрас сынаў маеце?» — «Не, не маю. Але з ім Марозы перапісваюцца, што на Міцкевіча жывуць».

На гэты раз я прыходзіў да Чайкоўскай не адзін. Гукнуў сабе на падмогу маладую супрацоўніцу Ашмянскага краязнаўчага музея імя Багушэвіча Валянціну Станіславаўну Цішчанку. Думаў, з ёй усё ж лягчэй будзе. Чалавек яна тутэйшы, ёй больш даверу. І не памыліўся. Валянціна чула пра гэтых Марозаў, была ў іх неяк, калі шукалі новых экспанатаў для музея.

І вось мы ўдваіх на Міцкевіча, 15. Жыве там Алена Браніславаўна Мароз з сваімі дзецьмі. Яна, як высветлілася, дачка Браніслава Тарчэўскага, пляменніца таго самага Яна, які меў з Багушэвічамі якоесь сваяцтва. Але якое, яна гэтага не ведае. «Вось каб вы з маім татам пагаварылі, дык ён вам усё б расказаў».— «Але ж хто супраць, каб пагаварыць з ім? Толькі дзе ж ён?» — «У Вільні, там ён жыве. Ён з 1898 года. Шмат чаго памятае, жыве ля самага вакзала, па Варшаўскай».

Слухаю, і аж не верыцца, што гэтак складна ўсё вяжацца, што ёсць на свеце сваяк Тарчэўскіх. Заўтра ўранку я, магчыма, пачую ўсё, што мяне цікавіць. Праз усю ноч толькі думаю пра заўтрашнюю

сустрэчу з бацькам Алены Браніславаўны. Яна ж пры сустрэчы паказала яго фотаздымкі, дамок, у якім жыве, і перада мною стаяць зусім канкрэтныя вобразы. Апрача таго, я маю на руках і даўні фотаздымак самога Яна Тарчэўскага. Яго мне таксама дала Алена Браніславаўна. Але пакуль гэты фотаздымак, хоць і вельмі цікавы, мала пра што мне гаворыць. Бачу толькі якогасьці прыгожага, чарнявага, з вусікамі, дробнага з твару франта. Сфатаграфаваны ён не то ў фатаграфічным павільёне, не то ў якой рэстарацыі. Дэкарацыя ўся, фон у квятах. Сядзіць за невялікім разным круглым столікам на венскім крэсле і далікатна налівае ў невялікі келіх, як у два пальцы ўзяць — Ян, між іншым, так яго і трымае,— якоесь гаючае пітво. Вось і ўсё. А што за гэтай знешнасцю, за гэтым бесклапотным шыкаваннем — цяжка сказаць.

Але, як той казаў, пераначуем — болей пачуем.

Назаўтра я быў ужо ў Вільні. Браніслаў Феліксавіч Тарчэўскі сустрэў мяне так, нібыта даўно ведаў, даўно мяне чакаў.

— А мой ты браток, заходзь жа,— сказаў ён неяк радасна, узахліп,— усё раскажу, што памятаю.

Пачаў з дзеда. Цікавая гэтая гісторыя, як беззямельны і бяспраўны шляхціц выбіўся на сваю зямлю, як разбагацеў з свае працы, як купіў ён хутар Асінаўку, але ж нас цікавіць зусім канкрэтны факт і канкрэтная асоба — Ян Тарчэўскі. Хто ён, як жыў, чым займаўся, якія былі яго погляды на жыццё і, нарэшце, якое яго дачыненне да Багушэвічаў, чаму на яго хутары апынуліся Багушэвічавы кнігі, альбом і іншыя рэчы? І таму пачнём з таго, калі Браніслаў Феліксавіч сказаў:

— У майго дзеда былі тры сыны: Фелікс, Янак, Аляксандр і дзве дачкі — Мася і Зося. Фелікс быў найстарэйшы і, як вы здагадваецеся, стаў маім бацькам. Але пра Янака. Скончыў у Ашмяне гімназію. На гаспадарцы не застаўся, не схацеў. Гаспадарыць ніхто з дзяцей не схацеў. Не хочуць грабіць, цягаць гной. Ян і Аляксандр паехалі аж у Піцер. Ян быў прыказчыкам у якойсьці тамтэйшай графіні. Яна яго моцна любіла. Любіла за розум, любіла за прыгажосць. А быў ён і праўда прыгожы: чарнявы, вельмі рухавы і кемны. І немаведама, як пайшло б яго жыццё. Але здарылася непрадбачанае. Аднаго разу графскі жарабец вырваўся з стайні і распудзіў графскіх кабыл, а там багна, і тыя з перапуду ў багну ляцяць, топяцца. Янак убачыў гэта і з роспачы давай цягаць жэрдкі ды ратаваць тых кабыл. Цягаў, цягаў, увесь перамурзаўся. Не спадабалася гэта графіні. «Не твой гэта быў клопат,— сказала яна.— Ты павінен быў на беразе стаяць і мужыкамі камандаваць!» — і разлічыла Янака з двара.

Вярнуўся ён на бацькаўшчыну. Было гэта каля дзесятага года. Каля той пары і ажаніўся. Узяў сабе за жонку Маню з Мніховічаў. А за Мніховічам была замужам Багушэвічава сястра Ганна. Маня — яе дачка. Вось вам і повязь Тарчэўскіх з Багушэвічамі. Маня ішла замуж ужо сталаватая. Але была вельмі зграбная кабета, гаспадарлівая. Можа, за гэта, а мо за што іншае і ўпадабаў яе Ян. А можа, за тое, што яна была з Багушэвічаў. А можа, за ўсё разам.

Пытаюся, дзе яны маглі спаткацца.

— Хто ж яго ведае,— няпэўна кажа Браніслаў Феліксавіч.— Ян быў шустры, дасужы. У яго было шмат прыяцеляў. Усюды ездзіў, не баяўся ні вандровак, ні дарог. Не прапускаў кірмашоў — ні блізкіх, ні больш далёкіх. То на адным з іх напаткаў Маню Мніховіч. Магло гэта быць і ў Ашмяне, блізка ад Асінаўкі. А тут нехта сказаў, што яна з Багушэвічаў. А ён з Багушэвіча душы не чуў, гэтак яго любіў. Кнігі, вершы... Шмат чаго на памяць ведаў... То яны і пабраліся... Ян, скажу я вам, такі быў беларус, так за Беларусь стаяў. Ездзіў на якіясьці беларускія сесіі ў Вільню, беларускія школы адкрываў, каб у школе ўсё па-беларуску было. Я ў яго школе сам вучыўся. А як ён умеў чытаць! Слёзы ліюцца, бывала, калі чытае які верш ці ліст. А ці на скрыпачцы возьмецца граць! У яго скрыпачка вісела. Душа трымціць, скача! Любіў полечкі. Адзін прыпеў дык я і цяпер помню,— і Браніслаў Феліксавіч заспяваў у хуткім рытме:

Які табе кадук здаўся,
Што ты мяне ацураўся:
Ты паходзіш, ты панудзіш,
А ўсё ж мяне любіць будзеш.

...Памёр Ян даволі яшчэ малады. Дзесьці ў дваццатыя гады. Захварэў на запаленне. Было вясною, на згон зімы. Вясна была грубая, застудзіўся ў дарозе. Дарога павыбіватая. Неслі тры вярсты на плячах. Так што Антановіч знаўся хутчэй за ўсё з яго сынам. Але гэта трэба будзе праверыць. Мы ці напішам яму, ці ён сам збіраўся прыехаць, дык распытаем.

## ХТО ШУКАЕ, ТОЙ ЗНАХОДЗІЦЬ

Але нікому з нас пісаць у Польшчу не давялося. Літаральна дзён праз колькі пасля візіту ў Вільнюс мне паведамілі: у літоўскую сталіцу з суседняй Польшчы, аж з-пад Шчэціна — куды толькі не трапяць беларусы — прыехаў на гасціну той самы Тарчэўскі, з якім

сустракаўся Антановіч, якому ён паказваў кнігі з Багушэвічавай бібліятэкі, надзяляў імі свайго новага знаёмага. Вестка была такая нечаканая і такая жаданая, што разважаць асабліва не было калі. Гаспадары знаёмяць мяне з госцем. Я з цікаўнасцю разглядаю яго. Сярэдняга росту, з прыгожымі сівымі, крыху звіслымі вусамі. Гладка прычэсаны. У белай, з пагончыкамі, моднай кашулі-сафары. Ужо даўно дзядуля. У шэрых, крыху прыжмураных разумных вачах — шчырасць і дабрыня. З першых слоў давер і паразуменне. Калі я зірнуў на яго, мне падалося, што ведаў яго даўно, колькі жыву. Завуць яго Янка, Ян, ці дзядзька Янка. Нарадзіўся ён у 1915 годзе. Маці яго звалі як хто: хто Маня, а хто Маруся, а найчасцей — Мар'я. Яна — дачка Багушэвічавай сястры Ганны. Значыць, Багушэвічу пляменніца. «А з яе нарадзіўся я,— кажа пра сябе дзядзька Янка.— Выходзіць, Багушэвіч мне стрыечны дзед». Бабулькі сваёй, Ганны, не памятае, бо якраз з'явіўся на свет у тую пару, калі яна памерла, але казалі, што была яна дзёрзкая, настойлівая, ад свайго ніколі і нідзе не адступалася. Што іхняя сям'я крэўная Багушэвічам, пра гэта ён ведаў змалку. І мані не раз расказвала пра гэта. Дый была яшчэ жывая сваяцкая повязь з Багушэвічавай дачкой Туняй і яе мужам Янам. Дзядзька Янка хлапчуком, а пасля падлеткам і дзецюком не раз быў у іх Кушляиах і Ашмяне, на розных сямейных бяседах, жыў у іх, калі ў школу хадзіў. «Яны ж мне двойчы свае,— удакладняе дзядзька Янка сваю крэўнасць з Багушэвічавай дачкой Туняй і яе мужам.— Яна мне родная цётка, а ён — родны дзядзька. Яны ж і хрысцілі мяне. Так што кругом радня».

Ледзь-ледзь памятае дзядзька Янка Багушэвічаву жонку, Габрыелю Шклёнік. «Была тады яна ўжо старэнькая-старэнькая, але да ўсіх вельмі ўважная. У сям'і яе ого як ганаравалі! За сталом яна мела сваё месца. Любіла надта па-французску гаварыць. Бывала, як усчнуць з Туняй гаманіць, дык нібыта тыя ручайкі вiруюць. Жылі яны на Барунскай вуліцы, спачатку ў невялікім драўляным дамку з садком, з агародам, там драўляная школа была, а ўжо пасля ў тым будынку, дзе банк быў. На Барунскай змерла і Туніна маці».

Ведаў дзядзька Янка, што Багушэвічава імя шануюць у Савецкай Беларусі, але не ўяўляў, што тут такую вялікую цікавасць маюць да ўсіх драбніц яго жыцця. Толькі чым жа ён, дзядзька Янка, можа быць карысны? Самога Багушэвіча ён, вядома, не памятае. Адно хіба, што матуля расказвала. А расказвала яна, як яе маці, Ганна, з братам Францішкам на паўстанне хадзілі, як ратаваліся, як іх доля па свеце параскідала...

Я далікатна заўважаю, што Францішак Багушэвіч меў і яшчэ трох братоў. Ці не чуў дзядзька Янка чаго-кольвек пра іх?

Маё пытанне для дзядзькі Янкі нечаканае. «А хіба ж у Францішка былі браты? — здзіўлена пытасцца ён.— Вось ніколі пра гэта не ведаў... Мая матуля толькі пра Францішка гаварыла. Яна яго і здымкі зберагла... Вось паглядзіце,— кажа дзядзька Янка і працягвае мне некалькі старых, на цупкой паперы, з карычневай выяваю фотаздымачкаў з сярэдзіны мінулага стагоддзя: — Як ехаў, з сабой узяў. Думаю, усё роўна гэта калі-небудзь прападзе, загіне, памарнуецца».

Я імклівым рухам, з незатоеным хваляваннем — от убачу зараз невядомую нікому дагэтуль выяву Багушэвіча — рассоўваю іх на веер. Перада мною тры аблічча. У адным з іх адразу пазнаю Францішка. Пры круглым, модным тады століку-аднаножцы, у строгай, з саматканага сукна, элегантнага крою лёгкай світцы. Такі здымачак з наметаю «Перад паўстаннем» ёсць і ў сямейным альбоме, які перахоўваецца ў зборах Дзяржаўнага музея БССР. Здымачак гэты нашай грамадскасці вядомы. Зроблены ён у 1863 годзе. Прывезены дзядзькам Янкам — яшчэ адзін арыгінал Багушэвічавай выявы 1863 года. І гэта таксама цікава. Да яго ж дакраналася рука самога песняра!

А якая ж асоба на другім здымку?

Дзядзька Янка сцвярджае, што на ім Францішак. Так, падабенства з Францішкам Багушэвічам надзвычай вялікае. Такая ж пастава галавы, шыі, такі самы авал твару. Знаёмая раскідзістая барада, вусы. Нават вопратка знаёмага крою. І ўсё ж пры ўсім знешнім падабенстве сумненне выклікаюць дзве дэталі. Не тыповы, не характэрны для Францішка Багушэвіча пагляд вачэй. Занадта ён узнёслы, самазадаволены не то маладосцю, не то жцццём. Дый самі вочы светлыя. У Франнішка ж яны былі шэрыя, сумотныя. І яшчэ. Здымачак з даравальным надпісам. Ён для нас вельмі важны, таму працытуем яго цалкам: «На памяць каханай сястры Ганне ад брата» і пакручасты, з не вельмі чытэльнай першай літарай роспіс. І ўсё ж прачытваем: «A. Boh... 24 верасня 1876 года». Вось гэтае «A» якраз і не дае магчымасці пагадзіцца з дзядзькам Янкам. З гэтай прычыны ён, гэтак жа, як і я, крыху расчараваны. Абодвум вельмі ж хацелася, каб гэта быў Францішак, тым больш што паэтавай выявы 1876 года мы не маем, але, на жаль, гэта не ён, а яго брат Апалінар.

«А мне мама ўвесь час казала, што гэта Францішак,— усё яшчэ з шкадаваннем у голасе кажа дзядзька Янка.— Яна вельмі берагла гэтыя здымачкі. Перахоўвала іх з рознымі сваімі памёнткамі ў невялікім куфэрку. Той куфэрак яна пільна глядзела. Яна яго

прывезла з сабою ў Польшчу ў лютым 1946 года. Там і цяпер яшчэ сёе-тое ёсць з бацькавых папераў, розныя здымкі: бабчыны, Туніны, маміны, Франкавы... От мама б шмат чаго магла расказаць пра кожнага з іх. І жыла яна доўга — семдзесят дзевяць гадоў. Памерла ў 1961-м. Багушэвіча і яго братоў пэўне што ведала і бачыла. У 1900 годзе ёй было васемнаццаць...»

Што ж, сапраўды дачка Багушэвічавай сястры Ганны Мар'я магла шмат чаго расказаць нам новага. Але страчанага не вернеш, таму будзем гаварыць пра тое, што памятаецца трэцяму пакаленню людзей. Я паказваю дзядзьку Янку публікацыю Антановічавага апавядання пра Багушэвічаву бібліятэку, і пытаюся, ці можа ён што дадаць.

— Ну, што ж тут дадаваць? — скончыўшы чытанне, кажа разважліва дзядзька Янка.— Усё праўда, усё так і было, як тут апісана, як расказаў Антановіч. Багушэвічавы кнігі па смерці паэтавай дачкі, а маёй цёткі Туні, перайшлі да мяне. Толькі не адзін Антановіч браў у мяне Багушэвічавы кнігі. Быў з ім і Пецюкевіч, школьны інспектар з Ашмяны. З ім пазнаёміў мяне Зыгмунт Абрамовіч, яшчэ адзін Багушэвічаў унук, які ў тую пару таксама жыў у Ашмяне. Вось яны і ўзялі ў мяне цэлы мех Багушэвічавых кніг. Здаецца, гэтыя кнігі, як памяткі, яны меліся вывезці ў Вільню ці яшчэ куды. Які іх лёс — не ведаю. Рэшту, як ішоў у сорак чацвёртым на вайну, выбраў з скрыні, звязаў у мяшок, каб мышы не стачылі, падвесіў, от так, у пуні, пад бэльку. Былі там, юрыдычныя, праўнічыя кнігі: законы розныя, кодэксы... Вось гэтыя... Памятаю, што на ўсіх была пячатка — «Францішак Багушэвіч», выціcканая такая. Пераважалі кнігі расійскія. Разам з Багушэвічавымі ксёнжкамі былі і мае, якія мне за Багушэвічавы далі Антановіч і Пецюкевіч. А далі яны мне, помню, «Хрэстаматыю беларускай літаратуры»... Затым — «Гісторыю беларускай (крыўскай) кнігі»... Вялікая такая, тоўстая кніга была. Я, браце мой, люблю чытаць беларускія кнігі, даўно маю да іх інтарэс. Ведаў творы Алеся Гаруна, Леапольда Родзевіча, Міхася Васілька, Францішка Аляхновіча і шмат каго іншых. З маленства цікавіўся беларускай гісторыяй, даўнейшай і цяперашняй. Між іншым, мой татка таксама быў вялікі аматар беларускіх ксёнжак. Ён не толькі чытаў сялянам Багушэвічавы вершы, але і быў кнігаром беларускім у Ашмяне, прадаваў беларускія кніжкі. Пра гэта нават пісалася ў «Беларускім календары» на 1922 год. У мяне дзесьці ёсць такая старОначка, дзе пра яго пісалася. Дык я і татавы кнігі ў той мех, у той ворак склаў. Але ўсе мае старанні пайшлі прахам. У Беларусь я больш не вярнуўся, застаўся ў Войску Польскім, затым

перайшоў на гаспадарку. Наша маёмасць у Асінаўцы разам з Багушэвічавымі кнігамі перайшла да Чайкоўскай Станіславы. Чайкоўшчанка была наша выхаванка. Яна зберагла Багушэвічаў сямейны альбом. Ну, а што з кнігамі сталася, вы ўжо ведаеце... яны загінулі. Вінаватыя ў гэтым і паэтавы сваякі. Не перадалі ў сваю пару яго спадчыну ў надзейныя рукі, хоць да іх не раз звярталіся. Не шанавалі яны Францішка як паэта... Таму шмат чаго і загінула. І не толькі кніг,— кажа з дакорам і смуткам дзядзька Янка.— У гэтым была іх цэлая бяда. Яны не хацелі прызнаваць сябе беларусамі. Усе ў адно, палякі, дый канец, і палякі дый усё, хоць ім ты што тут. А што дзед іхні пісаў па-беларуску, дык гэта, яны лічылі, усяго толькі забава пісьменніцкая, пацеха. Гэта проста так...»

Шмат чаго і іншага расказаў дзядзька Янка пра Багушэвічаў і іх сваякоў. Асабліва шмат чаго ўспомніў, калі гартаў стары Багушэвічаў сямейны альбом, той самы, што спачатку перахоўваўся ў Тарчэўскіх, а затым у Чайкоўскіх. Найбольш гэта былі звесткі пра другое і трэцяе пакаленне Багушэвічаў. Усе гэтыя звесткі вельмі цікавыя. Наведалі мы з ім яго родныя мясціны, чыталі і перачытвалі праўдзівыя Багушэвічавы творы. Знаёміліся з шматлікімі дакументамі. Гэта была надзвычай цікавая праца! Да кожнага з іх дзядзька Янка даваў свой каментарый, удакладненні, выказваў свае думкі, свой погляд.

Паехаў дзядзька дадому, у невялікі, пад Шчэцінам, гарадок Хошчна, акрылёны, напоўнены яшчэ большым усведамленнем свае прыналежнасці, свае лучнасці з Багушэвічамі. У вандроўніцкай замежнай торбе ён павёз з Беларусі цэлую гару беларускіх кніг. Сярод іх — беларускія казкі, кніжкі прафесара Янкоўскага, новае выданне Купалавай паэмы «Адвечная песня», славутую паэму Міколы Гусоўскага «Песня пра зубра» і, вядома, ж, кніжкі свайго дзеда. «Што сам пачытаю, што іншым пакажу»,— сказаў ён на развітанне.

Абяцаў пасля вяртання ў Польшчу расшукаць усіх, хто меў хоць якое дачыненне да Багушэвічавай спадчыны, каб сабраць да драбніц усе звесткі пра бацьку беларускага адраджэння Францішка Багушэвіча і пра тое асяроддзе, у якім ён жыў і працаваў.

## ТЭНЧЫНА

Багушэвічаў прыяцель Зыгмунт Нагродскі ў сваіх успамінах, якія былі надрукаваны ў «Запісах Беларускага навуковага таварыства» (Вільня, 1938), згадвае, што ў нашага песняра на Смаргоншчыне было трывалае сяброўства і з сям'ёю Ваўчацкіх. Жылі гэтыя Ваўчацкія ў Тэнчыне (у тутэйшым вымаўленні — Тынчына, у «Слоўніку

геаграфічным Каралеўства Польскага і іншых славянскіх краёў» — Тэнчын).

Тэнчына — невялікі фальварак над гаманкой рачулкай Абрагамаўкай поблізу Крэва. У 1892 годзе ў Тэнчыне быў адзін дом з гаспадарчай забудовай. Жыло тут дзесяць душ. Паводле слоў таго ж Нагродскага, з Ваўчацкімі Францішак Багушэвіч спатыкаўся найчасцей за іншых сваіх суседзяў, хоць іхнія фальваркі былі не так ужо блізка.

Што ж паяднала Багушэвічаў з Ваўчацкім?

Знаёмства з рознымі матэрыяламі і развага над імі наводзіць на думку, што паміж Багушэвічамі і Ваўчацкімі было якоесь сваяцтва. Але не толькі на сваяцтве трымалася іх шчырая повязь. Гаспадар Тэнчына Лявон Ваўчацкі, паводле таго ж З. Нагродскага, любіў беларускае слова, ведаў на памяць Багушэвічавы творы, часта дэкламаваў іх. Гэтую сваю любасць да беларускага паэтычнага слова Ваўчацкі перадаў усім у сваім доме. Усе Ваўчацкія ганарыліся, што іхні сваяк праз мастацкае слова змагаецца за справядлівасць між людзьмі, стаіць гарою за праўду. Мусіць жа, невыпадкова ў сямейным альбоме Багушэвічаў надзвычай шмат фотаздымкаў Ваўчацкіх. Тут і Міхал Ваўчацкі, і Ігнат, Міхаліна, нехта Э. Ваўчацкая... Амаль на ўсіх гэтых здымках паметы — сваякі Ф. Багушэвіча, пляменнік, пляменніца паэтавай жонкі.

Але ж дзе тое Тэнчына цяпер?

На жаль, як геаграфічная назва яно перастала існаваць даўно. Знікненне Тэнчына звязана з тымі сацыяльнымі і палітычнымі зменамі, якія адбываліся ў Заходняй Беларусі пасля верасня 1939 года.

Фальваркі, засценкі, аколіцы не адпавядалі калектывісцкім формам жыцця. Канчаткова ж Тэнчына як паселішча было вынішчана апошняй вайной. І хоць ведаем, што двор Тэнчына даўно не існуе, а ўсё ж цягне зірнуць на тую мясціну, дзе жылі Ваўчацкія, дзе не адзін раз былі Багушэвічы. Гэтая мясціна пры самай дарозе з Крэва на Смаргонь, побач з вёскай Наваспаск. Цяпер на сядзібе Ваўчацкіх ніякай, апрача гаспадарчай, забудовы няма. А некалі тут быў бровар, вялікі сад, добра радзіла бульба. Яшчэ Тэнчына было слаўнае тым, што ў яго наваколлі шмат сеялі лекавых траў. Гістарычнай славутасцю ў гэтых мясцінах быў старажытны уніяцкі касцёл. Між іншым, пра уніяцтва Ф. Багушэвіч згадвае ў вершы «Свая зямля». Ці не наведванне Тэнчына навеяла Багушэвічу гэтую тэму?

А як склаўся лёс саміх Ваўчацкіх?

Як гэта ні дзіўна, але ў суседніх з Тэнчынам вёсках — Наваспаску, Багушах, Алешачках — з Ваўчацкіх найперш памятаюць найстарэй-

шага з іх — Лявона, хоць ён з часу першай імперыялістычнай вайны тут не жыў. Праз Тэнчына і Крэва пралёг фронт, і Лявон Ваўчацкі пераехаў пад Маладзечна, у Маліноўшчыну. У Тэнчына вярнуўся на пачатку саракавых гадоў. З іншых Ваўчацкіх называюць Лявонавых дзяцей Туміру, Манюту, сына Андрэя. Прыгадваюць, што была ў Лявона Ваўчацкага яшчэ старэйшая дачка — Юля. Пра яе расказваюць, што яна вучылася не то ў Варшаве, не то ў Пецярбургу, мела доўгую касу. Ці не тая Юля, з якой узяў шлюб Габрыель Радзевіч? Нехта з Ваўчацкіх жыў у Гародзьках на Валожыншчыне.

У жыхароў навакольных з Тэнчынам вёсак самыя лепшыя згадкі пра Ваўчацкіх, асабліва пра Багушэвічавага сябра — Лявона: «Неблагі быў чалавек. Не раўня іншым. Яму не трэба было кланяцца, паклоны не патрабаваў. Каму цяжка было, памагаў. Трэба вясну датачыць, да Ваўчацкага ідзеш. Заўсёды дасць, чаго папросіш — жыта якога ці яшчэ чаго. З людзьмі гаварыў па-беларуску, гаварыў проста...»[18].

Усе гэтыя згадкі прыемна чуць. Яны яшчэ раз падмацоўваюць думку Францішкавых сучаснікаў, што Багушэвіч быў пераборлівы на сяброў, сыходзіўся толькі з тымі, хто быў сугучны яму. Такім чалавекам, пэўна ж, быў і гаспадар Тэнчына Лявон Ваўчацкі.

## КРАПІЎНА

Гэтую назву, мы ўпэўненыя, ведае амаль кожны, хто часта ездзіць старым віленскім гасцінцам. Яна кідаецца ў вочы з дарожнага паказальніка кожнага разу, як толькі выскокваеш з-за крутога, падобнага да лацінскай літары «S» павароту ля чыгуначнага пераезда за Смаргонню. Але звычайна мы не звяртаем на яе асаблівай увагі. Падумаеш, нейкае там Крапіўна!.. Да ўсяго ж, самой вёсачкі з дарогі не відаць, хоць ад яе да гасцінца мо якая сотня крокаў. Вёсачку гэтую ад людскога вока схавала вузенькая, як шнурок, палоска лесу. Можа, таму гэтае Крапіўна і сёння мала каму вядомае, хоць яно і пры самым тракце. Мабыць, і нас Крапіўна не вельмі зацікавіла б, калі б у адным дакуменце Ашмянскай следчай камісіі за 1863 год не вычыталі, што тут у сярэдзіне мінулага стагоддзя жылі Багушэвічавы сваякі. Прозвішча іх было Баброўскія. З тых самых дакументаў відаць, што Багушэвічы і Баброўскія сябравалі між сабой, ладзілі, часта бывалі адны ў адных. Балазе ад Крапіўна да Кушлянаў напрасткі ўсяго нейкіх пяць кіламетраў. З усіх Багушэвічавых сваякоў з Крапіўна да нас дайшло найбольш звестак пра Ганну

---

[18] Успамін жыхара Наваспаска І.К. Русака.

Баброўскую. І вось чаму. Ганна часта любіла гасцяваць у Кушлянах. Кушляны ёй вельмі падабаліся. Падабалася ёй і дружная, згуртаваная сям'я Багушэвічаў. «Паненка Баброўская,— казаў Францішкаў бацька,— бывала ў мяне часта, дзён па пяць». Падчас адной такой гасціны яна сустракалася з паўстанцамі, гутарыла з імі, была ім за сувязную, і яе разам з Францішкавай сястрой арыштавалі і аддалі пад суд. Мы не будзем падрабязна апісваць, як праходзіла следства. Скажам толькі — дзяўчына на допыце трымалася мужна, ні ў чым не прызнала сябе віннай.

У пару Францішкавай маладосці Крапіўна лічылася шляхецкай аколіцай. Гаспадарыў там Аляксандр Баброўскі, Ганнін бацька. Пра маці ведаем толькі, што яна была ўстрывожана арыштам дачкі і рабіла ўсялякія захады, каб неяк даказаць следчай камісіі, што арышт яе дачкі ў Кушлянах — выпадковасць, нейкае непаразуменне: была ў гасцях і па наіўнасці сваёй, з-за цікаўнасці, хадзіла ў лес да паўстанцаў. Камісія гэтых довадаў і слухаць не хацела. Яна мела пад рукамі дакументальнае сведчанне, што Ганна Баброўская сустракалася з паўстанцамі не толькі ў Кушлянах. Бачылі яе і з паўстанцкім цывільным начальнікам Ашмянскага павета Беніслаўскім у Солах. Цэлы год Ганна Баброўская разам з Багушэвічамі — Францішкавай сястрой, яго братам і бацькам адседзелі ў адным астрозе. І толькі ў снежні 1864 года, змэнчаныя і спакутавапыя, але няскораныя, вярнуліся яны ў свае родныя мясціны.

Францішак Багушэвіч, які сам моцна напакутаваўся ў калатнечы паўстання 1863 года, безумоўна, быў неабыякавы да лёсу сваёй мужнай сваячкі, цікавіўся яе жыццём. Ён ведаў яе з маленства. Гулялі з ёй у адны гульні. Ганна Баброўская была амаль Францішкава равесніца. У 1863 годзе, як сведчаць следчыя дакументы, ёй было дваццаць гадоў. Пасля вызвалення з астрога за Ганнай быў прызначаны паліцэйскі нагляд. У Крапіўне, гэтак жа, як і ў Кушлянах, замаячыла постаць паліцэйскага...

У 1863 годзе ў Крапіўне было адзінаццаць двароў, жыло сто трыццаць сем жыхароў. Жылі мірна ў спрадвечным сялянскім клопаце. Якое ж яно сёння гэтае Крапіўна? Ці памятаюць штокольвек пра Баброўскіх?

На жаль, ніхто з сённяшніх жыхароў не памятае згаданага прозвішча. Але высветлілася другое. У Крапіўне жывуць Восіп і Мар'я Васілеўскія. Яны лічаць сябе далёкімі сваякамі Багушэвічаў. Нязмушаная размова з імі штрых за штрыхом падмацоўвала гэтае іхняе сваяцтва. Васілеўскія згадвалі, як прыязджала ў Крапіўна Багушэвічава дачка Туня з сынам Франусем, што яны рабілі, што гаварылі. Памятаюць

нават некаторыя рэплікі з іх размоў. У Краніўне Тунін сын Франусь, напрыклад, часта, прыехаўшы, узбіраўся на зэдлік, працягваў руку ўгору і казаў: «Тоба да бэлькі не достал».

— Туня,— расказваюць Васілеўскія,— прыязджала ў Крапіўна да сваіх крэўных Галаўнёў.

— А з Галаўнёў мая бабулька,— удакладняе дзед Восіп.— Звалі яе Эміля. Вось яна, а таксама яе сёстры — Галаўнянкі Француся і Альжбета — і расказвалі нам шмат чаго пра Багушэвічаў. Казалі, што Францішак давучваўся на Украіне, быў у паўстанні...

Шмат чаго і іншага расказвала Юзуку бабуня.

— Але хіба запомніш усё? — кажа дзед Восіп і, нібы між іншым, павольна, нетаропка пачынае расказваць Багушэвічавы вершы: «Да дзяўчат» («Сватаная»), «Да хлопцаў» («Сватаны»). Затым прыгадаў «Панскае ігрышча» і яшчэ колькі зусім незнаёмых вершаў. Адзін з іх, як мне падалося, нязнаны ў нашай літаратуры, я выпісаў сюды. Называецца ён «Пасля паншчызны».

— Як сень мася, муй васпане?
— От жыву сабе, мой пане.
— А як мася тва Дарота,
Ходзіць до мне на работа?
Косіць, ворацьпільна тшэба,
Дам пенензы, дам і хлеба.
— А ўжо дось нам, паньскі хлеб дакучыў,
Калі пан нас так цяжка мучыў.
Цэлы дзень трэба рабіць,
А ўвечар спадзявайся — будуць біць.
— Зато тэраз ест свабодны,
Маш пенензы, не есты глодны.
Сам свабодны, дзеці твоя.
А то вшыстко пшэстаранне моя.
— Дык нашто ж так дарма людзей зводзіць,
Калі воля ж ад вас паходзіць?
Чаму ж, як ад паноў аднялі нас,
Дык усе паны пайшлі ў ляс?
— Ты не разумеш тэго:
Цо до лясу, то цусь другего.
Бо кто з нас мял веле сілу,
Хцял заслужыць собе чыну.
— Дык не чыны ж вам былі ў мыслі,
Калі вы ў лес павыйшлі.

І каб войска вы разбілі,
Ізноў бы паншчыну зрабілі.

— Гэтыя вершычкі я павывучваў з татавага сшытка,— кажа дзед Восіп.— Быў у нас такі грубы, з цупкой вокладкай сшытак, і я яго часта чытаў. Былі там вершы і па-польску, і па-беларуску. Было шмат і такіх, як я вам прачытаў: пан гаворыць па-польску, а мужык па-беларуску...

Пра вершы слухаць цікава. Але мы пакуль так і не высветлілі, праз каго парадніліся Багушэвічы з Баброўскімі.

— Хіба толькі праз Галаўнёў,— выказваюць сваё меркаванне ВасілеўскІя.— Іншых людзей мы ў Крапіўне не бачым. За нашай памяццю ў Крапіўне жылі Францыся, Альжбета і мая бабуня — Эміля.

І гэтае меркаванне вельмі верагоднае.З Галаўнёў паходзіла Францішкава маці. Мабыць, і Аляксандр Баброўскі ўзяў сабе за жонку кагосьці з Галаўнянак, і гэта парадніла Крапіўна з Кушлянамі. Таму і не дзіўна было ў свой час напаткаць Багушэвічаў у Крапіўне, а Баброўскіх у Кушлянах.

## НЕСПАДЗЕЎНАЯ РАЗМОВА

Рыхтавалі адну з першых тэлевізійных перадач пра Францішка Багушэвіча для школы. Старшы рэдактар Лізавета Скачкоўская пільна ўслухоўвалася ў нашу гаворку, затым далікатна сказала:

— Вось вы гаворыце пра Багушэвіча, а мне прыгадваецца, як яшчэ была малая, дык была ў нас нянька Юля. Дык яна казала, што ведала нейкага Мацея Бурачка, і ўсё нам расказвала пра яго, што быў ён вельмі хворы, стары, нямоглы, не мог сам апрануцца — усё яму балела, з печы не злазіў...

Тады я гэтаму апавяданню не надаў вялікага значэння. Падалося яно мне нейкім змрочным дый не вельмі значным. Уразіла яно і якімсь фаталізмам, жыццёвай безвыходнасцю. Пра Мацея ж Бурачка ва ўсіх склалася ўяўленне як пра асобу актыўную, як пра заступніка народнага, змагара. А тут раптам яго чалавечая бездапаможнасць, хваравітасць... Не хацелася пра гэта людзям расказваць. Але намнажаліся пра апошнія гады жыцця Ф. Багушэвіча ўсё новыя і новыя звесткі. Яны падмацоўвалі згадкі нянькі Юлі. Так, у апошнія гады Ф. Багушэвіч хварэў, усё яму балела, быў апухлы, а затым высах, як аплатак. Захацелася больш падрабязна распытацца пра гэтую няньку. Хто яна, адкуль? Дзе бачыла Мацея Бурачка? Як патрапіла да

Скачкоўскіх? З якой нагоды расказвала дзецям пра апошнія дні жыцця песняра з Кушлянаў?

На жаль, пытанні гэтыя намроіліся ў галаве ў тую пару, калі Лізаветы Скачкоўскай ужо не было сярод жывых. Яна памерла ў 1973 годзе, на пяцьдзесят дзевятым годзе жыцця. Але жыла і працавала яе малодшая сястра Зінаіда Канстанцінаўна Скачкоўская, заслужаны работнік культуры БССР, памочнік рэжысёра Купалаўскага тэатра. Вырашыў пацікавіцца ў яе, ці не памятае яна чаго-кольвск з таго, што расказвала калісь мне яе сястра. Калі збіраўся званіць да Зінаіды Канстанцінаўны, падкралася трывога: а раптам яна пра гэта нічога не ведае, і тады распачатае і не да канца распытанае апавяданне так і застанецца назаўсёды нясканчанае.

На шчасце, Зінаіда Каыстанцінаўна памятала сваю няньку. Памятала і ўсё тое, што яна расказвала ім, малым, пра Мацея Бурачка. Яе расказ быў амаль слова ў слова такі, як і яе сястры. Але было сёе-тое і новае. А найперш пра саму Юльку. Родам яна была з тых самых мясцін, адкуль і Багушэвіч, недзе з-пад Кушлянаў. Да Скачкоўскіх прыбілася ў Граўжышкі. «Гэта пблізу самых Ашмянаў,— прыгадвае Зінаіда Канстанцінаўна.— Прозвішча яе было Сняжко Юліяна Сільвестраўна. Яна дый мама наша часта, даглядаючы дзеці, казалі: «Што вы папрыбіраліся, як Мацей Бурачок?!» А тата наш, быў ён гэтак з года тысяча восемсот семдзесят трэцяга, лесніком служыў, папраўляў яе, казаў: «Мацей Бурачок — гэта вам не які-небудзь мужычок... Гэта — паэт, і вялікі паэт. Ён хацеў, каб мы, простыя людзі, жылі вольна, шчасліва. За гэта ён змагаўся і пакутаваў...»

І яшчэ Зінаіда Канстанцінаўна згадвае, што нібыта Мацей Бурачок — пра гэта яна таксама ад таты свайго чула — часам наязджаў у Граўжышкі, да граўжышскага пана. Тут быў маёнтак. Дык Багушэвіч хадзіў па вёсках, запісваў розныя апавяданні, апранаўся ва ўсё вясковае — у світку грубую, з шарачку. Так яго тут і запомнілі. Многія не разумелі, навошта пану ды ў сялянскае апранацца. Лічылі за дзівацтва. Так успрыняла Мацея Бурачка і нянька Юля. Гэтае сваё ўспрыманне яна хацела перадаць і дзецям Скачкоўскіх. «Добра, што тата наш быў дасведчаны,— зазначае Зінаіда Канстанцінаўна,— і звёў нам розныя паэтавы імёны і ўяўленні пра яго ў адно — Францішак Багушэвіч».

## ПРЫСТАНАК АШМЯНЫ

Здарылася так, што гэтая геаграфічная назва надоўга, амаль да апошняга часу, выпадала з Багушэвічавай біяграфіі, з абсягу мясцін,

звязаных з яго імем. І вінаватая ў гэтым перш за ўсё сама гісторыя з геаграфіяй. Справа ў тым, што ў Багушэвічаву пару не было поблізу Кушлянаў станцыі з назваю Ашмяны. Была толькі станцыя Солы. Менавіта назва гэтай станцыі ўвесь час фігуруе ў Багушэвічавых паперах. Так, напрыклад, дасылаючы лісты сваім сябрам з Кушлянаў у Вільню, Францішак Багушэвіч заўсёды зазначаў, каб тыя пісалі яму на адрас: «ст. Солы праз Жупраны». Такі ж адрас— «ст. Солы (Віленскай) праз Жупраны» — Багушэвіч пакінуў і ў камісіі прысяжных паверанных. Гэтая акалічнасць і кіравала нашу думку на станцыю Солы, што побач з аднайменным мястэчкам. Балазе гэтая станцыя бліжэй да Кушлянаў — усяго сем-восем кіламетраў. З ашмянскай жа станцыі да Кушлянаў — кіламетраў з семнаццаць. І Францішку Багушэвічу, натуральна, было больш выгадна карыстацца сольскай станцыяй, а не ашмянскай. Вось і выходзіць, нібыта Францішак Багушэвіч сапраўды не меў ніякага дачынення да станцыі Ашмяны. Але на самой справе менавіта пра ашмянскую станцыю ідзе гаворка ў Багушэвічавых лістах. Менавіта паслугай гэтай станцыі карыстаўся ён. Увесь сакрэт у тым, што ў Багушэвічаву пару сённяшняя станцыя Ашмяны мела назву Солы. У саміх жа Солах не было прыстанку, быў толькі раз'езд з невялікаю, № 12, казармай для пуцейцаў, якую пазней абсталявалі пад станцыю. Вось з гэтай прычыны і адбываецца пэўная блытаніна і ў Багушэвічавай біяграфіі, і ў людской арыентацыі.

Упершышо Францішак Багушэвіч ступіў на пероны гэтай станцыі ў 1874 годзе, калі пасля доўгага расстання з роднымі мясцінамі атрымаў першы свой адпачынак і чыгункаю прыехаў з Украіны на Беларусь. Гэтая паездка яму тады добра запомнілася. На Украіну ён дабіраўся коньмі. Ехаў доўга, некалькі дзён. Назад вярнуўся за якія паўтара сутак, на паравых конях, па толькі што збудаканай Лібава-Роменскай чыгунцы. За гэты час тутэйшая мясціна непазнавальна змянілася. Сярод лесу паўсталі акуратненькія станцыйныя будынкі. У наваколлі запахла вугалем і мазутам. Усё гэта было новае для тутэйшага краю. З тае пары станцыя Солы (Ашмяны) трывала ўвайшла ў Багушэвічаў жыццёвы побыт. Асабліва часта ён карыстаўся яе паслугамі, калі пачаў стала жыць у Вільні. Праз яе ён адно і трымаў сувязь з Кушлянамі. З Вільні праз ашмянскую станцыю хадзіла шмат пасажырскіх, паштовых, хуткіх і іншых цягнікоў — камбінаваных, змешаных. Багушэвіч не глядзеў на іх класы і прызначэнні. Ездзіў у Кушляны тымі, што былі зручныя ў часе. Такі быў паштовы № 4. Ён выходзіў з Вільні а пачатку чацвёртай пецярбургскага часу і прыходзіў на станцыю Солы дзесьці а пятай

гадзіне дня. Быў і ранішні цягнік, хуткі. Ён хадзіў з Вільні пад № 2 і ў Солы прыбываў апоўдні. На станцыі Багушэвіча звычайна сустракаў хто-небудзь з сваякоў. Яны садзіліся на фурманку і далей дабіраліся да Кушляпаў конна.

Дарога з станцыі была ў бярозавых абсадах, ішла праз лес, прыгожы, чысты, стройны, суцішны і вясёлы.

Міналася вёска за вёскай — Баранцы, Байцюлі, Жупраны, Замасцяны, Марымонты, Паройсці. А там ужо недалёка і яго родныя Кушляны.

А праз колькі дзён, спачыўшы трохі, Багушэвіч вяртаўся на станцыю тым самым бітым гасцінцам. І гэта паўтаралася па некалькі разоў на год на працягу цэлай чвэрці стагоддзя. Станцыйнае начальства лічыла Францішка Багушэвіча сваім сталым пасажырам і заўсёды сустракала яго радасна і пачціва. Асаблівую павагу да Багушэвіча меў начальнік станцыі Восіпаў. Згледзеўшы яго постаць, ён кіраваўся да Багушэвіча, падаваў яму руку, распытваў пра віленскія навіны.

Станцыя Ашмяны (Солы) была сведкам і жалобы па Багушэвічу. Менавіта тут у канцы красавіка 1900 года выйшла віленская дэлегацыя рабочых, рамеснікаў і маладых адвакатаў з вянкамі і стужкамі, каб прыняць удзел у пахаванні паэта.

...Сёння праз станцыю Ашмяны, як і за Багушэвічавым часам, імчаць і імчаць цягнікі. Праўда, не тыя ўжо вагоны грукочуць па рэйках, не тыя выходзяць тут і пасажыры.

А ўсё ж Багушэвічаў дух адчуваецца тут скрозь. Ён у думках і ўяўленнях і ў жыхароў станцыйнага пасёлка, і ў сэрцах усіх тых, хто прыязджае на гэтую станцыю, каб адсюль пачаць сваю вандроўку па той зямлі, дзе некалі хадзіў вялікі пясняр беларускага народа.

## ПОЛАЦКІЯ ІМПУЛЬСЫ

Каму даводзілася хоць адзін раз сустракацца ў нязмушанай гутарцы з нашым вядомым мовазнаўцам і паліглотам Пётрам Садоўскім — а ён ведае, нам на радасць, апрача нашых моў, яшчэ нябдага нямецкую, іспанскую, чытае таксама па-англійску — мусіць, заўважылі, што ён любіць чытаць ці, больш дакладна, расказваць як народнае апавяданне ці казку Багушэвічаў верш «Здарэнне». Напачатку я не прыдаваў гэтаму асаблівага значэння. «Падумаеш, Пётра Садоўскі, філолаг, чытае Багушэвічаў верш. Так яно і павінна быць. Вывучыў у школе, нечым упадабаў, таму і чытае». Але аднаго разу — было гэта на Купалаўскіх чытаннях у педінстытуце імя

Максіма Горкага — ён паказаў мне рукапіс сваёй мовазнаўчай працы «Жыццё слова» для «Вобраза — 83». Я з цікаўнасцю пагартаў яго і раптам у адной мясціне прачытаў: «Так уваходзіла ў нас слова Багушэвіча, Купалы, безыменных аўтараў, якіх маці чытала нам з памяці. Гэта былі «Ехаў я ад Кяны ды на Смаргонь», «Ігрышча», «Тарас на Парнасе». Прачытаў і здзівіўся: «Дык вунь адкуль ідзе гэтае чытанне — ад маці пераняў!» Я ведаў, Пётра Садоўскі з Полаччыны. Звычайна ж рэгіёнам пашырэння Багушэвічавай творчасці да выхаду яго кніг кірыліцай (1922) лічылі Ашмяншчыну, Лідчыну, Віленшчыну, Свянцяншчыну. А тут, высвятляецца, аж да Полацка сягаў Мацей Бурачок, і я папрасіў Петруся расказаць больш падрабязна, як да яго прыйшоў гэты Багушэвічаў верш.

«Верш гэты,— сказаў ён,— ведаю з малых гадоў — навучыўся ад мамы. А яна ад нейкага пана пачула. Маму маю звалі Наталля, па-вясковаму — Наталля Вінчыха. Яна з 1903 года. Жыла ў Будзькаўшчыне. Недалёка быў панскі двор, то як наставала лета і пачыналіся ягады, дык яна, як і ўсе падлеткі, яе аднагодкі, звычай тады такі быў, насіла пану першыя ягады ў двор. А ў таго пана быў сын. Дык да яго прыходзіў друг і паніч, з суседняга маёнтка ці фальварка. Вучыўся ён у Пецярбургу ці яшчэ дзе і кожнае лета прыязджаў у гэтыя мясціны на вакацыі. Ён і чытаў вясковым дзяўчатам, што прыносілі ягады, гэтыя вершы. Чытаў і расказваў. Усім гэта было цікава. Чытаў па-руску і па-беларуску. То і мама мая навучылася там гэтаму вершу. Ведала яна і «Тараса на Парнасе» і шмат чаго іншага...»

Звесткі гэтыя цікавыя для нас не толькі тым, што пашыраюць нашае ўяўленне, дзе і як распаўсюджваліся творы Мацея Бурачка. Яны адкрываюць нам і якісь цэлы літаратурны асяродак на Полаччыне. Вось каб яшчэ высветліць, што гэта былі за людзі, якія пашыралі тут творы беларускай літаратуры сярод простага люду! Да гэтай гаворкі мы з Пётрам Садоўскім вярталіся не адзін раз. Неўзабаве выйшла кніжка Генадзя Каханоўскага «Адчыніся, таямніца часу». Прачытаўшы яс раздзел «Рукшаніцы і Вухвішча», Петра сказаў: «Як цяпер я разумею, усё, пра што расказвала мая мама, было ў Вухвішчы, дзе калісь жыў і служыў Фелікс Тарчэўскі. Распачатыя ім літаратурныя традыцыі ў канцы мінулага стагоддзя, як бачым, не прыпыняліся тут і пазней. На Полаччыне ж было і Залессе Браніслава Эпімах-Шыпілы, і Будзькаўшчына. Так што нічога дзіўнага, што ў гэтым кутку жыло сярод простага люду беларускае літаратурнае слова». Ад сябе дадамо: у нашаніўскую пару ў Вухвішчы жыў нехта І. Манькоўскі. Ён карэспандаваў з «Нашай Нівай», выпісваў беларускія

кніжкі, календары, пашыраў іх у навакольных вёсках, чытаў сялянам. Так што было каму ў часы маленства і юнацтва Пётравай маці на Полаччыне, без школы і кніг, пашыраць творы беларускага пісьменства. І, як бачым, простыя людзі вельмі гарнуліся да мастацкага слова, мелі вялікую цікавасць і замілаванне да яго.

## ТАДЭВУШ УРУБЛЕЎСКІ І ІНШЫЯ

У дзесятым нумары «Маладосці» за 1976 год былі надрукаваныя цікавыя ўспаміны старога віленскага адваката Гаўрылы Іванавіча Царыка. У іх ён расказваў пра сваё знаёмства з Янкам Купалам, Змітраком Бядулем, пра сувязь з «Нашай Нівай». Было ў тых успамінах і колькі радкоў пра яго адвакацкую практыку. Натуральна, той факт, што Гаўрыла Іванавіч працаваў у віленскай адвакатуры, у віленскім акруговым судзе, нас не мог не зацікавіць. Яшчэ ж зусім нядаўна (Гаўрыла Іванавіч прыступіў да адвакацкае практыкі ў 1909 годзе) пры гэтым жа судзе служыў прысяжным паверанным і наш пясняр Ф. Багушэвіч. Таму з хваляваннем падумалася: «А ці не чуў раптам Царык чаго-небудзь у Вільні пра нашага песняра?» Не адкладваючы на далёка гэты пільны клопат, я і завітаў да Гаўрылы Іванавіча. На жаль, на маё пытанне ён адказаў, што пра Багушэвіча яму нічога ў Вільні не даводзілася чуць. Расчараваны няўдачай, я ўжо хацеў развітацца з ім. Але тут жа падумаў: «Ну і што тут такога, што Гаўрыла Іванавіч не чуў нічога пра Багушэвіча... Усё магло быць. Але затое ён, пэўна, ведаў хоць каго з тых адвакатаў, з якімі сябраваў наш паэт. А гэта таксама немалаважна для разумення Багушэвічавай асобы і таго асяроддзя, у якім ён жыў. Бо нездарма ж кажуць, скажы хто ты, і я скажу хто твой сябра». Таму я прашу Гаўрылу Іванавіча прыгадаць прозвішчы тых адвакатаў, якія яму помняцца. І першым ён назваў Тадэвуша Урублеўскага. Я аж прасвятлеў з радасці.

...Тадэвуш Урублеўскі. Ну, безумоўна ж, гэта той самы Урублеўскі, імя якога колькі разоў прыгадваецца ў нашым літаратуразнаўстве ў самых розных стасунках з імем Ф. Багушэвіча і, як вядома, у розных трактоўках. Цікава, якім жа запомніўся гэты адвакат Г. Царыку.

«Гэта быў выдатны крыміналіст,— коратка ахарактарызаваў яго дзейнасць Гаўрыла Іванавіч.— Ён меў вялікую практыку, і мы ўсе яго любілі і паважалі, старога халасцяка. Звалі яго Тадэвуш Яўстафавіч... У маю пару ён быў ужо даволі сталы чалавек... Насіў бараду... Барада, праўда, была доўгая, але не густая. Між сабою мы яго называлі «пан Тадэвуш»... Як вы здагадваецеся, па аналогіі з аднайменным героем Адама Міцкевіча... Любіў наш Тадэвуш Яўстафавіч наладжваць

розныя гулянні, банкеты. Асабліва шумна праходзілі так званыя «кілбасы» — дзень 5 студзеня, калі вадохрышча сустракалі... Свята такое даўней было... Звычайна ў гэты дзень у доме Тадэвуша Яўстафавіча, што быў недалёка ад губернатарскага палаца, збіралася шмат гасцей — амаль уся віленская адвакатура... Весяліліся ўсю ноч... Бывалі тут і госці з Менска, Коўна, Гародні... Кожны лічыў за гонар быць запрошаным у дом Тадэвуша Яўстафавіча. А трэба сказаць, што жыў ён заможна... Адных пакояў меў не менш як нятнаццаць... Ці не ўвесь другі паверх займаў... Звычайна пасля застолля рабіўся іх агляд... І кожны знаходзіў для сябе тут што-небудзь цікавае... А між іншым, Тадэвуш Яўстафавіч быў заўзяты масон, і ўвесь дом яго быў у масонскіх рэгаліях. Паўсюль на сценах, на століках — шчыты, трохкутнікі, фартухі... Шмат было зброі самых розных узораў: пісталеты, шашкі, клінкі, пікі... Гэта была не кватэра, а цэлы музей. Але найбольш дом Тадэвуша Яўстафавіча славіўся сваёй бібліятэкай, якую ён пасля падорыць віленскаму універсітэту. У ёй было шмат юрыдычнай літаратуры. Іншы раз у яго кватэры, у бібліятэчнай зале, праходзілі заняткі з маладымі юрыстамі па крыміпальным працэсе. У бібліятэчнай зале адбываліся і іншыя ўрачыстасці. У ёй праходзіла і наша славутае застолле «кілбасы»... Тадэвуш Яўстафавіч быў чалавек надзвычай дысцыплінаваны, патрабавальны да сябе і да іншых. Не любіў ён людзей несумленных. Не дай бог убачыць, што які-небудзь прысяжны павераны крывіць душой ці не чысты на руку, бярэ хабар, снуе ўсяляк патаемныя інтрыгі вакол справы — ніколі не тое, што не запросіць да сябе ў дом на «кілбасы», але і рукі не падасць. Надзвычай быў прыстойны чалавек».

Я заўважыў Гаўрылу Іванавічу, што ўсімі гэтымі лепшымі чалавечымі якасцямі вылучаўся і наш пясняр Ф. Багушэвіч. І гэта, мусіць, тое, што яднала іх.

«Што ж, вельмі магчыма,— згаджаецца Гаўрыла Іванавіч і дадае: — Тадэвуш Яўстафавіч, апроч усяго іншага, быў прынцыповы чалавек. І наогул я мушу вам сказаць, амаль усё старэйшае пакаленне адвакатаў першага набору вызначалася якойсьці незвычайнай маральнай чысцінёй. Быў сярод нас, прысяжных павераных,— працягваў ён далей,— і адзін адстаўны генерал... Прозвішча яго было, здаецца, Кульвец... Але не ўпэўнены, што так...»

«Чакайце, чакайце,— перапыняю я Гаўрылу Іванавіча.— Пра якогасьці генерала я чытаў у «Віленскім кур'еры» за 1928 год (№ 33). Там было пра яго сказана, што ён прысутнічаў на пахаванні Ф. Багушэвіча ў Жупранах».

«Ну, так! Гэта ён, пра яго пісана! — радасна ўсклікае Гаўрыла Іванавіч.— Гэта, без сумнення, усё той самы наш адвакацкі генерал... Без яго нідзе нічога не абыходзілася. І зусім натуральна, што ён быў на пахаванні Ф. Багушэвіча. Як сумленны адвакат і калега, ён не мог там не быць... Я яго вельмі добра ведаў. Не раз сустракаўся на кватэры ў Тадэвуша Урублеўскага. Ён таксама меў юрыдычную адукацыю. Гаварыў заўсёды што думаў. У нейкай ступені быў вальнадумцам. Звычайна хадзіў у мундзіры. Але як член адвакатуры прыходзіў да нас у фраку. Мне прыгадваецца такі эпізод...» І Гаўрыла Іванавіч расказаў, як аднаго разу гэты генерал выручыў яго ад патрульнага арышту. «Аднак жа вернемся да іншых адвакатаў»,— прапанаваў Гаўрыла Іванавіч, скончыўшы сваё апавяданне. Ён называе яшчэ некалькі прозвішчаў прысяжных паверанrealных, з якімі працаваў. Але сярод іх няма ніводнага, якое дзе-небудзь згадвалася побач з Багушэвічавым імем. Тады мяняем метаду гутаркі. І ўжо я называю прозвішчы прысяжных паверанных, выпісаных мною з Багушэвічавых лістоў, з яго газетных публікацый і іншых крыніц. ...Белы... Адам Карповіч... Буйка... Шастакоўскі... Аднак Гаўрыла Іванавіч адмоўна круціць галавой: не чуў, пры мне такіх не было. Раптам прыгадвае: «З старых адвакатаў быў у нас яшчэ Сумарок... Сумарок Расцітут Фаміч... І Струміла... Імя апошняга не помню...» Прыгадваю і я, што дзесьці чуў гэтыя прозвішчы. Але ж дзе? Ну, так. Усе яны згадваюцца ў Багушэвічавым «Запавеце» 1893 года. Вось радкі пра Сумарока:

А ты, мой каханы Сумароча,
Ты са мной заўсёды разам крочыў.
Дык зрабі сваёй дружбы доказ:
Няхай усе купаюцца ў крушоне,
Помняць хай яны аб маім згоне...

Пра Струмілу ў Ф. Багушэвіча сказана больш стрымана. Ад яго паэт чакае ўсяго толькі нагавіцы, але я ўсё роўна чытаю Гаўрылу Іванавічу радкі пра яго, і ён, як дзіця, радуецца сустрэчы з імёнамі сваіх колішніх сяброў і калегаў у нашай гутарцы. Радуюся і я, што мы будзем мець, хай сабе крыху і эскізнае, але жывое ўяўленне пра сяброў і калег нашага песняра. А Гаўрыла Іванавіч ужо характарызуе іх. «Сумарок — невысокага росту. Насіў невялікую бародку. Волас меў сівы, бобрыкам. Круглатвары, зычлівы. Сын яго, Лявон, таксама быў у адвакатуры, памочнікам. Жыў на Партовай вуліцы...» З такой жа выразнай дакладнасцю Гаўрыла Іванавіч падае партрэт і Струмілы:

«Невысокі, з жыватком, круглатвары. Насіў чорныя, з лёгкай сівізною вусы, падзавітыя ўгору... Быў вельмі сардэчны, мяккі. Рабіў прыемнае ўражанне. Але надзвычай быў строгі да маладых, непрымірымы да ўсялякіх падпольных хадатаяў і інтрыг».

Вось гэтак нечакана для сябе і для ўсіх, праз шмат гадоў пасля смерці Ф. Багушэвіча, мы пачулі жывыя характарыстыкі людзей, з якімі калісь жыў і працаваў наш пясняр.

## ЕХАЛІ ПА КАПЕЛЮШЫ

Дзесьці ля Барунаў — пра гэта мы вычыталі з газет — жыў стары капялюшнік Франц Сярпейка. Дужа хацелася зірнуць на чалавека цяпер ужо рэдкага занятку, на яго капелюшы з залацістай, як сонца, саломкі, як ён іх робіць, пляце, а мо і набыць, калі спадабаецца. Меўся я сёе-тое і распытацца пра гэтыя капелюшы: ад каго навучыўся, хто іх насіў, калі і з якой нагоды і якая перавага саламянага капелюша перад крамным. Пра ўсё гэтае я хацеў распытацца не толькі таму, што гэта проста цікава, але яшчэ і таму, што чуў, нібыта ў Багушэвічаву пару вельмі любілі фарсіць у гэтых капелюшах засцянковыя і фальварковыя шляхцюкі. Бывала, панадзяваюць гэтыя, на два брылькі, капелюшы і ў Смаргонь — на кірмаш. На крамныя грошай не хапала, дык яны ў саламяных фарсілі. Па кірмашы тым снуюць сюды-туды, адно толькі тыя капелюшы мільгаюць, на сонейку зіхацяць: зіх-зіх, чыр-чыр. Кажуць, што любіў насіць саламяны капялюшык на два брылькі і сам Францішак Багушэвіч. Бачылі яго ў ім не адзін раз. То цяпер, мусіць, яшчэ больш будзе зразумелая мая цікавасць да саламяпых капелюшоў. Хацеў я пра іх даведацца выключна ўсё. І вось мы едзем у вёску Цюпішкі. Там жыве стары капялюшнік Франц Сярпейка. У яго ўжо шмат перавярнулася markazнага люду з Мінска — аматараў саламяных капелюшоў. То наш прыезд — для яго не навіна. Размова наша пайшла ў тым накірунку, у якім мне і хацелася. Я распытваў, што мяне цікавіла. Падыходзілі суседзі. Яны таксама далучыліся да нашай гаворкі, згадвалі пра жыццё мінулае, жартавалі з колішняй беднасці. І калі ўжо збіраліся пакідаць гасцінны двор дзядзькі Сярпейкі, нехта спытаўся:

— А куды ж вы цяпер?

Пыталіся, бо бралася на вечар. Я адказаў, што сёння яшчэ хочам завітаць у Кушляны і там заначаваць. Ці далёка яны адсюль?

— Ды не,— адказала прыветна кабета, гадоў пад шэсцьдзесят.— Напрасткі, праз Баруны, кіламетраў з дзесяць. Да вечара, да цёмнага,

паспееце. А што вас там цікавіць? — праз нейкую хвіліну спыталася яна.— Ці не Багушэвіч, Мацей Бурачок?

Мы згодна кіўнулі галавой, а нехта сказаў проста: «Ага».

— А ведаеце што,— з нейкім задуменнем, нібы прыпамінаючы, сказала яна.— Быў у мяне дзесьці на гарышчы вялікі тоўсты сшытак з яго вершамі...

— З чыімі? З Багушэвічавымі?!

— Але, з яго,— спакойна адказала яна.

На нейкае імгненне мы забыліся, што нам трэба ехаць, пачалі прасіць цётку Ганну, менавіта так звалі яе, паказаць нам той сшытак. Хацелася хоць вокам зірнуць на яго. Не кожны дзень і не кожны год шчасціць пра такое чуць. Але цётка Ганна збіла наш запал, нашу прагу:

— Не, хлопчыкі, сёння я гэтага зрабіць не змагу. Ужо і цёмна, і на гарышчы ўсё завалена. І не проста там мне яго знайсці, той сшытак. І нешта даўнавата я яго не бачыла... Каб дзеці не парвалі,— насцярожыла.

Не першы раз нам даводзіцца чуць такое пра Багушэвічаву спадчыну: было, берaглі, хавалі, а цяпер няма. Парвалі, пашкуматалі, у печы папалілі. Не думалі, што некаму гэта спатрэбіцца. Цяпер жа кніжак хапае... І вось зноў даводзіцца чуць нешта ўжо знаёмае, да болю шчымлівае. І няма пэўнасці, знойдзецца той сшытак ці не. Але пакуль ён будзе шукацца, то хоць раскажыце нам пра яго, цётка Ганна. І найперш — дзе вы яго ўзялі? Чый ён? Каму належаў?

— Жыў у Цюпішках Казімір Паплаўскі. У Цюпішкі ён з Петрулёў пераехаў. Гэта тут недалёка. Там было ў яго аднаселле... Дык вось, гэты сшытак быў Паплаўскага. Паплаўскі казаў, што ён быў якісь сваяк Багушэвічам.

Прозвішча Паплаўскіх сярод сваякоў Ф. Багушэвіча дагэтуль не сустракалася. Але і пакінуць яго без увагі не можам. Тым больш што ў Барунах нейкі час жыў Багушэвічаў сын Тамаш. Адсюль, з гэтых мясцін, і яго другая жонка — Піўніцкая. Так што вельмі магчыма, што Паплаўскі сапраўды сваяк Багушэвічам.

— Ён быў вельмі здатны,— працягвае далей расказваць цётка Ганна пра Паплаўскага.— Сам складаў розныя байкі, вершыкі. Любіў гэта, на ляту мог складаць. Усё казаў: «Багушэвіч узяў высока, але і яму не ўступлю». Займаўся гаспадаркай, араў, сеяў. Трохі быў адукаваны.

Але вяртаемся да гаворкі пра сшытак з Багушэвічавымі вершамі. Які ён быў, той сшытак?

— Тоўсты, у чорнай вокладцы. Я трохі некаторыя вершы памятаю з яго...

— Ну то ўспомніце хоць адзін,— прашу я.— Хоць пачатак.

— Ну вось гэта помніцца... Пра мужыка... Як ён выпіў гарэлкі кручок і хацеў з сваёй жонкай за ўсе свае крыўды паквітацца. Аж выйшла ўсё наадварот. Заканчваецца верш дакорам шынкару:

Праваліся ты, Петручок,
І тваёй водкі кручок.
Каб я тваёй водкі не піў,
Дык у мяне касцюм чысты быў,
Каб тваёй водкі не знаў,
То пад бабай не ляжаў.

Была там і «Дудка Беларуская»,— дадае цётка Ганна.— Запісы былі па-беларуску і па-польску...

Я прашу цётку Ганну абавязкова знайсці той сшытак і пры нагодзе выпісаць распачаты верш і прыслаць яго мне. Слова сваё цётка Ганна стрымала, верш прыслала. Перачытваючы яго, я адчуў, што пісаў яго не Багушэвіч, а нехта іншы. Ці не сам Паплаўскі? Хваліўся ж, што Багушэвічу не ўступіць. Прыгадалася і яшчэ адно: канцоўку гэтага верша я ўжо і раней дзесьці чуў. Успомніў: у Вільні, у Бранiслава Тарчэўскага, які казаў, што гэты верш вельмі любіў, часта напяваў яго дзядзька Янка Тарчэўскі, муж Багушэвічавай пляменніцы Мані. Успомніў і падумаў: «Як у гэтым жыцці ўсё знітавана!» Вырашыў паказаць гэты верш яшчэ сыну Янкі Тарчэўскага. Цікава пачуць, што ён скажа. Неўзабаве я чытаў: «Вельмі перакручаныя ў ім словы. У майго таты, напрыклад, той, пра каго мова ў вершы, зваўся Баўтручок, не Петручок, і не касцюм, а кажух умазалі балотам. Ну бо дзе ж тады мужыкам прадавалі гарэлку на кварты, кручкі ($1/8$ кварты, сто пяцьдзесят грам), дзе тады было да касцюмаў. А тата мой сапраўды любіў гэты верш».

Ну, але верш вершам, а што ж пра самае галоўнае — сшытак? На жаль, як і трэба было чакаць, цётка Ганна яго не знайшла. А што Паплаўскі? Неўзабаве пасля вайны пераехаў у Польшчу, а блізкіх людзей яму тут нікога не засталося.

## ВЕРШЫ І ПЕСНІ З ЖУПРАНАЎ

Даўно мне карцела з'ездзіць у Жупраны, распытацца ў тубыльцаў пра гісторыю мястэчка, пра некаторых асоб, прынамсі, пра Вільгема

Невядомскага, які крыху ведаў Ф. Багушэвіча, любіў яго творы і нібыта сам пісаў вершы, а больш дакладна сказаць, складаў іх. Але ў дзень ад'езду душу апанавала нейкая шэрасць, няпэўнасць: «Каму гэта ўсё ў галаве? Мінула гэтулькі часу з той пары. Людзі жывуць зусім іншымі рытмамі, зусім іншым жыццём. Ці зразумеюць яны мяне? Ці помніцца ім хоць што з таго, што мяне цікавіць, што адбывалася сто і больш гадоў назад?»

З такой няпэўнасцю садзіўся я ў электрычку, з такой няпэўнасцю ехаў і ў аўтобусе. З такой няпэўнасцю выйшаў у Жупранах. Былі моманты, калі хацелася вярнуцца назад, у вірлівы Мінск. І усё ж я ехаў, суцяшаў сябе, што калі нават і нічога не пачую, то хоць пагляджу на тыя запаветныя мясціны. Мо хоць якая думка памроіцца — і то будзе добра. І як жа я быў усцешаны, што мае ваганні былі дарэмныя. І развеяла іх жыхарка Жупранаў Шымановіч Яніна — народжаная Болзан. Яна першая напаткалася мне, уважліва выслухала мае ваганні і рашуча запярэчыла:

— Што вы, бацечка,— сказала яна.— Дарэмна вы так думаеце пра жупранцаў. У нас Багушэвіча кожны знае, кожны ведае. Некалі кожны меў яго кніжкі. Вось хадземце пад маю хату, я гукну людзей і пачуеце такое, чаго ні ў адной кнізе не вычытаеце.

Яе ўпэўненасць падбадзёрыла мяне, і мы праз зялёную лугавіну ўздоўж вірлівай рачулкі падышлі да старой, з дзевятнаццатага стагоддзя, хаты, прыземістай, доўгай, з дробнага, выгрызенага часам бярвення, сцены якой ужо даўно схоплены ў лісіцы. Хата гэтая вартая і большага агляду, большага апісання. Ды сабраліся людзі. Прыйшла жанчына — колішні старшыня сельсавета, а таксама настаўніца хіміі. Слова за слова — і паўстала цэлая гісторыя Жунранаў. А пасля высветлілася, Яніна і сама шмат чаго ведае і пра Жупраны, і пра Багушэвічаў, хоць і веку яна не такога ўжо сталага. Дзесьці яна года з дваццаць сёмага.

— А чаму я ведаю? — нібы сама ў сябе пытаецца і сама сабе адказвае Яніна.— А за тое, што татка мой, Антон, ён з Замасцянаў — тут блізка — і мамка, Наталля, яна з Стрыпуноў, у Багушэвічавага сына Томака служылі. Татка мой кравец быў, добры быў кравец. У нас нават сам граф кажухі шыў. А мамка няньчыла Багушэвічаву ўнучку — Габцю. А каторую, старэйшую ці меншую, гэтага я не ведаю, от так называлі — Габця, і ўсё. Дык яны шмат чаго ведалі пра Багушэвічаў, шмат чаго чулі пра іх і нам расказвалі. У таткі і мамы былі і Багушэвічавы кніжкі, дык яны, калі збяруцца, пасядуць, найчасцей зімою, і чытаюць. Ну і мы яшчэ зусім малыя, да школы, Багушэвіча павывучвалі,— расказвае Яніна і тут жа, адзін за адным,

распавядае Багушэвічавы вершы — «Здарэнне», «Кепска будзе!». Цікава іх слухаць у народнай інтэрпрэтацыі. Але раптам гучыць штосьці новае, дагэтуль зусім нячутае:

Як задумаў бацька жаніць свайго сына
Ды паслаў яго ў сваты.
За сем вёрст жыла дзяўчына
Ды ў засценку Рудзяняты.

Узяў свата, як вядома,
Што у гэтым дзеле знаўся —
Аляксандру Канцавога,—
Што за словам не капаўся.

Са дзве кварты водкі мелі,
У сядзенне палажылі,
Воз заслалі, удвух селі
І гасцінцам пакацілі...

За гадзіну і Рудзяняты.
Там іх хуценька спаткалі:
Выйшаў бацька, сын жанаты
І ў хату іх пазвалі.
Сват быў шустры, як вядома,
Дзела ўлатвіць пастараўся...

Заўтра бацька злез з печы,
Стаў у лапці абувацца.
— Ну, дзяўчына, ці дарэчы? —
Стаў у сына ён пытацца.

Нішто,— кажа,— паказалась,
Відаць, крэпка і тлуста.
Ну от што мне спадабалась,
Гэта іхняя капуста...

Яніна заканчвае пераказ невядомага мне верша, а я сяджу і не ведаю, што сказаць, што падумаць. Адчуваю, што верш мясцовы. Гучаць у ім і мясцовыя назвы. Ёсць у ім нешта і з Багушэвічавай песні «Сватаны», але прыгадваю, што ў Багушэвіча крыху іншая

танальнасць верша. Казаць што-кольвек катэгарычнае пра гэты верш не бяруся. Затое смелая ў сваіх меркаваннях Яніна:

— Усе жупранцы лічаць гэты верш за Багушэвічаў. У кніжках яго не было. Ад таты і мамы мы яго вывучыліся. Але я яго трохі ўсярэдзіне і канцы выпусціла, забылася,— неяк вінавата, з дакорам на сваю памяць, кажа Яніна. І тут жа суцяшае мяне: — Але не бядуйце, мой Стах добра ведае гэтую байку, і я папрашу яго пераказаць, выпішу яго і прышлю.

І Яніна неўзабаве свaё слова стрымала, прыслала цалкам верш, якім яна ўсцешыла мяне ў Жупранах. Праўда, і Стаху не ўсё ўдалося прыгадаць. Дапісаў ён толькі апошшюю страфу і то без апошняга радка. Вось гэтая страфа:

З іхнім хлебам еў аж змогся.
Каб так нашага лусту,
Ей жа богу, ты, бацька, аж апрогся б...

Гэта ўсё з сынавага адказу на бацькава пытанне, ці спадабалася яму дзяўчына, якую яны ездзілі сватаць.

З Янінай Шымановіч і яе мужам Стахам я не парываў сувязі і пасля таго, калі наша гаворка пра тое, што мяне цікавіла, здавалася, вычарпалася. Зрэдку перапісваліся. Найчасцей пісаў, безумоўна, я. То нешта трэба было перапытаць, нешта ўдакладніць. Гэтае маё ліставанне давала свой плён. Аднойчы Яніна прыслала мне некалькі песняў. Адна з іх называлася «Ой праўда». Прачытаў я яе — і вельмі здзівіўся. Дык гэта ж Багушэвічава «Сватаная». Праўда, пачатак яе трохі быў не такі, усе ж астатнія куплеты, апрача яшчэ двух, супадалі з Багушэвічавымі. Урэшце, падаю гэтую песню так, як запісала яе Яніна:

*Ой праўда, праўда,*
*Хоць ты пабажыся,*
*Якія ў нас*
*Дзеўкі завяліся...*

А прадзе яна так —
Бурчыць калаўротак.
Бунцік лёну так звядзе,
Чуць выйдзе мотак.

Адну тальку праз хамут

Ледзь перавалоча.
І абрывак цэлы жмут
За печ завалоча.

*А як сядзе яна прасці*
*У вялікай серадзе,*
*Ад нядзелі да нядзелі*
*Ледзьве шпулю напрадзе.*

*А нітачкі ў яе*
*Ценькія і тонкі,*
*Падобныя да гэтых*
*Што віюць пастронкі.*

А як пойдзе яна жаць,
То стане і ные.
А як пойдзе хусты праць,
То стане і вые.

А як ставіць страву ў печ
З носу цякуць саплі.
Як выме страву з печы —
Стравы ані каплі.

А танцуе яна так,
Як цялё ў гілёсе,
Парве чыста андарак
І лапці да боса.

А спявае яна так,
Як сава гукае.
Аж трасецца галава —
Так яна спявае.

Прыпеў:
Ой праўда, праўда,
Хоць ты пабажыся,
Якія ў нас
Дзеўкі завяліся[19].

---

[19] Выдзеленых строф у Багушэвічавай песні няма.

Яніна паведамляла, што гэтую песню яна таксама ведаЕ даўно, з малых гадоў. Часта спявалі яе на вечарынках, у часе скокаў, калі весяліліся. Апрача гэтага, у першай страфе, у прыпеве «Ой праўда, праўда...» часам яшчэ замест слоў «у нас» спявалі «у Жупранах» — і надта ж тады весела выходзіла: «Якія ў Жупранах дзеўкі завяліся».

Вось гэтак неспадзявана выявіліся два сугучныя Багушэвічавай творчасці вершы. Цяпер цяжка сказаць што-кольвек пэўнае пра іх: ці то гэта фальклярызаваныя Багушэвічавы творы, ці то гэта апрацаваныя некалі Багушэвічам народныя песні, якія зноў вярнуліся ў народ. Хутчэй за ўсё праўдзівае апошняе меркаванне. У 1900 годзе адзін з песняровых сучаснікаў пісаў, што Багушэвіч поўнай жменяй чэрпаў з народных крыніц тэмы і вобразы. Запісаныя ад Яніны творы, думаецца, вельмі яскравае сведчанне гэтаму.

## ЁН ІГРАЎ НА БАГУШЭВІЧАВАЙ ДУДЦЫ

Пра Юзафа Талочку з Жупранаў мне казалі даўно. Раілі: зайдзіце, пагаварыце з ім. Дзядулю даўно за дзевяноста — так што, можа, што цікавае пачуеце. І напраўду, людзей такога шаноўнага веку ў Жупранах няшмат. Ды што там няшмат! Ён адзін тут, як сказала адна бабулька, шчэ з той сотні гадоў і, безумоўна, ён павінен ведаць пра Жупраны і жупранцаў больш за ўсіх. А мне якраз такі чалавек вельмі патрэбны. Я даўно шукаю хоць якіх звестак пра жупранскага арганіста Замару. Ён ведаў нашага песняра, быў у яго не раз. Заходзіў да Замары і Ф. Багушэвіч, калі бываў у Жупранах. І ўсё ж, нягледзячы па такую пільную патрэбу, я завітаў да дзеда Юзафа не ў той год, калі пачуў пра яго ўпершыню. Зрабіць гэта раней мне замінала засцярога: дзядуля кепска чуе ці амаль не чуе і гутарыць з ім вельмі цяжка, амаль немагчыма. Апрача гэтага, мне ўявілася, што Юзаф такі старэнькі, такі нямоглы і нядужы, што ў яго адно толькі і стае сілы, каб выйсці з хаты і трошкі пасядзець на лавачцы ды падзівіцца на сонейка. Дык дзе там ужо да расказаў ды ўспамінаў! І невядома, ці патрапіў бы я хоць калі да яго. Але вось нагода. Няўрымсны дзядзька Міхал, ахоўнік Багушэвічавай сядзібы ў Кушлянах, прапанаваў завітаць у Жупраны, заадно зайсці і да згаданага дзеда Юзафа. Падумалася, дзядзька Міхал, як і дзед Юзаф, таксама чалавек паважнага веку, яму ўжо восемдзесят з хвосцікам, то ім, мабыць, лягчэй паразумецца, хутчэй зразумець аднаму аднаго. І вось мы ў Жупранах, у Талочкаў. Сустрэла нас дачка. Мы сказалі ёй, хто мы і чаго завіталі да іх. Яна кінулася шукаць бацьку, але дзядулі нідзе поблізу не было: не знайшлі яго ані ў хаце, ані ў двары. «Мусіць,

на агарод пайшоў,— разважыла яна ў голас.— Зараз пагляджу яго там». Вярнулася яна досыць хутка і неяк радасна сказала:

— Знайшла!

Праз якую хвіліну з агароду выйшаў і сам дзед Юзаф. Быў ён шчупленькі, паглыблены ў свет нейкіх сваіх думак і клопатаў. Ступаў павольна, нібы намацваў, ці цвёрдая пад нагамі зямля і, як мне падалося, зусім абыякавы да нас, старонніх людзей. Зірнуў на нас так сабе, без усялякай цікавасці, але дапамагла нам яго дачка:

— Тата,— сказала яна.— Гэта да цябе... Хочуць пра старое, даўнейшае распытацца.

І толькі тады дзед Юзаф паглядзеў на нас больш уважліва і падаў нямоцную руку.

— А ведаеце,— сказаў ён, мосцячыся на лавачку пры плоце,— у мяне, хвала богу, розум харошы ад трох гадоў. З трох гадоў усё помню... Вось толькі слых. Цяжка мне ўжо што расказваць. Збіваюцца мае думкі, бунтуюцца. Іншы раз хачу сказаць — і нічога з гэтага не выходзіць. От імяніны ўнуччыны гулялі, папрасілі штосьці сказаць і хацеў сам, а нічога не выйшла, нічога не атрымалася. А, вашасць, даруйце, пра што хацелі спытацца?

— З Кушлянаў мы,— сказаў за нас абодвух дзядзька Міхал.— Пра Багушэвіча хацелі што-кольвек пачуць.

— То я яшчэ малы быў, калі ён памёр,— пачаў дзед Юзаф.— Было мне тады гадкоў восем-дзевяць, болей не меў. Я з дзевяноста другога. То што я магу помніць? Помню, як хавалі. Яго ж паўз нашу хату везлі, вунь праз тэй масток,— паказаў рукою дзед Юзік у бок рэчкі, якая абвівала дзедаву сядзібу, яго пляц і агарод.— Тут млын даўней графскі быў... То каля яго быў мост. Помню яшчэ на магіле вялікі, мэтры на тры, дубовы крыж. На тым крыжы віселі скрыпка, смык і дудка. Гэта ўсім кідалася ў вочы, а найболей дзецям. Дык у мяне з гэтай Багушэвічавай дудкай вялікая прыгода была. Надта мне захацелася на ёй пасвістаць, пайграць. Да скрыпкі і смыка цікавасці не меў, а дудку дужа хацеў. Ведама, малы быў. Дык неяк падлаўчыўся і зняў тую дудку. Зняў і дадому прынёс. Прынёс і на ўсю хату зайграў, а бацька тут як тут — Вінцэнт яго звалі. Усчапіўся: «Дзе ўзяў?» І ён мяне як запудзіў, і я мусіў сказаць. Усыпаў ён мне, добра даў у скуру — аж сёння помню — і вялеў назад занесці. А мне лягчэй было яе зняць, чым павесіць. Скакаў я ля таго крыжа, скакаў, ледзь прыладзіў. Даўней з гэтым вельмі строга было. Скрыпка тая, смык і дудка доўга пасля гэтага віселі. А пасля крыж згніў, то некуды ўсё гэта пазнікала,— скончыў сваё апавяданне дзед Юзаф і выцер з вока набеглую слязінку. Адчуваецца, гэтую гісторыйку пра дудку ён

расказваў неаднойчы, і яна няблага адклалася ў яго памяці. Пра арганіста Замару ведае збольшага: «Быў тут такі, але нічога пра яго расказаць не магу: хто ён, адкуль? І што гэта за чалавек. Помню толькі, што жыў пры касцёле, у дамку-шпіталі, аплаткі рэлігіяваў, спяваў, і я яму, хлапчуком, трохі слугаваў».

Мы пацікавіліся, каго ён яшчэ памятае з старых жупранцаў. Дзед Юзік назваў колькі прозвішчаў, але яны для нас нічога не значылі. На гэтым мы яго адпусцілі, і ён нетаропка пайшоў на агарод.

Асвойваць Багушэвічаву тэму, спасцігаць яе сэрцам і душой я пачаў дзесьці з 1968 года. Часта ездзіў у Кушляны, знаёміўся з наваколлем і людзьмі, і кожнага разу яны адкрывалі што-небудзь новае. Гэтым разам я вёз у Мінск некалькі вершаў-прысвячэнняў Ф. Багушэвічу ад яго ўдзячных чытачоў. А адзін з іх — «Пан і Блыха» — прыпісваўся самому Багушэвічу. Пра гэты верш, а больш дакладна — байку, дзядзька Міхал, ахоўнік Багушэвічавай сядзібы, сказаў: «Прывезлі яго ў Кушляны і пераказалі з памяці сыны старога Касяровіча, Зыгмунт і Восіп, якія жывуць у Польшчы. Калі яны былі тут, дык у адно бажыліся, што гэта Багушэвічаў твор, якому яны навучыліся ад бацькі».

Натуральна, такое паведамленне і сама байка мяне зацікавілі, і я неадкладна напісаў у Польскую Народную Рэспубліку братам Касяровічам. Адказу чакаць давялося доўга. Але маё чаканне акупілася надзвычай шчырым лістом, поўным цікавых звестак як пра самога Багушэвіча, так і пра тое асяроддзе, у якім ён жыў.

«24.I.1976 г.
Колска

Дарагі і вельмі паважаны Уладзімір! — пісаў Восіп Касяровіч (ліст пісаны па-беларуску).— Напачатку я мушу вас перапрасіць, што вы так доўга чакалі адказу. Я трохі вучыўся ў польскай школе, але ў польскай мове, а брат умее толькі распісацца. Ані ён, ані я не вучыліся рускага, а ні тым беларускага языка. Мы ў гэтым анальфабэты. Бо, як пісаў Багушэвіч, «ніяк не патрапілі вадзіцы хоць каплю, ды з такой крыніцы, што, як хто нап'ецца,— дык вольным стаецца!». З таго мы стыдаліся адпісаць, і думаў я, думаў, але адпісваю так, як умею... Бо не пісьмо важна, а сэрца!.. Мы душой хацелі б вам у чым-то памагчы ў бліжэйшым пазнанні жыцця і творчасці Багушэвіча, але мы не знаем самі. Мы жылі цераз мяжу з Багушэвічамі, нашы землі гранічыліся. Творчасць яго мы ўзналі з вршаў і расказаў дзеда і бацькі Пятра (памёр у 1948 годзе). Мы так любілі паэзію Б., што трыццаць працэнтаў яго вершаў знаем на памяць. Часта — а нават не раз у дзень, па некалькі разоў, Багушэвіч быў у дзедавай хаце, дзе расказваў свае сціхі, а цётку Гэлю намаўляў да навукі. Я добра знаю дачку Ф.Б., каторая мяне вучыла. Такой добрай душы я не спатыкаў, хаця маю ўжо 60 гадоў. Калі яна вас цікавіць, напішыце,— я вам многа раскажу пра яе. Пані Туня — так мы яе звалі — пахавана ў Жупранах Гродзенскай вобласці.

Верш «Пан і Блыха» мы зналі яшчэ дзецьмі, а навучыў нас наш бацька Пётр — і можна на сто працэнтаў сказаць, што напісаў яго Ф.

Багушэвіч. Я часта чуў, як хадзіў вучыцца да пані Туні, што яна мела чамадан, каторы я відзеў, а ў каторым былі схаваны неапублікаваныя рукапісы Ф.Б. Стыдна прызнацца,— бацька Пётр — намаўляў мяне, каб я хоць адзін верш украў. Але я задобра знаў і любіў сваю пані.

Другі верш, «На прызбе», я навучыўся, чытаючы невялікую кніжачку «На прызбе», напісаную вершам, і гэта была прадмова да той кніжачкі, але не была яна напісана праз Ф.Б. Хто быў аўтарам, я не помню. На довад таго, што вы заваявалі маё сэрца, пасылаю вам трэці верш, каторы навучыў мяне дзед Восіп, а дзеда навучыў Ф. Багушэвіч.

ПАХАВАННЕ МУЖЫКА

Заплакаў, заенчыў з званіцы
Стары і надтрэснуты звон,
Абвесціўшы смерць чалавека,
Маліцца сазваў усіх ён.

За белай сасновай труною
Грамадне суседзі ішлі,
Труну у магілку спусцілі,
Сыпнулі па жменьцы зямлі.
Тут сон — тут спакой яму вечны,
Тут будзе прытульна ён спаць,
Па доўгіх трудах і цярпеннях
Да суднага дня спачываць.
Спакою яго не паруша
Плач жонкі, галодных дзяцей.
Спі, бедны зямляча! Нядоўга
Паспіш без суседзяў сваіх...

Папраўце... Пішу так, як умею... «Дурны мужык, як варона»,— сказаў бы Багушэвіч, але не смяяўся б.

На першую стрэчу ўсё. Яшчэ раз дзякую за пісьмо. Мы не такія нядобрыя, а што нам бог долі не даў — гэта не наша віна. Будзьце добрыя і наколькі вам дазваляе час, напішыце, што вас зацікавіла Ф. Багушэвічам? Напішыце, дзе можна дастаць «Смык Беларускі» Ф. Багушэвіча? Там павінен быць верш «Здарэнне» (Пачатак: «Ехаў я раз праз Ваўкелы, а конь добры быў мой белы» і г.д.). Ваўкелы — гэта была наша сенажаць, луг.

Крэпка сціскаю Вашу руку.
Восіп Каспяровіч»

Ліст ад Восіпа Каспяровіча быў такі сардэчны і шчыры, гэтак усхваляваў, што я ў той жа дзень даў адказ з новымі запытаннямі. Аднак дачакаўся зваротнага ліста зноў толькі амаль праз паўгода. Але і на гэты раз ліст ад Каспяровіча быў поўны цікавых звестак. Разам з лістом пасылаў я Каспяровічу і фотакопіі нядаўна знойдзеных здымкаў Ф. Багушэвіча, зробленых якімсьці аматарам у Кушлянах. Думаў, здымкі гэтыя павінны разварушыць колішняга кушлянца. І не памыліўся:

«Дарагі Уладзімір! — пісаў Каспяровіч 3.V.1976 г.— Маё доўгае маўчанне і неадпісанне на ваша пісьмо не вынікае з таго, што я, можа, як бы выдавалася б, лекцаважу вас альбо вашу працу.

Я вельмі заняты сваімі клопатамі і работай. У мяне цяжкахворая жонка. Таму я не мог своечасова адказаць на ваш мілы ліст. Таму я вас моцна перапрашаю! Сардэчна вам дзякую за прысланыя публікацыі і за фота сядзібы Ф.Б. Часта спаглядаю на гэтую здымку і думаю, думаю аб усім, а між іншым, і аб сваім дзяцінстве. Як я быў маленькі, я сядзеў босы на гэтых самых усходах, на каторых па фота сядзіць Ф.Б. Бывала, пані яшчэ спала, то я чакаў, калі яна ўстане, каб аддаць ягады-паземкі.

Гляджу на фота і віджу, як Ф. Багушэвіч ходзіць па дзедавай хаце. Як ён, сабраўшы суседзяў у майго дзеда Восіпа Каспяровіча, дэклямуе свае сцішкі. Я думаю і віджу чалавека (Ф.Б.), каторага ўжо даўно няма, а каторы ўсё-тыкі ёсць і жыве! Для таго я яшчэ раз дзякую вам за фота, як і за прысланыя публікацыі.

Я, як вам пісаў, знаю жыццё Ф. Багушэвіча з расказаў свайго бацькі, дзеда і цёткі Гэлі Горыдзіхі з Наздрачунаў. Ф.Б. вельмі любіў майго дзеда і часта бываў у яго хаце ў Кушлянах, празваных Трахімамі — з таго, што там фактычна жылі тры хамы, тры мужыкі. Гэтае прозвішча дала панская шляхта. З расказу, Ф.Б. меў фундуш (грошы), ахвяраваныя праз блізкую нязнаную пані, каторая перад смерцю апісала тастаментам паказаную суму да распараджэння Ф.Б. Ён сам расказаў аб гэтым майму дзеду і ўсільна намаўляў дзеда, каб аддаў дачку Гэлю, а маю цётку, вучыцца на кошт Ф.Б. Але цётка, адзіначка, была вельмі дзеду неабходная ў гаспадарцы і дзед аціяхаваўся. Дайшло да таго, што Ф.Б. намовіў цётку Гэлю, каб уцякла ад дзеда, і яна гэта зрабіла. На другі дзень дзед Гэлю адабраў ад пана, моцна паспорыўшы. Цётка часта мне аб гэтым расказвала, успамінала і не магла забыць гэтага дзеду.

Гэля жыла па вайне з сваім сынам і ўнучкай каля Гданьска ў Польшчы. Памерла каля 1950 года. Пахавана ў Гданьску.

Няўдача з вучобай цёткі Гэлі адбілася на маім бацьку, каторы пастанавіў вучыць сына. Так што, дзякуючы бацьку, а фактычна Ф.Б., з дапамогай яго дачкі Туні, я пачаў вучыцца ў ашмянскай школе. Не забуду гэтага да канца жыцця, як я, маленькі, босы, насіў пані Туні першыя, якія ледзь выраслі, паземкі. Калі пані яшчэ спала, я сядзеў на ўсходах і чакаў, калі пані ўстане. На мяне ўжо і сабакі не брахалі, хаця я іх баяўся, што брак слоў! Бо ў заранi (напачатку.— У.С.) Туня жыла ў гэтай сядзібе, каторая на фота. Я меў, можа, семвосем гадкоў. Пані Туня была для акалічных людзей маткай, бацькам, доктарам і дарадцам у кожнай бядзе і няшчасці. Туня была ўвасабленнем міласці і дабраты. Часта двару мужыкі рабілі шкоду ў пасевах ці сенажаці, і адработнік любіў забраць быдла ў хлеў. За шкоду адработнік дамагаўся адробку, але каб не ведала пані. Гэтага толькі і чакалі мужыкі. Бягом да пані. А пані казала: у той жа момант аддаць скот, а яшчэ абругае адработніка.

Ці мае ягадкі, ці я сам спадабаўся пані, але яна намаўляла бацьку, каб аддаў мяне вучыць.

Тунін муж быў дырэктарам сельскага банку ў Ашмяне, слаба адукаваны, так што цэлым банкам кіравала фактычна яна і вяла ўсю бухгалтэрыю. Як я стаў вучыцца, яна больш бывала ў Ашмяне, у Кушлянах. Гзта было мне на руку. Як мне было цяжка з французскім языком, я бягом да пані Туні. Яна добра знала французскі і праз добрых некалькі гадкоў мне ў гэтым, і не толькі ў гэтым, памагала. Бацька як бацька, пад канец стаў з панам, Туніным мужам, судзіцца за межы, за дубы, што няхай бог сцеражэ! Я часта за бацьку перапрашваў паню, але яна памагала як бы не было нічога да самага канца. Ці кот, ці забыты ўсімі сабака заблукаўся ля дому — кожнага прытуліць і накорміць. Была добрая і для звяроў, і для людзей. Я часта ўспамінаў пра Ф.Б., хочучы што-небудзь даведацца пра яго жыццё, але яна маўчала... Толькі слёзы ў вачах давалі знаць, што нешта перажывае. Думаю, што баялася за мужа. Вядомыя былі часы: баялася, каб ён не страціў пасады, выключна з яго працы жыла, бо з зямлі мелі знікомы даход. Мужа любіла да скону жыцця, а і сын, калека, нямала каштаваў здароўя і матчынага сэрца.

Выбач, дарагі Уладзімір, што я шмат напісаў пра сябе, але не за гэтым, каб пахваліцца, бо няма тут чым хваліцца, але гэта было неабходна, бо адно з другога плыве і зазыбліваецца. Не знаю, ці добра ў гэтым мяне разумееце? Пэўна, што зразумелі.

Багушэвіч — лепей Мацей Бурачок — хоць даўно памёр, а ён жыве — бо праўда не гіне!.. Творчасць Ф.Б. мела агромны ўплыў на культуру і жыццё тамтэйшых людзей...

З цэлага сэрца Вас паздраўляю. Не гневайцеся, што так калечу беларускую мову, а пра страшнае пісанне ўжо лепей не гаварыць! Папраўце блуды, а можа, як-пебудзь прачытаеце!»

У гэтым лісце Восіп Каспяровіч прыслаў і некалькі фотаздымкаў Багушэвічавых сучаснікаў, імёны якіх так ці інакш звязаны з імем песняра. А менавіта — фотаздымак бацькі свайго, Пятра Каспяровіча, Багушэвічавай любіміцы Гэлі Горыд і адзін з краявідам вясковага двара, студні з журавом і старым дрэвам з каментарыем: «Наша ліпа перад домам дзеда Юзэфа Каспяровіча ў Кушлянах, якая расце і сёння, напалову раздзёртая, пад каторай нябожчык Францішак Багушэвіч часта сядзеў з дзедам і іншымі суседзямі, чытаючы свае беларускія вершы».

У сваім першым лісце Восіп Каспяровіч абяцаў, калі мы маем цікавасць, напісаць больш падрабязна пра Багушэвічаву дачку Туню, якую ён добра ведаў. Неўзабаве ён выканаў сваё абяцанне.

«15.XII.1976 г.<br>Колска

...Як выглядала пані Туня? Ад часу, як я яе ведаў — хварэла, яе вельмі разнесла — сама сябе стыдзілася паказаць людзям. Нідзе не выходзіла. Сядзела макам найбольш у Ашмяне і кручком рабіла розныя сурвэткі на стол або пад вазоны, або цыравала бялізну. Часам пыталася ў мяне: «Юзінек, падабаецца табе гэты ўзор?» — «Цудоўны!» — адказваю я, а яна: «А мне не!» Шах-мах — і папсавала. Мне кажа сурвэтку дзяржаць, а сама звівае яс на клубок. Мне за сэрца сціскае — столькі работы і напраўду харошай, а яна псуець. І зноў пачынае, але ўжо іншы ўзор. Часта і мужу Яну (быў дырэктарам банка) падлічала бухгалтэрныя кнігі. Яна вяла цэлую бухгалтэрыю банка за мужа... Любіла ўсё жывое... Часта я да яе прыходзіў у Кушляны з папаранымі крапівой нагамі. Пані адразу: «Юзінек, а хто ж цябе так пакусаў? На нагах самыя бомблі?» Я кажу: «Пані, крапіва праклятая пашчыпала погі, вот і бомблі на каленях!» А пані зараз на мяне: «Ты не знаеш, якое дабро крапіва. А мае яна такія і такія вітаміны... А ёй можна тое і тое лячыць...» Адным словам, па расказу пані толькі і трэба ўсюды гадаваць і сеяць крапіву!

Любіла і прападала за кветкамі, асабліва польнымі — макі, блаваткі, ключыкі, абы польныя. Гэтага дабра было поўна — толькі збірай і насі. Ну, то я збіраў і насіў, гэтага не трэба было купляць.

Не любіла плётак бабскіх, абмоваў. Не любіла хамства. Не любіла салодкіх двухліцоўцаў і ўсякай подласці. Любіла прыроду. Аб кожным створу магла днямі расказваць, якія карысці прыносіць у цэлай

прыродзе кожны найменшы створ. На куце акна яе пакоя ўвідзеў я вялікага павука. Убачыўшы я гэта, кажу пані, чаму папі не заб'е гэтага павука, яшчэ можа ўкусіць. А пані на мяне: «Калі ты зразумнееш? Цябе трэба забіць, а не павука! Ён жывіцца тым і тым. А павукамі жывіцца той і той... А на лацінскай мове называецца так і так... А ў Афрыцы яны такія, а ў Амерыцы такія... А якое з іх робяць лякарства!» А я пані на тое, што ў нас матка каваля Казіка прыкладае павучынне, а яно ж такое бруднае! А пані на гэта: «І добра робе, бо павучынне асобеннае наслаенне мае, лякарства».

Я ў той час быў малы і яшчэ дурнейшы, як цяпер,— паківаў галавою пані, а ў галаве ўсё-такі думаў, што пані, мусіць, трохі дурнаватая. І от, дарагі Уладзімір, гэтая «дурнаватая» папі навучыла мяне, «разумнага», любіць прыроду, на каторую трэба ўмець глядзець, відзець яе і любіць, як і ўсіх людзей!

Як я ўжо вучыўся, раз адважыўся запытацца ў пані Туні, які кірунак у жыцці найлепшы? Ці маюць рацыю бальшавікі ці сацыялісты, ці капіталісты, ці, можа, якія іншыя ёсць кірункі?

«Бачыш,— кажа,— ты яшчэ замалады. Я на цябе маю большы ўплыў, і ты можаш пайсці дарогаю, якую я табе скажу. А яна можа быць для аднаго добрая, а для другога благая. Ты сам заўважай жыццё і выберы такую дарогу, якую спазнаеш сваімі думамі за найлепшую — найсправядлівейшую. Пры гэтым ведай яшчэ пра тое, што не стыдна ніколі кінуць раз абраную дарогу, калі праканаешся, што яна аказалася благой дарогай».

Моцна Вас сціскаю
адданы Вам Юзаф».

Тым часам я распачаў перапіску з сярэдняй Ба- гушэвічавай унучкай Станіславай Тамашэўскай. Дасылаў ёй розныя здымкі з Багушэвічавага сямейнага альбома, вядомыя і невядомыя, а таксама знойдзеныя ў архіве Пятра Глебкі; распытваў пра розныя падрабязнасці побыту ў доме Багушэвічаў, дасылаў ёй свае артыкулы і нататкі, а таксама іншых аўтараў пра Багушэвіча, прасіў выказаць пра іх свае заўвагі, і яна, што памятала, што чула,— усім шчодра дзялілася са мною Падаём найбольш цікавыя яе лісты.

«30.XII.75
Гіжыцка

Шаноўны таварыш!

Перапрашаю, што спазняюся з адказам, але была хворая і хварэю цяпер і цяжка сабрацца з думкамі. Апроч усяго, няведанне беларускай мовы абцяжарвае чытанне.

Дом наш, як і наша сям'я, перажыў розныя катаклізмы ў залежнасці ад часу і сітуацыі. У 1914 годзе мы змушаны былі пакінуць Кушляны, таму што нашу хату немцы пусцілі пад шпіталь. У той час бацька вучыўся і працаваў у Вільні разам з панам Вівульскім на будове касцёла Сэрца Езуса, і мы паехалі з мамай да бацькі. Былі мы ў вельмі цяжкім становішчы, таму нас забрала ў Ашмяны цётка Мніховіч, муж якой рабіў кіраўніком насеннай цэнтралі, потым дырэктарам каапературнага банка. Мальдзіс не пытаўся ў мяне пра бацькаву прафесію і, відаць, падумаў, што бацька быў за дырэктара банка.

Партрэты продкаў віселі ў нашым доме да падзелу Кушлянаў паміж бацькам і цёткай да пары, пакуль бацька ажаніўся другі раз — каля 1925 года. Маці мая памёрла ў 1919 годзе. На партрэце дзед быў намаляваны ў каўнерыку і пры гальштуку.

Бацька мой выкладаў нейкі час у ашмянскай гімназіі матэматыку, алгебру, геаметрыю і маляванне. Здаецца, выдаў падручнік па алгебры, па якім вучылася моладзь у Літве ці Латвіі. Потым пераехаў у Вільню і працаваў у інжынернай суполцы на вуліцы Піўнай, але з-за свайго благога здароўя яму давялося спыніць працу і разам з мачыхай пасяліцца ў Кушлянах. У 1929 годзе па дарозе з Варшавы выкінуўся з цягніка і загінуў.

Ад першай вайны ніхто стала ў Кушлянах не жыў, а ўсе рэчы перайшлі да цёткі ў Ашмяны. Дом быў аголены і аж дуднеў ад пусткі. Дзядзька Мніховіч узяў апеку над намі, а Кушляны аддалі ў арэнду. Не ўсе бацькавы малюнкі віселі ў Кушлянах. Толькі частка, а рэшта ў цёткі.

У 1931 годзе я выйшла замуж за ляснічага і часамі наведвала Кушляны. З 1940 года мяне не было ў краі і не ведаю, што там рабілася... Была ў Сібіры, вывезена праз Індыю ў Польшчу. Вярнулася ў Польшчу ў 1947 годзе. У 1972 годзе наведала Кушляны для пошуку дзедавых рукапісаў. З сардэчным болем сцвярджаю, што каплічка ў жахлівым стане. Рог падмуроўкі разважены нейкім наўмысным трактарыстам, а Хрыстос — пекная разьба XVIII стагоддзя — мае абарваную руку і зусім рассыпаецца. Крыж разам з Хрыстом вісеў у майго прадзеда над ложкам. Гэтую каплічку збудавалі дзед з братам на працягу адной ночы, менавіта тады, калі схілялі ў праваслаўе. Каплічка была памалявана ў гнілы зялёна-шэры колер, імітуючы старое. Ведаю, што бацька раз паднаўляў яе. Тады, калі была пабудавана каплічка, дзядуля напісаў «Хрэсьбіны Мацюка». Не ведаю,

чым магу быць карысная і навошта вам патрэбна фатаграфія каплічкі, таму што, хоць і пашкоджаная, у 1972 годзе стаяла яшчэ моцна, чакаючы кагосьці, хто б яе адрамантаваў. Няўжо рука нейкага вандала паспела ўжо знесці яе з паверхні зямлі? Я была сумна ўражана, калі не ўбачыла партрэта майго дзеда на мармуровай пліце ў касцёле ў Жупранах. Як мне казалі, меўся быць у музеі. Аднак ані ў Мінску, ані ў Ашмянах я не ўбачыла яго. Гэты партрэт з прапановы Ажэшкі і іншых тагачасных літаратараў быў змешчаны пасля смерці дзеда. Ён быў прызнаннем і ацэнкай яго творчасці. Гэта нібы гістарычная памятка. У каго гэта свярбелі рукі, каб яго выняць?! У маім разуменні — гэта вандалізм. У тыя часы было прынята пакідаць памяткі ў выглядзе партрэтаў ці барэльефаў заслужаным людзям у касцёлах, таму што гэтыя месцы найбольш наведваліся людзьмі. Трэба Вам ведаць, што з дзедавых клопатаў у Вільні ў касцёле Святога Яна быў змешчаны Міцкевічаў бюст. Дзед звяртаўся да Ажэшкі з просьбай збіраць ахвяраванні на памятку. Таму, бачыце, нібы звычай эпохі. А ўсе даўнія звычаі належаць да гісторыі мінулых падзей. Навошта іх нішчыць?

Будучы ў Кушлянах, я шукала партрэты сваіх продкаў. Мясцовыя людзі казалі мне, што дзедаў партрэт вісеў у Мніховічавым доме да выезду адтуль нейкага рэпатрыянта Цада, які там часова жыў. Здымак каплічкі рабіў Радзішэўскі, фотарэпарцёр з Ашмянаў, але не даслаў. Праўда, у мяне ёсць просценькая, аматарская картка, але такая дрэнная, што сумняваюся, што фатограф ці зможа з яе штосьць зрабіць. Калі ўжо мае ў Кушлянах быць музей, то трэба пасадзіць пры каплічцы ядловец, які пасадзіў дзед і якога цяпер няма. Дзед вельмі любіў ядлоўцы. Ад каплічкі ішла алейка з падрэзанымі ялінкамі, а ўсярэдзіне, злева, стаяў на дубовым пні сонечны гадзіннік з жалезным квадратам, з стрэлкамі і адлітымі лічбамі. Цяпер ужо гэтыя дрэвы вялікія, бо ніхто іх не падразаў.

Што ж да папі Людвікі Кандратовіч (Сыракомлевай унучкі.— У.С.), то яна таксама была мастачка, прыязджала да нас з сваёй цёткай улетку і напачатку ўсё ішло да яе шлюбу з маім бацькам. Відавочна, збаялася ўзяць апеку над трыма сіротамі, і шлюбу не адбылося. Пасля другой сусветнай вайны яна засталася ў Вільні і была жонкаю нейкага архітэктара, па мужу яе прозвішча было Бяліцкая ці Бялецкая.

Дзякую за навагоднія віншаванні.
Станіслава Тамашэўская».

«22.IV.1976
Гіжыцка

Зноў спазняюся з адказам. Захварэла на грып, потым перакінулася на горла. Увесь час тэмпературыла, шпігавала сябе таблеткамі. Астатнім часам трэба было наводзіць парадак у доме, бо надыходзілі святы і чакала найдаражэйшага госця — сына. З усяго гэтага было не да пісання. Вялікі дзякуй за віншаванне са святам кабет...

Пытаецеся, як выглядаў дзядулеў надгробак раней? Не было ніякага надгробка, дзед не пажадаў яго сабе, але прасіў, каб пасля смерці паставілі яму высокі дубовы крыж і магілу вакол абсадзілі ядлоўцам. Прыпамінаю сабе высокі дубовы крыж, які з часам быў заменены на такі самы высокі, але ўжо не дубовы. Ядлоўцу не прыпамінаю, але магіла была абведзена ланцугом і слупкамі з абчэсанага каменя. Хто іх абчэсваў, не ведаю. Гэта такая дэталь, пра якую не гаварылі дома. Што ж да дзедавых, знойдзеных цяпер вершаў, то маю на гэта сваю думку. Магчыма, толькі частка іх была закапана, а рэшта магла застацца ў шкатулцы, у якой захоўваўся камень сталёвага колеру з ініцыяламі дзеда. Варта даведацца, ад каго набыты камень (знаходзіцца ў музеі ў Мінску). Там павінны быць і рукапісы. Магчыма, старэйшая сястра, пакідаючы дом, кінула і шкатулку з каменем і рукапісамі. А людзі тады бралі ўсё, што заставалася ў пакінутых дамах. Магчыма, разам з скрынкай вершы трапілі да Каспяровічаў. Бацька іх быў схільны на ўсё і не прапускаў нічога. Верш пра пекла помню і магу пацвердзіць, што ён напісаны дзядулем. Магчыма, што паперы, знойдзеныя ў шкатуле, як нічога не вартыя матэрыяльна, знішчаны. Людзі тады не надавалі значэння такім рэчам, былі маласвядомыя. У першую чаргу цанілі тады матэрыяльныя каштоўнасці. Ведаю, што ў шкатулцы было шмат вершаў, вялікіх і малых. Некаторыя з іх, пераважна тыя, што былі на польскай мове, знала на памяць. Не ўмела чытаць па-беларуску. Аднак бабка некаторыя чытала нам і між іншымі пра пекла. Сёння, калі дзеда няма сярод жывых і няма вочных сведак, гаварыць і меркаваць можна шмат. Калі я была ў Кушлянах, то з'явілася адна народная спявачка — Абцэвіч — з Кушлянаў, каторая сказала, што цётка, дзядулева дачка, вучыла яе спяваць, акампануючы ёй на фартэп'яне ў Кушлянах. На жаль, як я помню, фартэпіяна да смерці цёткі было ў Ашмянах, і цётка ад лета 1929 года, пасля смерці бабкі, закрыла фартэпіяна на ключ і ані разу не дакранулася да яго клавішаў... Абцэвіч прыехала ў Кушляны ў трыццатыя гады, значыць,

пасля смерці бабкі. А да 1929 года ніводная жанчына, ні Абцэвіч, ні якая іншая не прыходзілі да цёткі вучыцца спяваць...

Наогул, Каспяровіч Юзаф меў ахвоту хадзіць да цёткі вучыцца французскай мове, таму што яму цяжка даваўся гэты прадмет. Раю неадкладна зацікавіцца, ад каго набыты камень. Можа, тады знойдуцца там і дзедавы вершы, якія былі схаваны ў той шкатулцы. Ёсць адна сведка, якая магла б нешта пра гэта сказаць. Гэта мая старэйшая сястра. Але ад яе нічога не даведаешся, з часу маёй пабыўкі ў Кушлянах не маю з ёй ніякага кантакту, бо пасля Мальдзісавай публікацыі ўсе нашы сваяцкія сувязі перапыніліся. Трэба было да гэтага падысці неяк больш дыпламатычна, і тады б, можа, і я сама штосьці распытала.

С. Тамашэўская».

«15.VI.76
Гіжыцка

Дарагі сябра!

Дзякую за мілыя здымкі. Зараз прыступаю да іх апісання. Тры асобы — гэта мой бацька, пасярэдзіне — матчына сястра Мар'я Чыж і мая маці Юзэфа з Маркоўскіх. Цётка і матка памерлі на адным тыдні ў снежні 1919 года ў часе эпідэміі чумы ад запалення лёгкіх. Групавы здымак (злева направа): бабка Габрыеля[20], дзед, дзедава сястра Ганна, якая выйшла за Мніховіча, а іхні Ян ажаніўся з дзедавай дачкой Канстанцыяй. Такі шлюб не прынёс нічога добрага, бо, адпаведна, сын Канстанцыі і Яна быў недаразвіты, памёр у Кушлянах увесну 1947 года. Быў вельмі падобны да дзеда. Наступны сядзіць дзедаў брат Уладзіслаў (быў сасланы ў Сібір, вярнуўся і памёр праз тры гады пасля смерці дзеда, пахаваны ў Жупранах[21]. За Уладзіславам маладзейшы дзедаў брат Валяр'ян — уцёк у Германію, дзе і застаўся, ажаніўшыся з немкаю. Справа стаіць дзедаў брат Апалінар, жыў у Латвіі, там асеў па рэвалюцыі, быў у Вільні, дзе і пахаваны на Бернардынскіх могілках. Таго, што сядзіць з барадою, не ведаю, так даўно мне гэта тлумачылі і гэтулькі было мімалётных выпадкаў, што сапраўды не магу прыпомніць. Зрэшты, усе дзядулевы браты былі ў паўстанні, і кожны пайшоў сваёй дарогаю. Што да каменя, то быў ён прывезены з Сібіры,— сямейная сага даносіць, што гэта аскялепак метэарыту альбо каметы. Ці сапраўды гэта так? Шмат

---

[20] С. Тамашэўская памыляецца. На здымку паэтава маці Канстанцыя.

[21] Уладзіслава на здымку няма. Сядзіць побач з Францішкам якраз Валяр'ян.

вучоных у Саюзе, можна б і даследаваць. Мяркую, што камень гэты прывёз дзед Уладзіслаў.

Дзяды мае мелі пяць дзяцей, выжыла двое: старэйшая дачка Канстанцыя і наймалодшы сын Тамаш (мой бацька). Не думаю, каб Пётр Каспяровіч ведаў, што ў скрынцы ляжалі рукапісы, таму што стаяла яна на кансольцы ў салоне, а на ёй — гадзіннік з фігуркаю Беранжэ пад клёшам. Рэдка калі хто туды заглядваў нават з сям'і. Юзаф вучыўся ў школьным пакоі, а ў салон можна было прайсці альбо праз спальню, альбо праз банк. Мусіць, у час вайны мог угаварыць сына ўзяць гэтыя рукапісы. Здаедца мне, што варта было б ператрэсці разбуравы Мніховічаў хлеў, дзе выкапалі ў 1972 годзе цвілыя паперы ў слоіку, бо Мніховічаў арандатар пісаў да Ляпехі, дзе схаваны рукапісы, і Ляпеха нават шукаў іх. Арандатар гэты, прозвішча яго Завадскі, у Польшчы, хваліцца, што ведае, дзе схаваны рукапісы. Аднак, калі я напісала да яго, ён не адказаў мне. Сапраўды, не ведаю ўжо, што і думаць. Пасылаю Вам фатаграфію каплічкі, якую мне нядаўна прыслаў мой стрыечны брат з матчынага боку. Цікава, ці будуць адбудоўваць каплічку?

Сардэчныя віншаванні
С. Тамашэўская».

«21.XI.76
Гіжыцка

Шаноўны таварыш!

Толькі сёння саджуся за пісанне. Доўгі час мяне не было дома. Цяпер лячуся і хварэю і цяжка сабрацца з думкамі. Перш за ўсё дзякую за томік дзедавых вершаў. Знайшла ў ім два вершы, якія былі ў польскай мове: «Шумяць сосны» і да Ажэшкі. Не ведаю, хто іх перакладаў, але лічу, што не шкодзіла б зазначыць, што гэта пераклады з польскай мовы.

Для мяне гэта не навіна, што камень быў перададзены ў музей Пятром...

Бабчын бацька быў юрыстам і нейкі час працаваў мінскім суддзёй, пасля адвакатам. Не цяжка таму здагадацца, што дзед, працуючы ў юрыспрудэнцыі, бываў у Шклёнікаў і там пазнаёміўся з бабкай.

Мундзір паўстанцкі быў хутчэй за ўсё колеру брудна-сіняга ці марэнга з чырвонымі лампасамі. Цяжка цяпер усё прыпомніць.

Бабка мела за дзеда як удзельніка паўстання пенсію — 60 злотых. Бабка была вельмі шляхетная, высакародная, добрая, спагадлівая. Яна дапамагала кожнаму, хто меў у гэтым патрэбу, заўсёды

сардэчная і бескарыслівая. Іграла пераважна творы Шапэна, Моцарта і іншых сур'ёзных кампазітараў, а часцей за ўсё паланез Агінскага «Развітанне з Радзімаю»...[22]

Бацька мой нарадзіўся ў 1881 годзе.

Вы ў мяне пытаецеся, ці не маю я фатаграфіі, дзе я знята з мачыхай і сёстрамі. У мяне нічога не было пры звароце ў Польшчу. Зараз сёе-тое прысылаецца. Усё патрапіла ў чужыя рукі. Веру, што сястра закапала толькі частку рукапісаў, заўважаючы, што яны знікаюць, і вырашыла закапаць рэшту...

Прашу прабачыць маё доўгае маўчанне

С. Тамашэўская».

«18.I.77

Гіжыцка

Зноў затрымліваюся з адказам, і віна гэтаму — мая хвароба, ціск, а асабліва, калі стаіць антыцыклон. А з прычыны таго, што над Гіжыцкам антыцыклон вісіць заўсёды, мяне непакоіць сэрца і іншыя хваробы... Вельхмі дзякую за партрэцікі і зычэнні.

У нашай сям'і ўспаміналі пра дзеда толькі ў канкрэтных выпадках. Быў на паўстанні, там яго паранілі, хаваўся, пабудаваў каплічку. Пра дробязі амаль не гаварылі. Ведаю, што любіў паляваць, зб'іраў грыбы і часта бываў у лесе. Паказвала нам бабка дуб, з сукоў якога прадзед з дзедам забілі мядзведзя. Дуб гэты быў выпалены ўсярэдзіне і ахапіць яго магло толькі трое людзей. Быў яшчэ адзін дуб на поплаве, паміж нашай сядзібаю і вёскай, пра які бабка казала, што дзед каля яго пасеяў баравікі.

Аднаго разу ён знайшоў у лесе стары трухлявы грыб, намачыў яго ў дажджавой вадзе, неяк змяшаў з зямлёй і трымаў так тыдні з два ў драўлянай пасудзіне. Пасля заараў поплаў пад дубам і разліў гэты росчын. І сапраўды, будучы ўжо замужняй, калі я туды прыязджала, збірала там па 30—40 штук прыгожых баравікоў.

Пасадзіў сад ад дому да сажалкі. Чаго там не было! Яблыкі самых розных гатункаў, ігрушы, слівы, вішні... Пасадзіў алею, якая вяла на Лысую Гару. Былі таксама парэчкі, чорныя, белыя, чырвоныя. Перад домам насадзіў шмат нарцысаў, якія ўвесну пахлі за кіламетр. Нібыта заўсёды казаў: «Не будуць мець дзеці, то ўнукам дастанецца». Тым часам унукі нічога не атрымалі, нават вопісу маёнтка, за які ў нас

---

[22] У гутарцы з польскім журналістам М. Канапацкім С. Тамашэўская паведаміла, што Багушэвічава жонка любіла выконваць на піяніне любімыя яго мелодыі. Але не назвала якія. Змешчаныя тут паведамленні — адказ на наша пытанне.

можна было атрымаць домік ці кватэру. Ну, што ж, мінуў час, засталіся толькі мы ўдзвюх і чакаем наканаваныя нам два метры. А як нам вялося? Па-рознаму. Продкі нашыя паходзілі з татараў, пасля гэта неяк змяшалася з пакалення ў пакаленне. Пра бацьку і цётку напішу ў наступным лісце. Што ж да іх маленства, думаю, што Зыгмунт Абрамовіч, мой далёкі сваяк, мог бы вам сказаць нешта большае. Ён меў дзевяць гадоў, як памёр дзед, можа памятаць не адзін факт. Не хацела б выцягваць з цемені часу некаторых спраў, якія моцна аселі ў маёй памяці. Што ж, цётка адукоўвалася ў Германіі, мабыць, жыла ў Валяр'яна, дзедавага брата. Мелася стаць спявачкаю. Нават марыла пра Мілан і тэатр «La Scala». Ці сарваўся ў яе голас, ці шкарлятына перашкодзіла яе намеру. Вярнулася дадому і выйшла за дзедавага пляменніка.

Вы пытаецеся пра Ляпеху. Я яго зусім не ведала і першы раз сустрэлася з ім у 1972 годзе ў Кушлянах. Засталося пра яго самае добрае ўражанне. Быў такі сардэчны, такі гжэчны, што ўсюды мне было добра, дзе мяне прымалі... Хвілі, праведзеныя там, для мяне незабыўныя.

С. Тамашэўская».

«9.VI.77

Гіжыцка

Шаноўны таварыш!

Вялікі дзякуй за памяць і здымкі. На фатаграфіі з мачыхай знята мая старэйшая сястра, усярэдзіне малодшая, а астатняя я. Калі ж гаворка ідзе пра закапаную сажалку, дык гэта нож у сэрца. Бо сажалка ўзнікла з дзедавых клопатаў і старанняў. Лугі былі мокрыя, дзядуля заклаў дрэнаж, і такім чынам вада сплывала. Гадаваліся там карпы і ліні. Я б хацела б мець Кушляны такімі, якімі яны засталіся ў маёй памяці.

Усе канікулы мы праводзілі ў Кушлянах, і самыя вялікія забавы былі над сажалкай. Я памятаю, як аднойчы мяне пасадзілі на балею і так, папіраючыся палкай, плавала. Калі мы былі больш дарослыя, прыязджалі стрыечныя браты і сёстры, і разам з імі мы вадзілі розныя гульні. Была там пахілая вярба, на якую мы залазілі і ў спякотны дзень, чыталі кніжкі і падручнікі. З маім стрыечным братам Алесем Галаўнём, які прыязджаў з Вільні, мы спусцілі аднойчы сажалку. Брат гэты загінуў у 1939 годзе пад Седльцамі.

Не разумею, з аднаго боку — вы шануеце дзядулю, ставіце яму помнікі і надгробкі, а з другога боку — нішчыце ўсё, што ўзнікла па яго задуме. У Кушлянах быў толькі той недахоп, што ў іх не было

вады. Сажалка і сёння прыдалася б, калі б яе ачысціць. І жывёліне было б дзе наталіць смагу. І ваколіца была б больш жывая. І рыбак крыху можна было б развесці... Сажалка невялікая і нямнога там сенажаці прырасце. Пры такім абшары гэты малы кавалачак нічога б не значыў...

Калі гаворка ідзе пра Зыгмунта Абрамовіча, то, напэўна, Багушэвіч там бываў. Я ўжо неяк пісала: Галаўні былі нашы крэўныя. Зыгмунтава маці— Аляксандра — з дому Галаўнёў — была за лекарам-палкоўнікам, і жылі яны ў Маскве. Не магу толькі зразумець, якія яны былі сваякі. Здаецца мне, аднак, што дзядулева матка была таксама з дому Галаўнёў, што можна праверыць у метрыцы.

І калі будзе ваша ласка, напішыце мне, як было дзявочае прозвішча дзядулевай маці...

Прашу выбачэння, што пішу рэдка, але пры маіх хваробах нямнога часу маю на роздум, дый трэба дом даглядаць, а ўвечары я моцна стамляюся і адпачываю.

С. Тамашэўская».

«25.VII.77
Гіжыцка

Шаноўны сябра!

Цётка Юля Радзевіч была бабульцы пляменніцай, дачкой Казіміры Вайчынскай. Жылі яны ў Курску. Радзевіча я не ведаю, а дачку памятаю як удаву, якая адразу пасля першай сусветнай вайны працавала дырэктарам гімназіі ў Вільні, потым — як кіраўнічка інтэрната. Гэта была замкнёная асоба, сухая, абыякавая, не паддавалася ўражанням. Па ёй немагчыма было вызначыць, калі яна радуецца, а калі смуткуе. Калі гаворка ідзе пра варшаўскага дабрачынца, то дакладна не ведаю. Гэта мог быць пляменнік па бабчынай лініі, як і дзядулевай. Дзіўляюся, што за тыя грошы дзядуля пабудаваў хату. У Кушлянах жа было дастаткова драўніны. Такі лес! Думаю, аднак, што тыя грошы пайшлі хутчэй на садовыя дрэвы і кусты. Дзядуля меў бібліятэку, толькі я не помню, бо ў час першай сусветнай вайны немцы выселілі нас і ў доме зрабілі шпіталь. Не было магчымасці ўсё забраць з сабою. Доўгі час вандравалі, туляліся па лясах, пакуль бабулька з цёткай не выехалі ў Ашмяну, а мы з мамай — да бацькі ў Вільню, дзе бацька вывучаў выяўленчае мастацтва, а таксама працаваў з панам Вівульскім на будаўніцтве касцёла Сэрца Езуса. Аднак перад выездам з Кушлянаў бабулька частку кніжак схавала паміж столлю і страхой — паддашкам, і некаторыя з гэтых кніжак, калі я была падлеткам, сама выцягвала. Былі гэта пераважна

кнігі юрыдычныя, па філасофіі, псіхалогіі, польскія, некалькі рускіх і французскія раманы, якія, відавочна, бабулька любіла чытаць, бо аднолькава ведала добра французскую, як і польскую, нямецкую, рускую і італьянскую мовы.

Паспрабуйце звярнуцца да Зыгмунта Абрамовіча з запытаннем: хто б гэта мог быць тым пляменнікам з Варшавы?..

Дзякую за спачуванні ў маёй хваробе і парады ў лячэнні... Відавочна, ужо не наведаю Кушляны і суцяшаю сябе тым, што яшчэ перад смерцю не ўпусціла кірунак успамінаў і паехала думкамі ў Кушляны, дзе адчувала сябе бестурботна і сапраўды дыхала даўнім паветрам.

Сардэчныя віншаванні сям'і Мальдзісаў, пра якіх вельмі пяшчотна ўспамінаю.

Усяго найлепшага».

Як відаць з апошніх лістоў Станіславы Тамашэўскай, да нашай перапіскі далучыўся і колішні акцёр трупы Ігната Буйніцкага Зыгмунт Абрамовіч, 1892 года нараджэння, які таксама быў блізкі, паводле слоў усё той жа паэтавай унучкі, да сям'і Багушэвічаў.

...Нялёгка ўспомніць тое, што было калісьці, гадоў семдзесят — восемдзесят назад. Тым не менш Зыгмунт Абрамовіч неўзабаве адгукнуўся на нашу просьбу і прыслаў некалькі лістоў. Адзін з іх, які мае самае непасрэднае дачыненне да Ф. Багушэвіча, цытуем:

«22.III.77<br>Злотаў

Паважаны Уладзімір Ілліч!

У мяне праз увесь апошні час дактары ўсялякай масці і, паскарынаўску, «сцыэнцыі» сцвярджалі, што я «ікаю». Абавязкам маім было ім выясніць, што гэтая хвароба з беларускага боку...

Дарагі мой сябра! Я ж ляжаў, як нябожчык,— аднак выскачыў з усяго, напісаў не зусім так, як хацеў, а так як было магчыма. Дзякую Вам за тое, што Вы да мяне звярнуліся (от жа лаяла мяне Зоська Верас, што не адказваю)...

Выбачайце за дрэнную беларускую мову — я ж яе не чую цэлы век! Між іншым, можаце з упэўненасцю лічыць, што верш Бурачка пра «блыху» напісаў Багушэвіч. Ён прыслаў гэты верш у Маскву майму бацьку, з якім мелі шчырыя сяброўскія адносіны, і я добра памятаю, як з бацькоўскага доктарскага кабінета чутно было, як бацька смяецца. Пасля ён прачытаў верш маёй маці, якая была звязана з сям'ёй Багушэвіча...»

Думаецца, настала самая зручная пара даць нарэшце чытачу згаданую тут колькі разоў байку, якую амаль усе дапісчыкі аднадушна называюць Багушэвічавай. Вось гэты твор:

ПАН І БЛЫХА

Блыха улезла ў пярнат,
Пан з яе ня быў рад.
Стала кусаць пана за брушка,
Тлуста-мяккае, як падушка.
Пасмакуе пана кроў,
Паскача — і смок ізноў.
Пан на бакі варухаўся,
Як цюцька скрабаўся.
Нарэшце, блыху злавіўшы, адазваўся:
«Ты, праклятае насенне,
Не досыць табе, што жывеш без працы,
Яшчэ захацела жыць у палацы?!»
І так, мармычучы пад нос,
Блыху да свечкі ён паднёс.
«Стой! — закрычала блыха тут,—
Праўда гдзе ж?!
Я п'ю з цябе аднаго кроў,
А ты з тысячы людзей п'еш!

Кожны ліст з Польшчы прыносіў усё новыя і новыя звесткі пра Багушэвіча. Апошні ліст Восіп Каспяровіч амаль цалкам прысвячаў лёсу Багушэвічавай шкатулкі. І што цікава: выказанае ў папярэдніх лістах здзіўленне Станіславы Тамашэўскай: «Як Юзаф Каспяровіч мог патрапіць у пакой, дзе стаяла шкатулка з паперамі, калі туды нікога і ніколі пабочнага не пускалі», цалкам знайшло адказ у лісце самога Каспяровіча. Аднак слова аўтару.

«15.XII.77
Колска

Дарагі, незабыты Уладзімір!

Паведамляю, што вершы і фоткі я палучыў, за каторыя вялікі дзякуй! Асабліва дзякую за вершы Ф.Б., за каторыя я б Вас зацалаваў бы да смерці, каб мог. Я іх не толькі сам чытаю. Я чытаю іх сваім землякам, тут іх многа. Чытаем і ўспамінаем і Ваўкелы — балоты, дарожкі, сцежкі, па каторых Мы хадзілі.

Вершы Ф.Б. мне асабліва, то як замучанаму каню вядро вады ды яшчэ чыстай. Яшчэ раз дзякую Вам за кніжкі. Да смерці буду Вам удзячны за іх. Я пастараюся адказаць на Вашы запытанні, парушаныя ў папярэдніх лістах.

Пані Туня рукапісы Ф.Б. перахоўвала разам з рознымі сваімі прыватнымі дакументамі ў Ашмяне пры ложку сваей старой маці. Быў гэта куфэрак — імітацыя даўняга куфра, у каторым даўней паны, а не толькі паны, перахоўвалі сваю адзежу, часта грошы і г.д. Толькі меншы быў, з дзерава, але акуты. Адкрытым я яго бачыў толькі раз. А было гэта так.

Па смерці брата Тома (Тамаша.— У.С.) пані Туня апекавалася трыма братніцамі: Габрысяй, яе пані найбольш любіла, Скалькай і трэцяй, Тусяй, найспакайнейшай. Найстарэйшая, Габрыся, была ўжо замужняя за Мандэгралам, а наступныя дзве былі незамужнія — паненкі...

Прыходжу я раз да Туні ў Ашмяну на ўрокі, а тут у хаце прама пекла! Усе тры сястры і пані стаяць у кухні і моцна сварацца. Адкрыты куфэрак з нейкімі дакументамі. Пані Туня заплаканая, дзяўчаты таксама прама разжаленыя. Пані нешта ім тлумачыць, а толькі Скалька крычыць: «Гэта не толькі належыць цёці». Гляджу — куфэрак адкрыты, з палавіны ў ім нейкіх планаў зямельных і розных рукапісаў. Праз колькі хвілін абдумаліся, што стаіць тут чужы чалавек і выпрасілі ў пакой пані. Выйшаў я, аж гляджу — у пакоі і старая служанка. Пытаюся, што тут такое? А яна: «Ай, дай пакой... Скалька хацела ўкрасці ад пані нейкія паперы, рукапісы старога пана... А пані прылавіла і цяпер крычыць — не знаеш дурных? На якую халеру ім гэтыя паперы — мне толькі шкода пані, так знервавалася праз гэтую Скальку».

Хаця я і сам дадумляваўся з іх разгаворкі, у чым тут справа, але яшчэ даказала мне паніна служанка. У той дзень пані ўрокаў са мной не мела, назначыла іншы дзень. Ад таго часу я ўжо ані Скалькі, ані куфэрка ў пані не відзеў.

Наколькі я знаў іх жыццё, пані Туня яшчэ пры жыцці магла аддаць куфэрак з рукапісамі Г. Мандэгралісе на пераховы... А калі не так, то Габруся пасля смерці Туні магла іх забраць сама. Габруся была да самай смерці пры Туні. Я асабіста перакананы, што рукапісаў шукаць — гэта фантазія. Самі вы знаеце — прайшла страшэнная вайна! Не было каму думаць пра рукапісы, калі тысячы людзей гінула не толькі на франтах, але гарэлі жывымі ў гітлераўскіх крэматорыях...»

Як бачым, праз шмат гадоў пасля смерці Багушэвіча нам удалося з памяці людзей сабраць сякія-такія новыя звесткі пра нашага песняра. І калі перачытваеш яшчэ і яшчэ раз змешчаныя тут нататкі і лісты, то міжволі ахоплівае якаясь шчымлівая, як незагойная рана, думка: «Наколькі б маглі мы ведаць пра нашага паэта больш, каб хоць крыху раней варухнуліся, калі на свеце было шмат жывых сведак, паэтавых сучаснікаў...»

Аж да 1942 года жыў у Вільні Люцыян Узембла, адзін з тых, хто вельмі блізка ведаў нашага паэта. Толькі ў 1937 годзе памёр лепшы Багушэвічаў сябра Зыгмунт Нагродскі. Да 1929 года жывая была Багушэвічава жонка, яго спадарожніца жыцця. Ужо пасля вайны, у канцы пяцідзесятых гадоў, змерла старэйшае пакаленне кушлянцаў...

Шмат чаго маглі б расказаць, мабыць, пра Багушэвіча Браніслаў Эпімах-Шыпіла, Ян Райніс. Нават цяжка пералічыць усіх, хто мог бы ў сваю пару даць каштоўныя звесткі пра бацьку беларускага адраджэння. Сярод іх — Багушэвічава любіміца Гэля Касперавічанка, па мужу Горыд, якая памерла ў 1950 годзе ў Гданьску. Шкадаванню гэтаму няма мяжы, тым больш, калі пачынаеш усведамляць, што ў пэўны прамежак часу і ты ўжо быў на свеце і пры пэўнай скіраванасці мог бы для памяці паэта зрабіць значна больш, чым зрабіў. Але і тыя ўспаміны, якія мы атрымалі ад блізкіх Багушэвічу людзей, дапоўняць жыццяпіс нашага песняра, дапамогуць зразумець абставіны і асяроддзе, у якім ён жыў.

# ЗМЕСТ

*Литературно-художественное издание*
**СОДАЛЬ Владимир Ильич**
**ДОРОГАМИ МАТЕЯ БУРАЧКА**
**Поиски, зарисовки, очерки**

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*
**СОДАЛЬ Уладзімір Ілліч**
**СЦЕЖКАМІ МАЦЕЯ БУРАЧКА**
**Пошукі, замалёўкі, нарысы**

*Рэдактар С.А. Шупа*
*Мастак В.П. Масцераў*
*Мастацкі рэдактар А.І. Дрозд*
*Тэхнічны рэдактар І.І. Дуброўская*
*Карэктар К.А. Крукоўская*

ІБ № 3292

Здадзена ў набор 29.12.89. Падп. да друку 26.09.90.
Фармат 70x100 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная.
Высокі друк. Ум. друк. арк. 8,13+1,95 укл. Ум. фарб.-адб. 10,24.
Ул.-выд. арк. 9,17. Тыраж 3700 экз. Зак. 61. Цана 95 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура»
Дзяржаўнага камітэта БССР па друку.
220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга
паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа.
220005, Мінск, Чырвоная, 23.

Содаль У.

Сцежкамі Мацея Бурачка: Пошукі, замалёўкі, нарысы.— Мн.: Маст, літ., 1991.— 197 с., [24] л. іл.

**ISBN 5-340-00495-3.**

Содаль В. Дорогами Матея Бурачка: Поиски, зарисовки, очерки.

З часу нараджэння Францішка Багушэвіча мінула 150 гадоў. Яго спадчына, вядомая чытачу, шырока даследавана сучасным літаратуразнаўствам, архівы паэта, на жаль, не ацалелі. Аўтару кнігі ўдалося аднавіць шмат якія старонкі жыццёвага шляху паэта, яго асяроддзе, паказаць Ф. Багушэвіча ў Пецярбургу, Доцішках, Нежыне, Волагдзе... Упершыню друкуюцца нарысы пра родных і блізкіх Багушэвічу людзей.

**С $\frac{4603020102 - 176}{М302(03) - 91}$ 86 – 90**

**ББК 83.3Бел1**